ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

17 красавіка 1998 г. № 16/3944 Кошт 4 000 руб.





# *Малітва за беларускі народ*

Уладару неба і зямлі, спрадвечны Божа! Ласка Твая да нябёсаў, а праўда над воблакі! Ты ўвесь свет стварыў і Духам Святым усё прасвятляеш, ажыўляеш і мацуеш. А людскі род так палюбіў, што Свайго Сына Адзінароднага на зямлю паслаў, каб усе, хто ўверыў у Яго, сталі дзецьмі Тваімі, удзельнікамі Нябеснага Твайго Царства.

Мы, дзеці Беларускага Народа, стараліся выконваць Тваю волю і запаветы Твае, у шчырай пакоры просім Цябе, даруй нам свядомыя і несвядомыя правіны нашыя. Сцеражы нас ад усялякіх спакусаў, пашлі нам еднасць, згоду і паразуменне. Умацуй Святым Духам Тваім братоў і сясцёр нашых. Благаслаці нашае святарства і адобры працу сялянства, работнікаў, настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных, урачоў, каб наш народ мог разумна і добра жыць і Цябе, Айца нашага Нябеснага, увесь час славіць.

Асвятлі наш розум Тваім святлом Евангелля, каб мы, як ангелы нябесныя, заўсёды былі з Табою. Пашлі Беларускаму Народу слугаў Сваіх, якія пабожным жыццём і дзейнасцю вялі б наш народ да лепшае долі. Пашлі нам, Госпадзе, дар Духа Святога, каб мы сталіся народам святым і сваё пасланства выканалі, і Табе, спрадвечнаму Ўладару і Богу нашаму, у Святой Тройцы адзінаму, вернасць, падзяку, любоў і славу аддавалі: Богу Айцу, і Богу Сыну, і Богу Духу Святому цяпер, заўсёды і на векі вякоў.

Амінь.

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Тую акалічнасць, што Беларусь — шматканфесійная краіна, нельга адмяніць указам ці пастановай. Нават калі якую-небудзь з беларускіх рэлігій заканадаўча зацвердзіць у якасці "галоўнай", рэальна гэта ніяк не адаб'ецца на нашым жыцці. Каталікі і уніяты ўсё роўна не здрадзяць касцёлу, а мусульмане — мячэці. У нядзелю каталікі адсвяткавалі Вялікдзень, праваслаўныя — Вербніцу, мусульмане яшчэ раней — Курбан-Байрам. "На Беларусі Бог жыве!" — напісаў калісьці Уладзімір Караткевіч. І сапраўды, на зямлі, дзе хапае месца храмам розных рэлігій, знойдзецца месца і для Бога.***

### *КОНКУРС ТЫДНЯ*

Распачаўся конкурс аўтадызайну "Машына часу-98". Гэты конкурс ладзіцца ўжо чацвёрты раз. Канкурсанты падраздзяляюцца на дзве катэгорыі — да 16 гадоў і ад 17 да 21 года ўключна. Дзве намінацыі — "Аўтамабіль у горадзе" і "Грузавы аўтамабіль будучыні". Генеральны спонсар — замежнае прадпрыемства "Аўтахаус Атлант М", афіцыйны прадстаўнік канцэрна "Фольксваген". Хацелася б верыць, што таленавітая моладзь, што возьме ўдзел у конкурсе, з часам прыдбае славу аўтамабільнай прамысловасці Рэспублікі Беларусь, а не з'едзе на Захад, дзе лепшыя ўмовы працы і жыцця. Пакуль што нашымі талентамі "інвестуецца" эканоміка багатых краін.

### *КАНЦЭРТ ТЫДНЯ*



16 красавіка. Канцэртная зала "Мінск". Патрысія Каас. Прэзідэнту РБ французская зорка даслала асабістае запрашэнне на свой канцэрт. Як публіка выбірае сабе артыста, так і артыст выбірае сабе публіку...

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

### *ІНТЭРВ'Ю ТЫДНЯ*

"Звязда" за 15 красавіка надрукавала інтэрв'ю з пісьменнікам Андрэем Федарэнкам "Мне пашэнціла вучыцца ў цалкам беларускамоўнай школе". На пытанне "Заняткі палітыкай і літаратурай, на ваш погляд, сумяшчальныя?" пісьменнік адказаў: "Па вялікім рахунку, палітыка — гэта навука аб насіллі меншасці над большасцю. Таму мне заўсёды дзіка і незразумела, як гэта людзі могуць траціць сваё адзінае, непаўторнае, дадзенае Богам жыццё на такую, з дазволу сказаць, "прафесію"...

Але гэта — па вялікім рахунку. Справа ў тым, што калі жывеш у нармальным грамадстве, дык і адносіны да такой хімеры, як палітыка, нармальныя — яе проста не заўважаеш. Калі ж грамадства хворае на палітыку, як на вірус грыпу, міжволі заражаюцца ўсе — хто хоча і хто не хоча. Як і ў нашым выпадку. На добры лад, канешне ж, палітыка і мастацтва — антыподы, але ж на добры лад! У нас калі ты пісьменнік, ты аўтаматычна палітык, калі ты да ўсяго пісьменнік беларускамоўны — ты палітык ужо "маштабны", патэнцыяльна небяспечны для любой улады..."

### *ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ*

15 красавіка ў Мінску адкрыўся II Міжнародны фестываль рэкламы "Залаты воўк". Акрамя нашай краіны, у ім бяруць удзел рэкламісты з Польшчы, Украіны і Расіі. Арганізатары фестывалю — шэраг дзяржаўных устаноў, рэкламных агенцтваў і кампаній. На фестывалі будзе названа "Агенцтва года", лепшы рэкламадаўца, лепшы нерэалізаваны праект. Першы прыз — "Залаты воўк".

### *ІМПРЭЗА ТЫДНЯ*

Мінскі аркестр "Калегіум-музікум" пад кіраўніцтвам Вячаслава Бартноўскага даў канцэрт у касцёле святых Сымона і Алены (Чырвоным). Гэтая велікодная імпрэза прадоўжыла вядомы ў культурным сталічным асяроддзі цыкл "Духоўнае адраджэнне на парозе XXI стагоддзя". Праграма канцэрта, які адбыўся ў аўторак пасля вячэрняй імшы, складалася з узораў класічнай музыкі. Наступнае выступленне аркестра ў Чырвоным касцёле плануецца на 7 мая: "Рэквіем" В. А. Моцарта.



*На здымку — Вячаслаў БАРТНОЎСКІ.*
*Фота Віт. АМІНАВА*

### *ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ*

Эсэ Рыгора Барадуліна "Перачытваючы "Карнікаў" надрукавана ў "Нашай ніве" за 13 красавіка. Аўтар разглядае вядомую кнігу Алеся Адамовіча "Карнікі" як твор-прадбачанне, твор-папярэджанне. Рыгор Барадулін убачыў у "Карніках" глыбокае асэнсаванне вытокаў фюрэрства і жахлівыя вынікі ўлады фюрэра. "Алесь Адамовіч як сапраўдны празорца зрабіў мастацкае даследаванне будучыні, — піша аўтар, —...бо адчуваў, што, як і заўсягды ў гісторыі людства бывала, усё можа паўтарыцца і ў пачварных, і нават у трагікамічных варыянтах". Але "кары не мінуюць ні фюрэры, ні выканаўцы іхніх загадаў — карнікі. Кара вяртаецца да таго, хто карае..."

---

*ЮБІЛЕІ*

# Сто гадоў на дваіх

Аматары сенсацыйных лічбаў далей могуць не чытаць, бо загаловак азначае ўсяго толькі "журналісцкую матэматыку". А менавіта: сукупны ўзрост Акадэмічнага сімфанічнага аркестра (70) ды Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі (30) "цягне" на стагадовы юбілей. І свята з гэтай нагоды было амаль агульнае: урачыстасці — два вечары запар, у Вялікай зале сталічнай філармоніі, таксама, дарэчы, імяніннiцы, на 10 гадоў маладзейшай за Сімфанічны аркестр і ўдвая старэйшай за Камерны; пад фестывальным знакам традыцыйнай "Мінскай вясны"; з многімі агульнымі гасцямі...

Ды ўсё ж "юбілеілі" аркестры не разам, а па чарзе. І кожны на свой лад.

Акадэмічны сімфанічны віншавалі, пра яго казалі шмат добрага: ветэран-вядучы Уладзімір Шалixін; першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, які зачытаў і віншаванне ад прэзідэнта Беларусі; генеральны дырэктар ... НАТО (Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы) А. Кірыенка; дырэктар оперы С. Картэс; Саюз кампазітараў на чале з І. Лучанком; рэктар Акадэміі музыкі М. Казінец; дырэктар Рэспубліканскага каледжа пры БАМ У. Кузьменка; мастацкі кіраўнік Сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё А. Лапуноў; мастацкі кіраўнік БДФ Ю. Гільдзюк...

Былі тэлеграмы: ад старэйшага дырыжора, якому сёння далёка за 90, які ўзначаліў наш аркестр у 37-м і які вельмі хацеў прысутнічаць на юбілеі, ды здароўе падвяло, — І. Мусіна; ад кіраўніцтва Дзяржаўнай капэлы Расіі; ад беларускага балета і В. Елізар'ева; ад маэстра М. Фінберга і калектыву, які ён узначальвае, — тэлеграма, між іншым, дасланая па-беларуску...

Былі прывітанні ад пасольстваў Расіі, Украіны і Францыі.

А яшчэ юбіляр прымаў музычныя падарункі: ад муніцыпальнага аркестра духавых інструментаў "Няміга" і артыстаў оперы, ад калектыву юных віртуозаў пад кіраўніцтвам У. Перліна і салістаў — выхаванцаў Рэспубліканскага каледжа пры БАМ Алега Яцыны, Гарыка Анішчанкі, Алёшы Кісялёва, Валодзі Сінькевіча; ад піяністаў Ц. Сергіені, А. Сікорскага, ансамбля флейтыстаў "Сірынкс" ды Дзяржаўнага камернага аркестра пад кіраўніцтвам І. Э. Райля...

Сімфанічны аркестр пачуваў сябе сапраўдным імяніннікам: папраўляць даваліся толькі ў другім аддзяленні, калі пераапранутыя "ў рабочую форму" дырыжор Міша Кац ды музыканты, выслухаўшы заключныя прамовы-віншаванні, сыгралі ў адказ бліскучага Рыхарда Вагнера, уступ да 3-й дзеі оперы "Лаэнгрын".



А вось іхнім калегам з Дзяржаўнага камернага аркестра давялося святкаваць, працуючы. Яны гралі амаль дзве гадзіны. Змяняліся толькі дырыжоры за пультам — тыя, хто ў розны час узначальваў наш Камерны: Віктар Собалеў ды Аляксандр Палянічка "падзялілі напалам", сыграўшы па дзве часткі, "Струнную сэрэнаду" Чайкоўскага; цяперашні мастацкі кіраўнік Інга Эрнст Райль завяршаў праграму творамі Ёзафа Сука ды Дзюка Элінгтана. Яшчэ былі хвіліны музыкі ў памяць пра маэстра, з імем якога звязаны яркія старонкі гісторыі калектыву, — Юрыя Цырука: Адажыо з альтовага Канцэрта Гофмайстара гралі без дырыжора, саліравала адзіная прадстаўніца першага складу аркестра Лючыя Ластаўка.

У стваральніка колішняга Мінскага камернага, вядомага арганіста, кампазітара, дырыжора, народнага артыста Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, прафесара Алега Янчанкі быў у той вечар своеасаблівы бенефіс. Да 30-годдзя свайго "дзіцяці" наш маскоўскі госць і добры сябра напісаў праніклівую інструментальную "Малітву", якой і прадырыжыраваў, — у падарунак тым, з кім давялося працаваць, тым, хто сваткуе сёння, тым, хто пасылае настальгічныя віншаванні з далёкіх краін. І ў памяць пра тых, каго няма... Светлая і трывожная мелодыя вядомай ужо "Медытацыі" А. Янчанкі завяршала вечар: аўтар — за арганам, за пультам — маэстра Райль...

А вось агульнае ўражанне ад імпрэз было іншае: нейкая аголеная, не аздобленая кветкамі сцэна; прыкрыя пусткі ў партэры (патэнцыяльныя госці праігнаравалі раздадзеныя запрашэнні?); па вялікім рахунку абыякавае стаўленне дзяржавы да выканальніцкай эліты (ці не таму гэтак імкліва змяняецца склад аркестраў? Ці не таму большасць музыкантаў пачуваюць сябе тут гэткімі транзітнымі пасажырамі на шляху да лепшай долі, да адэкватнага прызнання свайго таленту і вынікаў творчай працы?).



Агульнае было і ў тым, што падчас юбілейных імпрэзаў не прагучала ніводнай ноты з твораў беларускіх кампазітараў! Традыцыі Мусіна і Каламійцавай, Дуброўскага і Яфімава, Катаева і Цырука, якія працавалі са сваімі аўтарамі, выдае на тое, сканалі? Але ж без нацыянальнай аздобы багатага і выбітнага рэпертуару самы класны аркестр выглядае, прабачце, крышачку правінцыйным...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: маэстра Алег ЯНЧАНКА; саліруе Лючыя ЛАСТАЎКА.*

*Фота К. ДРОБАВА*

---

*НОВАЕ*

# Дом, збудаваны паэтам

Не паспелі мы паведаміць пра выхад у "Залатой серыі" кнігі Раісы Баравіковай "Сад на капялюшыку каханай", якой наканавана было стаць першынцам у гэтай бібліятэцы, як "Мастацкая літаратура" парадавала аматараў паэзіі кнігай яшчэ аднаго таленавітага прадстаўніка сённяшняга сярэдняга пакалення беларускай літаратуры Леаніда Дранько-Майсюка.

"Гаспода" — так называецца ягоны аднатомнік выбранага. Змест кнігі склалі творы з пяці папярэдніх зборнікаў паэта, што былі прыхільна сустрэты і чытачамі, і крытыкай: "Вандроўнік" (1983), "Над пляцам" (1986), "Тут" (1990), "Акропаль" (1994) і "Стомленасць Парыжам" (1995). А на вокладку вынесена рэпрадукцыя з каляровай літаграфіі Рыгора Сітніцы "Гальшанскія мроі".

Мроі аб даўніх падзеях... Мроі аб нашай багатай і складанай гісторыі... Мроі аб сучаснасці, якая існуе не ізалявана, не ў нейкім вакууме, а цесным чынам звязана з тым, што было раней, гэтаксама, як і лучыцца з будучыняй... Таму гэта і мроі аб вечнасці. Мроі мастака і мроі паэта, аднолькава ўлюбёных у Бацькаўшчыну і заклапочаных тым, каб на ёй і ў ёй усё было гэтаксама, як і ў людзей. І нават лепш. І кожны, з іх імкнецца перадаць гэта дзякуючы магчымасцям уласнага таленту...

Назва "Гаспода" для аднатомніка Л. Дранько-Майсюком узята невыпадкова. Правільней сказаць — перш чым з'явіцца, яна была старанна абдумана, асэнсавана. Гаспода ж — з шэрагу слоў, якія сёння набываюць шырокае гучанне: Гаспода, Гаспоздь Бог, спадар, гаспадарства. У паняцці "гаспода", на думку Л. Дранько-Майсюка, закладзены глыбокі сэнс. Гаспода — гэта адначасова і дом, пабудова, будынак, і тэрыторыя, што прылягае да іх. Адным словам, дом сапраўднага гаспадара. Пасля Янкі Купалы і Якуба Коласа слова "гаспода" ў сваёй творчасці амаль ніхто не ўжываў. У Коласа ж яно гучыць у знакамітай "Новай зямлі".

Тым самым атрымліваецца, што пад гэтай маляўніча-афармленай вокладкай знаходзіцца "паэтычная гаспода" Л. Дранько-Майсюка, якой ён развітваецца з дваццатым стагоддзем і пільна ўглядаецца ў новае, дваццаць першае, да якога, як падлічана ўжо, засталося менш за тысячу дзён.

---

У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА"

*Дазвольце праз Вашу газету шчыра падзякаваць усім-усім, хто павіншаваў мяне з 70-годдзем і сказаў добрае слова пра маю асобу.*

*Шчыра* — У. ДАМАШЭВІЧ

АНКЕТА

# Што з'езд чарговы нам рыхтуе?

***Завяршаючы перадз'ездаўскую анкету, друкуем адказы астатніх нашых рэспандэнтаў.***

***А пытанні былі такія:***

***1. Якой вам уяўляецца бліжэйшая будучыня Саюза пісьменнікаў і што для яе павінен зрабіць з'езд?***

***2. З якімі асобамі (альбо генерацыяй) звязваеце вы магчымае абнаўленне дзейнасці пісьменніцкай суполкі?***

### Галіна БАГДАНАВА-САЧАНКА

**1.** Цяжка сёння нашай краіне і не можа быць лёгка нам, людзям з агаленымі нервамі і гарачымі сэрцамі. Можа, паспрабуем усё ж на з'ездзе прыўзняцца над уласнымі амбіцыямі і крыўдамі і пагаварыць пра тое, пра што з гэтай трыбуны гаварылі Іван Мележ, Уладзімір Дамашэвіч, пра тое, аб чым ішла гаворка на апошнім "перабудовачным" з'ездзе савецкіх пісьменнікаў. Палітыкі, якіх абудзілі тыя словы, на жаль, не спраўдзілі надзей. Значыць, усё спачатку. Сёння яшчэ ёсць магчымасць выпрацаваць стратэгію і тактыку, каб дапамагчы нашаму народу стаць культурным і цывілізаваным, каб вярнуць у наш Дом мележаўскі, танкаўскі дух спагады, узаемапавагі, узаемаразумення і галоўнае — шчыры клопат аб тых, хто ідзе следам. Яны павінны мець магчымасць ладзіць свае вечары ў Доме літаратара, працаваць і адпачываць у "Іслачы", лячыцца ў сваёй паліклініцы... Ніколі і нідзе ў цывілізаваным грамадстве творцы-асобы не былі пад ценем улады. Толькі на роўных.

**2.** Але каб быць з уладай на роўных, нам сёння патрэбен Дон Кіхот. Сучасны Дон Кіхот — мудры, аўтарытэтны творца, які добра ведае калідоры ўлады, здольны адчыніць любыя дзверы і прымусіць сябе паважаць, здольны падняць і вырашыць на любым узроўні нашы балючыя пытанні. Ёсць сярод нас такія. Няшмат, але ёсць. Іхнія імёны на слыху. Але ж першыя, каго давядзецца абараняць нашаму Дон Кіхоту, — гэта мова і літаратура, таму някепска было б, каб ён ужо ўзгадаваў і выхаваў дзяцей, а можа, і ўнукаў, якія не цураюцца, а любяць, шануюць сваё, роднае. Поруч з такім старэйшынам стануць і маладзейшыя, і зусім маладыя. Сёння мы не маем права быць паасобку, нават не дзеля нас саміх, а дзеля тых, хто за намі, дзеля тых, хто хоча ўступіць не ў цэх пекараў ці кaaлератараў, а ў наш з вамі цэх. Нельга пазбаўляць грамадства камертона духоўнасці. Калі ж той страшны, чорны цень усё ж дабярэцца да нашых душ і на з'ездзе ўсіх нас апануе прага закідаць адно аднаго камянямі, пасварыцца, разбегчыся хто куды, давайце спынімся, згадаем хаця б словы Максіма:

***Нашто на зямлі***
***Сваркі і звадкі, боль і горыч,***
***Калі ўсе мы разам ляцім***
***Да зор?***

### Васіль ЖУКОВІЧ

**1.** Гаварыць пра заўтра немагчыма прамінаючы с ё н н я, з якога прарастае будучае. А сённяшні СБП нагадвае аморфную партыю (скажам умоўна — сялянскую), якая ёсць дэ-юрэ, але ж дэ-факта невядома ці існуе, як і за што змагаецца. Сапраўды, за якія ідэалы выступаюць і што дзеля іх робяць кіруючыя сілы СБП? Пра гэта не ведае, пэўна, большасць пісьменнікаў, не кажучы аб прыхільніках прыгожага пісьменства. За 8 гадоў ніводзін з кіраўнікоў не выступіў у СМІ і не расказаў пра дзейнасць нашай творчай арганізацыі, Дома літаратара, пра тое, што набыта і што страчана за апошнія гады, што радуе і што баліць.

Вядома, што кіраўніцтва дайшло да гаспадарчага суда. А як судзілася і чым усё скончылася? У час галоснасці такое маўчанне выглядае дзіўнаватым.

Гэтаксама і з творчымі пытаннямі. Мо хтосьці мяркуе, час прапаганды і абароны духоўных скарбаў прайшоў? Не, не прайшоў. Маўчанне — гэтаксама прапаганда, толькі чаго?.. Усяго таго, што супраць беларушчыны. Хто ж, нарэшце, з цяперашніх кіраўнікоў затрывожыўся публічна, абурыўся супраць вырвання ў садкі і школы краіны павальнай русіфікацыі?! Няўжо так нізка ўпаў дух пасля таго, як выслізнулі пытанні дзяльбы кватэр, машын, іншыя выгоды?

З імглой, у якую мы трапілі невыпадкова, маглі б неяк пазмагацца свежыя ветры... СБП павінен змяніцца карэнным чынам, каб мог абараняць правы прафесійных літаратараў. Трэба наладзіць сваю выдавецкую дзейнасць, каб не пакрываліся пылютаю хаця б таленавітыя рукапісы. Як гэта робіцца, запытайцеся ў Кастуся Цвіркі, які ажыццяўляе ўжо выпуск шостага тома залатой бібліятэкі Беларусі.

**2.** Усе справы, усе дзеі, як добрыя, так і благія, пачынаюцца з людзей, іх якасцяў. Праблема выбару дзейснага кіраўніцтва ўпіраецца ў інертнасць, блізарукасць, апатыю многіх пісьменнікаў, якія неўзабаве стануць выбаршчыкамі. Не дай Бог з'езд выбера на галоўныя пасады прытоеных кар'ерыстаў альбо проста "добрых хлопцаў". Быць добрым тут малавата, добрым для сябе — недаравальная "раскоша" для суполкі. У экстрэмальных умовах бяздзейнасць згубная. Выйсце адно — варушыць мазгамі. Кіраваць павінны кампетэнтныя, ініцыятыўныя, з прадпрымальніцкім нюхам пісьменнікі, але абавязкова прыстойныя, аўтарытэтныя, верныя нацыянальнай ідэі. З тых, хто не толькі хоча, а і можа, і павінен. А інакш, кажучы словамі "Паўлінкі", "з нашэго кохання... ніц не бэндзе".

Пытанне выбару цяпер самае складанае і адказнае, бо капітуляцыя перад імглою, раўназначнай цемры, — гэта зло. Лічу таксама злом магчымы раскол, якога б характару ён ні аказаўся і кім бы ні быў "спраектаваны".

### Уладзімір КАЗБЯРУК

**1.** У падтэксце першага пытання хаваецца трывожная згадка: што будзе з беларускай мовай? А яе далейшы лёс залежыць у значнай ступені ад лёсу пісьменніцкай арганізацыі, а калі больш дакладна — ад таго, ці будзе працягвацца мастацкая творчасць на беларускай мове.

Наконт чарговага з'езда асаблівых ілюзій не маю. Чаму? Без Дома літаратара, які не было каму абараніць, мы, лічу, бездапаможныя. Тым болей, што прывыклі кіраўніцтва камандай зверху і дасюль не адчуваем адказнасці за свае ўласныя паводзіны.

**2.** СП павінны ўзначальваць аўтарытэтныя пісьменнікі, найбольш адданыя нацыянальнай справе. Такія ў нас ёсць. Калі ў мінулыя часы некаторыя дзеячы з ЦК глуміліся над памяццю і спадчынай Алеся Гаруна, то Ніл Гілевіч бескампраміснa і смела сказаў пра гэта з усесаюзнай маскоўскай трыбуны. І яны нічога зрабіць не далі рады. Ды яшчэ добра насмяшылі людзей, стаўшы персанажамі анагімнай паэмы. Вельмі хацелася б, каб будучае кіраўніцтва СП засвоіла той і іншыя ўрокі патрыятычнай прынцыповасці.

### Ігар ПРАКАПОВІЧ

**1.** Чаго едзе на з'езд літаратар з правінцыі? Напэўна, каб вырашыць для сябе тры праблемы: 1) высветліць далейшы лёс СБП; 2) даведацца пра новага кіраўніка творчай супольнасці і 3) сустрэцца з сябрамі. Апошняе самае прыемнае. Але сціслы тэрмін, адведзены для ўсіх працэдур з'езда, пакідае зусім сціплую надзею на тое, што ўдасца паціснуць усім знаёмым рукі, не кажучы, каб пасядзець за шклянкай кавы.

"Быць ці не быць творчаму саюзу — гэта пытанне апошнім часам гучыць з вуснаў некаторых літаратараў", — так пачынаў свой даклад на мінулым з'ездзе Васіль Зуёнак. Так ён можа пачаць яго і зараз. Творчая плынь мае падабенства з загусцелай і вязкай магмай стратавулканаў, якая ў кратэры вядзе сябе актыўна, кіпіць і бунтуе, а выплеснуўшыся на паверхню ператвараецца ў нерухомую і халодную лаву. Што ж, усім гэта знаёма. Нават тэрмін прыдуманы навуковы: с т а г н а ц ы я (відаць, ад беларускага слова "стагнаць"). Як на мой розум, дык праблему "быць — не быць" не варта і падымаць. Тым, хто прыйдзе на з'езд, відаць, саюз патрэбен, а тых, каго ён ужо стаміў, могуць і не прыходзіць. Калі калегі пагодзяцца з гэтай думкай, то першую праблему можна закрыць яшчэ да з'езда.

З другой праблемай цяжэй. Даклады, выступленні, спрэчкі, дыскусіі, паведамленні, запыты, прапановы, адводы і самаадводы і іншыя механізмы з'езда могуць прывесці да таго, што падлік галасоў пісьменніцкага "рэферэндуму" прыйдзецца праводзіць пры святле маладзіка і пры няпоўным кворуме, бо правінцыял-літаратар, які па сумяшчальніцтве з'яўляецца і настаўнікам, за ноч павінен дабрацца неяк дадому і ў першы пасляз'ездаўскі дзень правесці сем урокаў. Але, каб пазбегнуць такой перспектывы, ёсць, на маю думку, нядрэнны варыянт. Пасля справаздач старшыні СБП і старшыні рэвізійнай камісіі без абмеркавання перайсці да выбараў. Што могуць даць выступленні ў спрэчках па дакладах? Эмацыйныя нейкія ўсплескі ды асобныя факты. Гавораць, што калі ў спрэчках не нараджаецца ісціна, то гэта — дыскусія. Ні разу не даводзілася назіраць працэсу родаў пры вялікім сходзе народу. А тым, хто жадае пазнаёміцца з думкамі, якія маглі б быць выказаныя ў выступленнях, проста параіў бы адкрыць "ЛіМ" за 13 мая 1994 года і пачытаць выступленні аратараў мінулага з'езда. Там усё настолькі сучасна, што можна падумаць, што тады была рэпетыцыя.

Такім чынам, мы прайграем у эмоцыях, але зэканомім час. У некаторых можа ўзнікнуць крыўда, што яму не далі слова, не выслухалі "голас мас". Калі ў чалавека ёсць канкрэтныя прапановы, то іх можна падаць і пасля з'езда. Бачыцца такі варыянт: праз месяц-другі "ЛіМ" публікуе праект праграмы развіцця СБП на бліжэйшую перспектыву і прапануе: "спадары пісьменнікі, чакаем вашых заўваг і прапаноў".

**2.** Каго выберам старшынёй саюза? Персаналіі назваць цяжка, бо з туманных Паставаў дрэнна бачна сталіца. Вядома, будзе прапанавана некалькі кандыдатур. Вось тут бы і аддаць наш каштоўны час прэтэндэнтам на ролю лідэраў творчага саюза. Хай бы выказалі, што кожны плануе зрабіць на пасадзе старшыні і з якой камандай спадзяецца рэалізаваць сваю праграму.

*(Працяг на стар. 4)*

АБСЯГІ

*ГРОДНА...*

## У касцёле брыгітак

Касцёл і кляштар брыгітак у Гродне пабудаваны ў 1642 годзе. Пасля вайны быў зачынены, разбурана званіца. Адрамантаваны ў канцы 80-х, мае вельмі сціплы інтэр'ер. Са старых рэчаў вярнулася ў касцёл толькі драўляная скульптура Хрыста, падараваная гродзенскай моладзі вядомым фалькларыстам і фатографам Янам Булгакам. Кляштар заняты пад бальніцу. Сяброўкі Хрыста жывуць у доме праз вуліцу, які адрэставравалі. Але іх адтуль пастаянна высяляе гарвыканкам.

У касцёле вядзецца набажэнства на польскай, беларускай, рускай і літоўскай мовах. Чысты і сціплы, не запалітызаваны касцёл, у якім светла сумаўляюцца з Богам усе народы.

**Алена ГАЙКО**

*МАГІЛЁЎ...*

## Тытулаваны стыпендыят

25-годдзе сваёй творчай і настаўніцкай дзейнасці адзначылі вядомыя ў нас Святлана і Іван Кундзянкі — сямейная пара выкладчыкаў Магілёўскага музычнага вучылішча імя Рымскага-Корсакава. Святкаванне адбылося ў ліцэі музыкі і харэаграфіі, дзе сабралася ўся творчая эліта горада. Не дзіўна, бо Кундзянкі шмат зрабілі дзеля развіцця юных талентаў абласнога цэнтра. З музыкай звязаў сваё жыццё і сын Павел, які ў 17 год заваяваў ужо мноства прэстыжных тытулаў на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. Атрымліваў Павел некалькі імянных стыпендый: міжнароднага дабрачыннага фонду "Новыя імёны планеты", прэзідэнцкага фонду падтрымкі маладых талентаў, двойчы быў стыпендыятам фонду Уладзіміра Співакова.

## З аншлагам

Абласная філармонія пастаралася — і жыхары Магілёва змаглі пазнаёміцца з новымі канцэртнымі праграмамі расійскіх эстрадных выканаўцаў: Аляксандра Разенбаўма, Ірыны Алегравай і Ігара Крутога. Нягледзячы на вялікі кошт білетаў, у зале Палаца культуры "Хімвалакна" быў аншлаг.

А знакаміты магілёўскі бард, лаўрэат міжнароднага конкурсу аўтарскай песні "Пецярбургскі акорд-96" Аляксандр Баль выступіў (таксама пры дапамозе філармоніі) у Акадэміі музыкі.

## Ці будзе ў Бабруйску капліца?

У Бабруйску канфліктуюць вернікі Свята-Мікола-Сафійскага храма і мясцовыя выканаўчыя ўлады. Справа ў тым, што летась храм атрымаў дазвол ад гарвыканкама на праектаванне і ўзвядзенне капліцы на гарадскіх могілак (перакрыжаванне вуліц Крылова і Мінскай). Будаўнікі пачалі закладваць падмурак. Але сёлета ў лютым гаркам КПБ звярнуўся да ўлад горада: маўляў, недапушчальна будаваць капліцу побач з брацкімі могілкамі, дзе пахаваны загінуўшыя ў баях савецкія салдаты. Аўтары звароту патрабавалі ад улад "спыніць рэлігійны разгул і ўседазволенасць".

Гарвыканкам вырашыў адмяніць сваё рашэнне аб выдзяленні зямельнага ўчастка і выказаў жаданне кампенсаваць вернікам грашовыя выдаткі, звязаныя з пачаткам будаўніцтва. Аднак парафіян храма такая прапанова не задаволіла. Яны, як паведаміла "Магілёўская праўда", арганізавалі на месцы будаўніцтва сустрэчу з прадстаўнікамі мясцовых грамадскіх арганізацый, адміністрацыі Першамайскага раёна Бабруйска і мясцовай прэсай. Адстойванне правоў на капліцу не прынесла пакуль ніякіх вынікаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБСК...*

## Мода на "Белай амфары"

Віцебск рыхтуецца да чарговага рэспубліканскага конкурсу мадэльераў-дызайнераў і манекеншчыц "Белая амфара", які адбудзецца напрыканцы красавіка. 145 мадэльераў-дызайнераў і творчых калектываў з розных гарадоў Беларусі прадставяць 176 калекцый адзення і абутку. Заснавальнікі конкурсу — канцэрн "Беллегпрам", культурна-дзелавы цэнтр ААТ "КІМ" і Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт. Журы ўзначаляць масквічы: мастак-мадэльер Міла Надточый і рэдактар часопіса "Я — мадэльер" Юрый Юр'еў.

Упершыню ў межах "Белай амфары" пройдзе дзень дзіцячай моды. У конкурсе возьмуць удзел юныя мадэльеры ва ўзросце да 12 год.

Пераможцы конкурсу атрымаюць грашовыя прэміі і каштоўныя падарункі.

## Чакаецца парад прэм'ер

Сёння ў канцэртнай зале Сафійскага сабора пачынаецца XI Полацкі міжнародны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. У фестывалі прымуць удзел салісты Вялікага тэатра Расіі на чале з Ірынай Архіпавай, арганіст з Германіі Іахім Айхгорн, Літоўскі камерны аркестр, віленскі хор "Маладая музыка". Шырока будзе прадстаўлена беларуская мастацтва. Чакаецца парад прэм'ер сучасных кампазітараў А. Кароткіна, Н. Давідоўскай.

**Святлана ГУК**

## "Гліняны Вялес-97"

Таварыства вольных літаратараў сёлетняе ўручэнне сваёй літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес" прымеркавала да 80-годдзя ўтварэння БНР. Лепшай кнігай за 1997 год ТВЛ назвала зборнік апавяданняў Лявона Вашко "Паэты-цары" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). "Інаўгурацыя" адбылася на цвінтары полацкага Сафійскага сабора побач з Барысавым камянём. Па традыцыі лаўрэат прачытаў "інаўгурацыйнае спавяшчэнне". Глінянага стода Вялеса, апекуна мастацтва, уручыў празаіку каардынатар ТВЛ Алесь Аркуш.

**Алесь КОЗІК**

*БРЭСТ...*

## Зусім не аматары

Экспазіцыя твораў мастакоў-аматараў Бярозаўскага раёна адкрылася ў выставачнай зале абласнога ўпраўлення культуры. Адразу 10 аўтараў — жывапісцаў, графікаў, інкрустатараў саломкай — атрымалі магчымасць пазнаёміць берасцейцаў са сваёй творчасцю. Такая колькасць імён абумовіла стылявую і жанравую разнастайнасць экспазіцыі. Увагу наведвальнікаў прыцягваюць партрэты У. Навумлюка, нацюрморты і пейзажы А. Вішнеўскай, Я. Іванова, М. Маразюка... Цэлы шэраг карцін, як адзначылі члены Саюза мастакоў А. Алонцаў і С. Казак, не падлягаюць пад катэгорыю аматарскіх.

Работы бярозаўскіх мастакоў будуць экспанавацца месяц, а на чарзе — выстава твораў іхніх калег з Драгічынскага раёна.

**Сымон АКСЕНІН**

## Падручнікі ўхвалены

Прайшло чарговае пасяджэнне дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы. Вёў пасяджэнне старшыня дзяржаўнай камісіі, намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь У. Замяталін. Пра тое, як праходзіла падрыхтоўка рукапісаў па літаратуры, паведаміў кіраўнік філалагічнай секцыі гэтай камісіі А. Бардовіч. У секцыю паступілі адзін рукапіс падручніка і тры рукапісы вучэбных дапаможнікаў. "Дабро" атрымалі два вучэбныя дапаможнікі, адрасаваныя вучням адзінаццатага класа. Гэта "Литература народов мира: XX столетие", аўтарамі якога з'яўляюцца Е. Лявонава і Л. Баршчэўскі, і "Родная літаратура" (аўтары Т. Саўчук і У. Дзіско). Рукапіс вучэбнага дапаможніка для 8 класа, "Русская литература", напісанага Я. Перавожнай, Т. Мушынскай і іншымі, пасля прыняцця заўваг рэцэнзентаў (у прыватнасці, больш аргументавана павінна праводзіцца думка аб сувязі рускай літаратуры з беларускай), рэкамендаваны да выдання ў якасці падручніка. Такі ж лёс і падручніка "Беларуская літаратура" для 11 класа (аўтары Я. Адамовіч, М. Мішчанчук і іншыя), што праходзіў дапрацоўку з улікам заўваг рэцэнзентаў.

## Прысвячаецца Адаму Міцкевічу

На чарговым пасяджэнні секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей было абмеркавана пытанне аб удзеле ў мерапрыемствах, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Разам з перакладчыкамі ў рабоце секцыі ўдзельнічала група студэнтаў і выкладчыкаў славістычнага факультэта філфака БДУ. Было вырашана правесці рэспубліканскі конкурс даследчых прац вучняў і студэнтаў па тэматыцы, звязанай з жыццём і творчасцю славутага паэта. Акрамя таго, вырашылі абвясціць конкурс на лепшы пераклад з Міцкевіча. Прычым былі выбраны два абавязковыя пераклады: "Do Niemna" ("Да Нёмана") і "Pesn filaretov" ("Песня філарэтаў"), яшчэ адзін верш ці ўрывак з больш буйнога твора ўдзельнік конкурсу можа выбраць сам.

Вырашана звярнуцца ў Міністэрства культуры з просьбай аб падтрымцы названых мерапрыемстваў. Усім, хто пажадае прыняць удзел у конкурсе, звяртацца на адрас: 220030, Мінск, вул. Карла Маркса, д. 31, кафедра славянскіх літаратур.

М. КЕНЬКА,
сакратар секцыі

## Гумар не ведае межаў

І ў гэтым пераконвае творчасць вядомага ўкраінскага паэта-гумарыста і сатырыка Сцяпана Алейніка, творчасць якога добра вядома і ў Беларусі. Сцяпан Іванавіч быў прадстаўлены ў нас сваімі лепшымі творамі і ў аўтарскіх кнігах "Гумар і сатыра" (1959), "Цуд у чаравіку" (1970), і ў шматлікіх газетных, а таксама часопісных публікацыях. А адбылося гэта дзякуючы М. Аўрамчыку, Г. Бураўкіну, Х. Жычку, В. Коўтун, М. Лужаніну, В. Рагойшу, П. Прыходзьку і іншым перакладчыкам. У сваю чаргу С. Алейнік прысвяціў нашай рэспубліцы верш "Беларусі", пераклаў на ўкраінскую мову творы У. Корбана, якія ўвайшлі ў зборнік "Тона попелу" (1964).

3 красавіка Сцяпану Іванавічу споўнілася б 90 гадоў, а пайшоў ён з жыцця ў 1982 годзе.

Н.К.

## Запрашае "Змена"

<u>21 красавіка</u> а 19 гадзіне ў кінатэатры "Змена" адбудзецца прагляд дакументальных фільмаў студыі "Летапіс" "Дыярыуш Наваградскі", "Адам і Марыля". На сустрэчу з кінагледачамі прыйдуць пісьменнікі Адам Мальдзіс, Кастусь Цвірка і Уладзімір Мархель, а таксама кінарэжысёры Юрый Марухін і Рычард Ясінскі.

<u>24 красавіка</u> а 18 гадзіне музычна-паэтычная гасцёўня "Эскіз" запрашае на канцэртную праграму Мілы Скарняковай.

ПОГЛЯД

# Зайздрасць

Зайздрасць: слова з дзесяці літар, з якіх толькі дзве галосныя! Рускае "зависть" мае зусім іншае гучанне, адразу асацыіруецца з "зависеть", "висеть" і г. д. Беларуская ж "зайздрасць" звініць ("зайз"), драпае ("др") і сячэ ("ць"). які найдакладнейшы агучаны сэнсавы вобраз!

Усе чалавечыя жарсці небяспечныя сваімі наступствамі, але зайздрасць з іх — найстрашнейшая. Бо цяжка прасачыць, як і з-за чаго яна раптам уздыме ў душы чалавека свой пачварны твар Мядузы Гаргоны; бо часта немагчыма ўсвядоміць, дзе тая мяжа, на якой бы яна прыпынілася. Адна з асноўных, вырашальных якасцей зайздрасці — слепата. Але гэта слепата своеасаблівая. Зайздрасць, паступова раздзімаючы сябе знутры, пачынае бачыць паўсюдна толькі сваё ўласнае пачварнае адлюстраванне. "Чаму яму ўсё, а мне нічога, ён жа такі самы, як я, дзе справядлівасць?!" — такімі пакутлівымі думкамі з'ядае сябе зайздрасць, не жадаючы бачыць, што гэты немудрагелісты спектакль інсцэніраваны ёй жа самой!

Самае першае ў сусветнай гісторыі забойства было здзейснена менавіта праз зайздрасць — забойства Каінам Авеля. І самае жудаснае ў сусветнай гісторыі забойства адбылося таксама праз яе — забойства тамтэйшымі першасвятарамі Хрыста. Евангеліст падкрэслівае: "Пілат ведаў, што прадалі Яго з-за зайздрасці!". Такім чынам зразумела, што зайздрасць не прыпыняецца ні перад чым — ад братазабойства да богазабойства! З-за зайздрасці, як мы ведаем са Святога Пісання, была парушана гармонія сусвету і ў гэты сусвет увайшло зло. Якая гэта сапраўды жудасная жарсць, калі нават самы светлы, самы найпрыгажэйшы Анёл не змог перад ёй устаяць! Ён пазайздросціў Богу, і ў рэшце рэшт быў абрынуты з нябёсаў, "з князёў у гразь". І ў гэтай "гразі" ўсё роўна не здолеў ён пазбавіцца зайздрасці, і пазайздросціў чалавеку, і зрабіўся "чалавеказабойцам ад пачатку". Аб гэтай містычнай першапрычыне зла шмат гаворыцца ў апошняй працы У. Салаўёва "Тры размовы аб канцы свету". Страшна нават думаць і вельмі цяжка ўявіць сабе, што пачаткам усіх незлічоных чалавечых трагедый з'яўляецца менавіта яна — зайздрасць".

Усе восем дзесяцігоддзяў савецкай улады зайздрасць старанна рэтушавалася і ўмела накіроўвалася ў патрэбнае рэчышча тагачаснымі СМІ. Асноўны лейтматыў — усе мы роўныя. Стабільная, аднолькавая цана на тавары і амаль аднолькавая зарплата таксама вельмі спрыялі пачуццю ўсеагульнай роўнасці. Зараз жа зайздрасці "паўсюль у нас дарога", і постсавецкія СМІ, як гэта ні парадаксальна, служаць ёй магутнай падпіткай. Можна душэўна захварэць, напрыклад, ад адной тэлерэкламы, але ж тэлеэкран, гэтае "аднавокае страшыдла", мае яшчэ многія значна больш тонкія сродкі ўзбуджэння зайздрасці. Наогул гэтаму спрыяе зараз усё акаляючае нас жыццё. У Брэсце ля чыгуначнага вакзала і ля Варшаўскага моста перыядычна мяняюцца выявы на велізарных стэндах, але тэматыка застаецца адна і тая ж: "Амерыка! Аўтамабілі, джынсы, цыгарэты!.." Але навошта стэнды? Дастаткова набыць гумку і разгарнуць яе— там тое ж. Усё скіравана да аднаго: "Смотрите, завидуйте!.."

Але што можа ўбачыць наша разарванае зайздрасцю грамадства? Хіба што адлюстраванне свайго нездаровага стану:

***Адзін накраў, багаце ўмножыў,***
***Другі згалеў, галей сабакі...***

*(Я. Купала)*

Яно думае ўсё пра тое ж багацце і зайздросціць тым, хто змог "накрасці" і "ўмножыць":

***Выпуклый вогнутого не поймет,***
***Сытый голодного не оценит.***
***Кто их рассудит? Один пулемет...***

*(Б. Слуцкі)*

Няўжо сапраўды справа ў чарговы раз не абыдзецца без кулямёта?! Але ж гэта ўжо было! Зайздрасць адыграла ў кастрычніцкай трагедыі 1917 года велізарную ролю, кулямёт і "таварыш маўзер" сказалі сваё рашаючае слова, але чым усё гэта скончылася? Канцэнтрацыя зайздрасці ў нашым грамадстве з кожным годам павялічваецца. Яна паступова матэрыялізуецца, робіцца, па Марксу, "матэрыяльнай сілай". Матэрыя ж не можа знікнуць бясследна. Зараз яна кіпіць і шырыцца, пасля, магчыма, застыне на стагоддзі, падобна вулканічнае лаве, звыкнецца і заціхне. Але магчымы і варыянт Пампеі. Хто ведае...

Ад зайздрасці, калі трапіш у яе лапы, пасля няпроста адчапіцца. Але і не трапіць вельмі цяжка. У рэшце рэшт усё залежыць ад веры. Хто верыць, што Бога няма, таму, у прынцыпе, няма вялікага сэнсу губляць сілы на барацьбу з гэтым страшыдлам. Хаця б таму, што ў зайздрасці ёсць своеасаблівая асалода, няхай і не без пэўнага мазахізму. А хто верыць, што Бог ёсць, той ведае, што пазайздросціўшы, тым самым парушаеш Закон (запавет дзесяты), які зайздросціць забараняе. Гэта і ёсць тая "кропка апоры", стаўшы на якую можна зрушыць вельмі многае. Іншай жа кропкі апоры няма і быць не можа. Гэта вельмі пераканаўча даказана яшчэ Кантам.

Мастацкімі сродкамі філасофія зайздрасці вельмі выразна азначана ў казцы Пушкіна "Пра рыбака і рыбку". Старая была спакойнай да таго часу, пакуль не атрымала новае карыта. Пасля гэтага зайздрасць пачала расці ў ёй у геаметрычнай прагрэсіі, пакуль бабуля зноў не аказалася ля свайго "разбітага карыта". Мы часта наракаем на сваё ўласнае "разбітае карыта", але, атрымаўшы новае, непазбежна пойдзем па шляху пушкінскай гераіні. Таму і не атрымліваем.

Аднойчы ў паўпустым вагоне дызеля я быў сведкам наступнай размовы. Гаварылі два мужчыны, адзін год сарака, мажны, з тоўстым чырвоным тварам, другі — год пяцідзесяці, у капелюшы і ў плашчы. Чамусьці сядзелі яны праз 5—6 месцаў адзін ад другога і таму размаўлялі вельмі гучна. Амаль крычалі адзін аднаму. Размова ішла пра жабракоў. Той, што маладзейшы, крычаў, што гэтыя жабракі падманныя, што яны за сабраныя грошы машыны сабе купляюць, і г. д. "Ды іх... ды іх страляць нада! Паставіў да сценкі, і — раз! І не аднаго! Сям'ю знайсці! Хто паслаў! І да сценкі!" Гэта вымаўлялася так усур'ёз, што я не вытрываў, падсеў да яго і запытаў: а вось сам бы ён ці здолеў страляць жабракоў? "Страляў бы! І рука не дрогнула!.." І тут неяк да мяне дайшло, што гэта — элементарная зайздрасць, дайшоўшая амаль да мяжы! Гэты сыты і няслаба апрануты, не стары яшчэ чалавек проста-напраста зайздросціць жабракам, якія днямі стаяць у Брэсце ля Мікалаеўскай царквы і ў іншых месцах. Я хацеў яшчэ нешта запытаць, але зверху зашыпела, затрашчала і глуха прахрыпела: "Прыпынак Маларыта! Наступная станцыя..." Я схапіў сумку і пабег да выхаду...

**Уладзімір ПЯТРОЎСКІ**

# "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..."

## "КОНКУРС САЧЫНЕННЯЎ-ЛІСТОЎ

Амаль сто гадоў таму назад, як Францішак Багушэвіч звярнуўся да паняволенага беларускага народа з вершамі на яго мове, з палымянымі словамі: "...мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам... Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!.."

Пастарайцеся і вы, дзеці, знайсці пераканаўчыя словы ў абарону роднай мовы і звярніцеся з імі да каго пажадаеце (сваіх бацькоў, знаёмых ці ўвогуле любых начальнікаў). Запрашаем да конкурсу вучняў 4—11 класаў. Дзеля выяўлення вашых пачуццяў аб'ём сачынення-ліста не абмяжоўваецца. Можна даць яму назву ці ўказаць адрасат, напісаць прозай ці вершам, у форме малітвы ці заклінання, закліку ці просьбы. Жадаем вам смеласці і творчасці, натхнення і вынаходлівасці.

Той, хто пажадае аформіць творчую работу хутчэй, увойдзе ў лік удзельнікаў 1 конкурсу, вынікі якога будуць падведзены 1 чэрвеня, а 2 конкурсу — 14 верасня 1998 г. Пераможцы атрымаюць граматы, ільготныя пуцёўкі ў лагеры адпачынку, у тым ліку ў Балгарыю і Чэхію (з 03.09 па 03.10, з 03.11 па 30.12.98 г.), іншыя падарункі. Узнагароды атрымаюць і самыя актыўныя настаўнікі. Найбольш цікавыя работы будуць надрукаваны ў часопісах і газетах.

Прысылайце свае лісты з указаннем прозвішча і імя свайго і свайго настаўніка, класа і школы, дакладнага адраса і тэлефона на адрас: **ТБШ, Някрасава, 5а, Мінск, 220040. Тэлефон для даведак: (017) 232-47-01.**

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ**

# Што з'езд чарговы нам рыхтуе?

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

## Аляксей РУСЕЦКІ

Захаваць цэласнасць саюза і ягоную арганізацыйную структуру — вось што можа з'езд. Гэта вельмі важна пры наяўнасці антыбеларускай палітыкі.

Наконт абнаўлення дзейнасці пісьменніцкай суполкі. Усё залежыць ад кіраўніцтва, ад ініцыятывы й дзеяздольнасці абраных у сакратарыят. У памяці ўзнікаюць наступныя імёны: Г. Бураўкін, Я. Будзінас, А. Вярцінскі, М. Гіль, У. Гніламёдаў, Г. Далідовіч. А. Дудараў, А. Петрашкевіч. Гэты спіс можна зрабіць яшчэ даўжэйшым.

Абнаўленне дзейнасці арганізацыі звязана і з прыходам у літаратуру моладзі. У часопісах "Маладосць" і "Першацвет" ёсць вялікі творчы актыў, але маладыя аўтары доўга яшчэ не пабачаць сваіх першых кніг, бо "Мастацкая літаратура" знаходзіцца ў цяжкім становішчы. Трэба найбольш творча актыўных маладых пісьменнікаў неадкладна прымаць у саюз, як гэта было ў першыя пасляваенныя гады. Тады ў гэтым не зрабілі ніводнай памылкі.

## Віктар ЯРАЦ

**1.** Лічу, што Саюз пісьменнікаў павінен быць ядром гуртавання лепшых творцаў — усіх, для каго лёс Айчыны — не пусты гук. Творчая арганізацыя павінна не толькі спрыяць росту сваіх шэрагаў (за кошт прытоку маладых сіл), але і дбайна ставіцца да аксакалаў, прыслухоўвацца да іх голасу. Важна болей спадзявацца на ўласныя магчымасці, чым на літасць Усявышняга, шукаючы рэсурсы не толькі для выжывання, але і для жыцця. І тут ніяк не абысціся без падтрымкі сучасных мецэнатаў.

У нас, у Гомелі, дзякуючы ім, трэці год выходзіць на высокім паліграфічным узроўні часопіс "Палессе". Галоўны рэдактар часопіса, Рыгор Андрэявец, здолеў зацікавіць сваім выданнем людзей бізнеса, кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў і фірмаў. Ідэя атрымала падтрымку, і цяпер аўтары палескага рэгіёна маюць магчымасць рэалізоўваць свой творчы патэнцыял.

Варта, каб Саюз пісьменнікаў больш актыўна ўплываў на кнігавыдавецкія справы, якія робяцца невядомым чынам і па невядомых крытэрыях. Таму нам трэба прыняць рашэнне па наладжванні нармальнага, а не закуліснага выдавецкага працэсу. А таксама даўно пара разабрацца з такой дзіўнай арганізацыяй, як "Белкніга" (і неабавязкова на з'ездзе).

**2.** У складзе кіраўніцтва хачу бачыць людзей з прынцыповай і актыўнай пазіцыяй. Узрост не мае істотнага значэння, важным уяўляецца адно папярэдні арганізацыйны вопыт прэтэндэнтаў. Мяркую, што з прапанованых ўзначаліць пісьменніцкую арганізацыю на наступны тэрмін не лішне звярнуцца да Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага, Я. Сіпакова, С. Законнікава, В. Іпатавай, С. Алексіевіч, А. Разанава, У. Арлова. Буду галасаваць за абноўлены склад сакратарыята СП, бо сённяшні апарат даўно вычарпаў адпушчаны яму ліміт маўклівай згоды з агрэсіўнай антыбеларускай рэчаіснасцю.

ШЛЯХІ

Мар'ян ДУКСА

# Наступленне асоту, альбо Дзе яны, беларускія Сталыпіны?

НАТАТКІ ПІСЬМЕННІКА

МОЙ ВІЗІТ на бацькаву зямлю быў выпадковым. Са знаёмым настаўнікам я мінулым летам пабываў на возеры свайго маленства — Вішнеўскім возеры, што атрымала назоў ад мястэчка, якое ўтульна месціцца на яго ўзбярэжжы. У незвычайна цёплай і чыстай вадзе мы плавалі цэлы божы дзень, поўныя радасці і ўцехі, а яны сёння ў душы рэдкія госці. Хоць і быў я прыемна стомленым, але ніяк не мог заснуць у палатцы. Штосьці трывожыла і вярэдзіла, пакуль урэшце не зразумеў: бацькава зямля... Яна, наша былая хутарская зямля, ляжала за паўтара кіламетра адгэтуль, дзе я спрабаваў забыцца ў сне, і нейкая магічная сіла моцна цягнула мяне на месца разбуранага гнязда. Раніцой я ўжо стаяў на ёй, і першае, да чаго дакрануўся, была нейкім цудам уцалелая сасна. 28 гектараў зямлі, якую бацька набыў у 30-я гады, уключалі ў сябе, акрамя ладнага кавалка мурагу, бярэзнік і сасняк з густым чарнічнікам. Прыхінуўшыся плячом да смалістага дрэва, адчуваючы яго слабое дыханне, я нібы акунуўся ў прорву мінулага часу, сатканага з надзей, драм і трагедый. На гэтым цьмяным палатне часу ўнутраным зрокам угледзеў і лёс радні — балючы малюнак, вышыты бяздушнай, халоднай рукой гісторыі. У гэты міг я надзвычай выразна адчуў сябе яе бязвіннай ахвярай, маленькай мурашкай, што трапіла пад яе колы. Але, з другога боку, думалася, крыўдаваць на гісторыю — марны занятак, зло твораць канкрэтныя асобы, зло адбываецца паводле нашага актыўнага ці маўклівага блаславення. Гісторыя — гэта ўсяго жывая платформа, якая рухаецца ў часе і на якую мы сыплем свае добрыя ці злыя ўчынкі. Мы самі па сваёй слепаце, маладушнасці дазваляем кіраваць сабой, краінай людзям жорсткім, з садысцкімі схільнасцямі. Не толькі раней, але і цяпер нас вельмі мала цікавіць маральны воблік нашых пастухоў. Прайсці праз маральнае сіта — гэта ў нас чамусьці не самая галоўная ўмова для тых, хто імкнецца да ўлады. Давайце прызнаемся шчыра, што мы даволі паблажліва адносімся да тых, у каго размытыя паняцці дабра і зла і хто хоча кіраваць намі, — яны нам у нечым роднасныя, блізкія... Галоўнае, каб былі "вопытныя", "кампетэнтныя", — так нам унушылі, а мы па сваёй плябейскай даверлівасці зусім не спрабуем паварушыць мазгамі, каб зразумець, што гэтага катастрафічна мала для нашых рулявых.

Фундамент вакханаліі зла і гвалту заключаецца ў нашым штодзённым побыце, пранізаным духам зайздрасці і недружалюбнасці, мы сваімі рукамі выпешчваем монстра насілля.

Мой бацька 10 гадоў батрачыў у Амерыцы, сабраў на той час ладную суму — тры тысячы долараў і, вярнуўшыся ў 30-я гады дахаты, выкупіў кавалак зямлі ў пана, у якога быў добры палітычны нюх, і той не мог не адчуць непазбежнай для Заходняй Беларусі бальшавіцкай экспансіі. Многія сяляне, затурканыя беднасцю, упарта і адчайна ехалі ў белы свет, каб сваім сумленным мазалём раздабыць якую-небудзь капейку і набыць валоку запаветнай зямлі. Ніхто і ў кашмарным сне не мог уявіць, колькі няшчасця яна прынясе.

Верасень 1939 года прадоўжыў эстафету гвалту, распачатую яшчэ ў перыяд сталінскай калектывізацыі. Як толькі не пачарнелі чырвоныя сцягі, дружна развешаныя па вёсках Заходняй Беларусі, ад таго бяскрайняга гора, якое абрынулася на больш-менш заможных сялян, калі меццо на ўвазе наяўнасць большых, чым у сярэднім па вёсцы, зямельных плошчаў, бо заможнасць тая ў цэлым мела вельмі ўмоўны характар. Гасцінец на Свір (цяперашні гарадскі пасёлак, што быў раней раённым цэнтрам) у 39—40-ых гадах штодзённа звінеў і скрыпеў ад сялянскіх калёс і саней, дзе сядзелі са сваім мізэрным скарбам змарнелыя, утрапёныя розных узростаў мужчыны, жанчыны і іх дзеці, асуджаныя на выгнанне. Гэта былі сем'і настаўнікаў, землямераў, чыгуначнікаў, леснікоў, але найбольш сярод іх было сялянскага люду. Колькі іх даехала да прызначанага месца пасля адпраўкі са Свіра, колькі трапіла ў Курапаты, колькі адубянела ад марозу ў "цялятніках", кончылася ад хвароб — адзін Бог ведае. Стаяў няспынны плач у гэтай бясконцай пахавальнай працэсіі, што рухалася ў напрамку зборнага пункту.



Сёння на гэтай маўклівай дарозе, асабліва наўзбоч яе праезджай часткі, вельмі ўжо густа і пышна расце крываўнік — ці не людскія колішнія слёзы спрыяюць яго росту? Можа, гэта трава забыцця, якая маладой зелянінай абкладае нашу памяць?

Гвалт над заможнымі сялянамі Заходняй Беларусі меў сваю палітычную адметнасць. Аб класавай барацьбе на вёсцы гаварылася не так шмат, як было ў 30-я гады. Палітыка ў дачыненні да так званых "кулакоў" была больш подлай, хітрай. Селяніна душылі падаткамі. На бацькаву зямлю быў накладзены па тагачасным мерках вельмі вялікі падатак, здаецца, 2 тысячы рублёў — роўна столькі, колькі каштавала наша новая хата, якую давялося адразу ж прадаць, каб пазбегнуць высылкі. Але праз тыдзень атрымалі паперу з такім жа падаткам зноў! Па прынцыпе: знайшлі патрэбную суму спачатку, знойдзеце і яшчэ раз, кулацкія морды! Прыводжу гэтыя неэстэтычныясловы, бо бальшавіцкія лінгвісты ў той час гэты выраз выкарыстоўвалі абавязкова. Бацькава наіўнасць, што, гуляючы з уладамі чэсна, можна выйграць, закончылася судом з яго рашэннем выслаць нас у Сібір за "свядомы" зрыў хлебанарыхтовак, адным словам, за шкодніцтва. Не ведаю, што б з намі было і ці мог бы я нарадзіцца і пісаць сёння гэтыя нататкі, калі б не завея, якая разгулялася ў дзень нашага ад'езду. Мы проста ўзялі і не з'явіліся на зборны пункт, тым самым і выратаваліся, бо пакуль органы тасавалі спісы будучых вязняў, думаючы, да якой чарговай групы нас далучыць, — пачалася вайна. Вайна, такім чынам, дала нам шанц застацца на сваім месцы і выжыць, хоць здароўе маіх бацькоў было канчаткова падарвана.

Рэакцыя аднавяскоўцаў на нашы беды была неадназначнай, але ў сваёй большасці нашы суседзі па зямлі радаваліся, што распачаўся над намі гвалт. Я гэта кажу таму, каб не заставалася ніякіх ілюзій адносна высокай маральнасці, хрысціянскай міласэрнасці, дабрыні ўсяго беларускага вясковага люду. Тып вяскоўца нашымі паэтамі і празаікамі вельмі ўжо заідэалізаваны. Паводле пісьменніцкіх канцэпцый, калі і трымаюцца яшчэ мараль і духоўнасць, дык толькі на вёсцы. Мне здаецца, рэаліі іншыя, прынамсі, не такія ружовыя.

Маці не раз успаміналі, як адразу ж пасля раскулачвання вяскоўцы дружна падаліся ў наш бярэзнік з піламі і сякерамі. Прыгажунібярозы былі знішчаны за пару дзён. Везучы іх на вазах ля самай нашай хаты ці таго, што засталося ад яе, вяскоўцы абавязкова моцна свісталі — маўляў, палюбуйцеся на вашы дрэўцы! І столькі шчырай уцехі было ў іх крыху збянтэжаных вачах. Нават я яшчэ памятаю, як на пачатку 50-ых гадоў гэтыя "носьбіты маралі і духоўнасці, пасучы ноччу коней на лузе, абавязкова прыходзілі пад наша гумно, каб адарваць ад яго з дзесятак аполкаў, каб ускінуць на вогнішча. І ўсё гэта рабілася імі з усведамленнем не столькі законнасці сваіх учынкаў, як уласнай моцы і перавагі над тым, хто быў затаптаны ў гразь чырвонымі "салдатамі сацыяльнай справядлівасці". Нават добрыя пачуцці людзей тапіліся ў атмасферы нянавісці і злосці, якую стварылі "вызваліцелі". Палітыка ачмурэння спрацоўвала даволі паспяхова. Людзям унушалася, што яны маюць права помсціць сваім "крыўдзіцелям", шукаць і караць тых, хто "за польскім часам" жыў крыху лепш за іх. Мой бацька з Амерыкі вярнуўся хворы, па гэтай прычыне вымушаны быў наймаць арандатараў, каб управіцца з зямлёй. Апошні арандатар жыў з сям'ёй у нашай хаце і быў "палавічнікам" — за сваю працу браў палавіну ўсяго ўраджаю. Увогуле, быў задаволены сваім лёсам. Але новыя ўлады яго адразу назначылі старшынёй сельсавета, пераканалі, што ён "ахвяра эксплуататацыі", што надышоў ягоны час. Бацька быў выкліканы ў сельсавет, дзе былы "палавічнік" з ярасцю абвясціў: "Ну, што, кулак, піў маю кроў? Цяпер і я пап'ю!" Ён гаварыў праўду. Не толькі мы, але і многія сем'і па яго асабістым жаданні размяркоўваліся па сібірскіх лядоўнях. У яго руках была сканцэнтравана неабмежаваная ўлада. Ён рабіў усё, што хацеў, любому мог павялічыць падатак у некалькі разоў. Ён быў маленькай копіяй Сталіна ў межах адной вёскі. Гэты чалавек недзе ў 60-я гады нечакана з'явіўся на падворку нашага дарэшты занянпалага хутарка. Састарэлы, згорблены, змізарнелы, ён папрасіў збянтэжаную такой сустрэчай маці: "Панечка, забудзь, што было, падпішы во паперу, дзе гаворыцца, што я некалі працаваў у вас. Гэта для пенсіі трэба". Як жа маці, беларуская мяккая душа, магла не падпісаць "дакумент" чалавеку, які, аднак, так шчыра спрыяў нашым няшчасцям.

У гэтай сувязі хочацца сказаць вось аб чым. Бальшавіцкія ідэолагі свядома ці несвядома, але праводзілі шырокамаштабную работу, каб дэфармаваць, а ўрэшце выкараніць зусім менталітэт беларусаў, які, як вядома, вызначаецца памяркоўнасцю, спагадлівасцю, ураўнаважанасцю, добразычлівасцю. Гэтыя хрысціянскія рысы ніяк не задавальнялі тых, хто спавядаў вампірскую дактрыну. Каб здзейсніць задуманае, наваяўленыя мізантропы рабілі ўсё, каб разбурыць душу вяскоўцаў, распаліць у ёй жывёльныя інстынкты, насцеж адкрыць у ёй усе шлюзы з тым, каб праз іх хлынулі на паверхню злосць, зайздрасць, помста — увесь гэты чалавечы гнюс, які, калі і ёсць у душы, то хаваецца за сямю замкамі, наглуха закрыты, чаму спрыяюць і народная мараль, і нацыянальная культура, і хрысціянская рэлігія. На вялікі жаль, з нялюдскіх планаў шмат што збылося. І сёння мы пажынаем горкія плады д'ябальскага ўздзеяння на нашу нацыянальную душу. Што "развалены" Савецкі Саюз — гэта паўбяды. Значна горш, што ў душы нашай руіны...

Зараз, калі бачу я, праўда, усё радзей, ветэранаў з партрэтамі Сталіна ў руках, я вельмі шкадую, што не стаў псіхіятрам. Якую цікавую дысертацыю можна было б напісаць, кантактуючы з людзьмі, якія ўзвышаюць сталінскі рай. А я не сумняваюся, што гэта хворыя людзі і варты нашага жалю. Бо хіба здаровы чалавек, ведаючы ў прынцыпе ўсё пра таталітарны рэжым, можа апраўдаць яго, які, як гіганцкая крыважэрная пачвара, праглынуў дзесяткі мільёнаў нявінных людзей, сярод якіх было нямала заходнебеларускіх сялян.

На целе Заходняй Беларусі яшчэ смыляць і сёння раны, нанесеныя бальшавіцкім вандалізмам і грубым зямельным рэфарматарствам. Прысыпаныя попелам гадоў, яны тым не менш як след не зарубцаваліся, ды гэта і немагчыма, калі справа тычыцца такой тонкай матэрыі, як памяць.

Вы паездзіце, пахадзіце па дробных прасёлачных дарогах Заходняй Беларусі, паблукайце ўздож пералескаў і шматлікіх рэчак, узлыміцеся на ўсе больш-менш кідкія ўзгорачкі — колькі там разбураных котлішчаў! Зарослыя крапівой і маліннікам, сяктак прыкрытыя здзічэлымі расахатымі яблынямі, высокімі грушамі, з двума-трыма камянямі ад фундамента — яны выклікаюць глыбокі смутак і горкія думкі аб трагічнасці, марнасці чалавечых высілкаў. Такія раскіданыя гнёзды, дзе некалі кіпела жыццё, нагадваюць занядбаныя могілкі — і гэта сталася па волі тых, хто халоднай рукой сеяў не росквіт і радасць, а заняпад і журбу.

Я зусім не здзіўляюся, што многія з тых гордых заходнебеларускіх дзецюкоў, хто стаў сведкам ці ахвярай рэпрэсій 39-га года, пайшлі ў паліцыю ці ў Армію Краеву. Ім хацелася сцвердзіць свой чалавечы, чыста мужчынскі гонар і, можа, паквітацца з крыўдзіцелямі. Як ні круці, ні вярці, а гэта было іх асабістым правам, вымушаным дзеяннем, іх на гэта справакавалі ўлады. Іх можна называць "здраднікамі", "нямецкімі служкамі", "дэзерцірамі", "ляснымі бандытамі", але сутнасць у тым, што іх стварыла, выпеставала жорсткая савецкая ўлада, якую яны любіць ніяк не маглі і абараняць свядома не хацелі, бо гэта было б ненатуральна...

Як далёка аднесла мяне рака памяці, калі я сёння, на схіле стагоддзя, прыхінуўся да старадрэвіны, якая, відаць, лепш, чым я, памятае майго бацьку, што памёр хутка пасля вайны, і якая сотні раз бачыла маю вечна маркотную маці, што так тужыла па сваіх дзецях, якія, падросшы, адразу падаліся ў белы свет — як мага далей ад свайго знявечанага, зганьбаванага падворка (дарэчы, лёс іх склаўся несуцяшальна). Але, не нагадаўшы даваенных падзей, не акунуўшыся розумам і сэрцам у тыя суровыя дні, нельга разглядаць сённяшнюю вёску і кранаць яе праблемы. Гаворка будзе няпоўнай. Тым больш што я ў сваіх нататках хачу зрабіць найбольшы акцэнт на дзвюх галоўных іпастасях зла — гвалце і знішчэнні і іх наступствах для вёскі.

Сасна, пад якой стаю, дажывае свой век на самым ускрайку цяперашняга маладога хвойніку. А побач месціцца наш былы мурожны лужок, які чамусьці асушылі, прытым зрабілі гэта з размахам, пракапаўшы праз яго надзвычай глыбокі роў. Хацелася як найлепей, а выйшла як звычайна... Ад некалі пасеянай травы засталіся асобныя кусцікі, астатняя трава — выпадкова-дзікая, хілая, пасохлая. Язык не павернецца назваць яе мурожнаю. І што мяне ашаламіла, дык гэта вельмі моцнае стракатанне конікаў сярод гэтай нікчэмнай "флоры". Літаральна мільёны іх узнімалі да нябёс сваю манатонную песню. Пра што спяваў гэты фантастычны хор? Гэта быў гімн няспыннаму жыццю ці пахавальны марш калгасна-саўгаснай сістэме?

Я стаяў на с в а ё й зямлі, але гэта ўжо чамусьці была не мая зямля. І што я магу адчуваць у гэты міг, законны яе спадчыннік, які нарэшце спыніўся пад родным дрэвам, паэт-бомж, які бясплённа наблукаўся перад гэтым па так званых дзяржаўных выдавецтвах у надзеі выдаць свае нікому не патрэбныя кнігі, чалавек з нязменна пустым кашальком і з сумнай перспектывай сацыяльнай пенсіі?

А што можа адчуваць цяперашні хлебароб — без зямлі, без каня, без калёс, які цярпліва сноўдаецца за брыгадзірам, чакаючы, калі яму "нарэжуць" соткі ці выдзяляць некалькі бункераў саломы на падсцілку, а нарэшце дачакаўшыся ўсяго гэтага, заклапочана моршчыць лоб: а дзе ж ухапіць трактар, машыну ці каня?

Я думаю, што праблема ўсёй гвалтам адабранай маёмасці застаецца актуальнай. Што склаліся іншыя грамадскія стасункі — гэта ні аб чым не гаворыць. Трэба вяртаць адабранае. Як гэта зрабіць? Не ведаю. Ва ўсякім выпадку, дзяржава павінна прызнаць свае даўгі перад канкрэтнымі людзьмі, а сам працэс аддачы даўгоў, вядома, патрабуе глыбокага аналізу і смелых рашэнняў. У прыбалтыйскіх рэспубліках пайшлі на радыкальныя меры: зямлю, будынкі без усякіх хітрасцей вярнулі спадкаемцам, хоць гэта і выклікала незадавальненне пэўных груп насельніцтва і стварыла некаторае напружанне ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Але тамтэйшыя ўлады пайшлі на гэта, каб сплаціць

*(Працяг на стар. 14—15)*

адпаведнікі з вядомых прычын не даваліся ў савецкіх беларускіх слоўніках, а толькі Каляды (Коляды) як назва свята. Цяпер ідзе пошук патрэбнага слова. І праходзіць ён, як адзначае дырэктар Інстытута мовазнаўства акадэмік А. Падлужны, нялёгка: "Скажам, колькі ўжо было варыянтаў назвы свята нараджэння Хрыста. І Раство, і Ражаство, і Хрыстова нараджэнне... Хто як, а ўсё адно адчуваецца пэўная недасканаласць выразу для нашай літаратурнай мовы" ("ЛіМ", 30.01.98).

Вось тут бы акадэміку ўзяць і дапамагчы кваліфікаванымі парадамі моўнай практыцы. На жаль, ён сам не зусім дакладны: з назвай свята дагэтуль праблемы не было, звалі традыцыйна Каляды. Што да слова, якое стала б адэкватам рускага рождество (са значэннем славутай падзеі), то цяперашнім часам выбіраць усё ж трэба з пералічаных А. Падлужным слоў плюс *ражство*, ужытае ў вышэйцытаваным сказе, плюс *Нарадзіны*, якое таксама нярэдка сустракаецца ў друку і ў вуснай мове.

Назоўнікі *ражаство, ражство* парушаюць сістэму беларускага словаўтварэння. Іх магчымы гістарычны адпаведнік — *рожьство*. Паводле фанетычных законаў рожьство змянілася на раство, аналагічна да боства (з божьство), мноства (з мъножьство), птаства (з пъташьство), хараство (з хорошьство).

Сучаснае словаўтварэнне і правапіс не прымаюць назоўнікаў у форме ражаство, ражство. Варыянт раство — у поўнай згодзе з законамі беларускай мовы. Перадае абазначанае паняцце таксама спалучэнне Нараджэнне Хрыстова. Аднак улічваючы тое, што *нараджэнне* замацавалася ў адносінах да людзей — істот зямных, у гутарцы пра Сына Божага мэтазгодна было б карыстацца словам Народзіны. Такім чынам, рускім аднакаранёвым словам рождение — Рождество — адпавядалі б беларускія нараджэнне — Народзіны, Каляды. На карысць выразу Народзіны Хрыстовы колькі гадоў таму выказвалася на старонках "ЛіМа" Галіна Каржанеўская. Зразумела, гэтыя словы (раство, народзіны, нараджэнне) могуць ужывацца пэўны, нават доўгі час паралельна.

У прыведзеным вышэй сказе-ілюстрацыі парушана норма скланення прыметнікаў: карціна **Ражства Хрыстова**. У беларускай мове прыметнікі прыналежныя, гэтаксама як і адносныя, якасныя, у родным склоне маюць канчатак *-ага*: [Цікава] параўнаць некаторыя фрагменты **Скарынавага** тэксту і Астрожскай бібліі 1581 г. выдання І. Фёдарава (А. Каўка). Пра гісторыю стварэння **Багрымавага** партрэта скульптар расказаў у кастрычніцкім нумары часопіса "Беларусь" за 1996 г. ("Роднае слова", 1997. N 1).

Значыць, па-беларуску трэба ўжываць: да Раства (Нараджэння) **Хрыстовага**, як і да **Коласавага** юбілею, да **Карлавага** моста.

Апошнімі гадамі ў мове сродкаў масавай інфармацыі назіраецца памылковая форма загаднага ладу некаторых дзеясловаў: "**Ды дапаможа** бог яго душы", напісана на камені ("Звязда", 7.11.90). **Ды абароніць** нас камітэт ("Звязда", 20.12.90). **Да прабачаць** мне слухачы маю нячыстую беларускую мову (Беларускае радыё. 22. 01.91).

Тут механічны перанос з рускай мовы, у якой спалучэннем часціцы *да* і асабовай формы дзеяслова выражаецца загад, пажаданне: Да здравствует солнце, да скроется тьма! (А. Пушкін). Да поможет Бог его душе. У беларускай мове часціцы *да* адпавядаюць *няхай, хай*: "Няхай абароніць нас камітэт. Няхай бог крые. І самы свежы прыклад: **Няхай дапамогуць** Вам Бог і Бацькаўшчына! ("Наша Ніва", 2. 03. 98).

Няправільныя формы загаднага ладу асабліва прыкра бачыць у мастацкіх творах, як, напрыклад, у адным "Рамане ў лістах":

"Хай Божачка спагадае нам. [...] **Ды будзе** воля Твая. **Ды свяціцца** імя Тваё. **Ды прыйдзе** царства Тваё. Амін".

Нават пры выданні класікаў беларускай літаратуры трапляюцца недагляды што да "боскага" і "антыбоскага". Прачытаем страфу з верша Максіма Танка "Калі няма на свеце маёй мовы..." (Збор тв. у 6 т. Т. 1, 1978):

***Супроць каго [панове] рыхтуеце вы змовы***
***З прадажнымі і юдамі і з Богам,***
***Калі няма на свеце маёй мовы,***
***Майго народа і мяне самога!***

Угледзімся ў вылучаны радок, удумаемся ў сэнс. Часткова канструкцыя (дзякуючы паўтору злучніка і) вымушае пашырыць эпітэт *прадажнымі* і на Бога. Але майма на ўвазе: пры ўсёй сваёй бальшавіцкай "левізне", атэістычнасці, Максім Танк да такога блюзнерства не апускаўся. Што прыметнік *прадажнымі* аўтар не адносіў да назоўніка Бог, відаць і з паўтору прыназоўніка з.

Выяўляецца, усё тут прасцей. Паэт звычайна ўжывае беларускую назву здрадніка юда ў царкоўнаславянскай форме іюда. Так і ў гэтым вершы. Рэдактар жа ці карэктар, відаць, падводзячы правапіс назоўніка пад сучасную норму, "разарвалі" яго на дзве часткі — злучнік *і*, імя Юда.

Увогуле, вельмі кепска, нават шкодна для літаратурнай справы, калі змены ў тэксце робяцца без узгаднення з аўтарам, насуперак яго творчай манеры. У "Казцы пра Музыку" Максіма Танка, надрукаванай у зборніку "Пад мачтай" (Вільня, 1938), была страфа:

***Гаворыць Вяль:***
***— Здаецца, востраў***
***Відаць, а можа, гэта сон?***
***Сцяной залочанай і вострай***
***Абнесены з усіх старон.***

У зборах твораў народнага паэта апошні радок зменены: Абнесены з усіх **бакоў**. Першапачаткова змацаваная рыфмамі страфа стала не раўнуючы як рассыпаны мех... Той, хто адстойваў "чысціню" мовы і выкінуў з верша (ці прымусіў гэта зрабіць аўтара) слова *старана*, не ўлічыў важнай акалічнасці: гэта традыцыйнае для беларускай паэзіі (Янка Купала, Якуб Колас) слова, яно частае ў вершах Максіма Танка.

Можна меркаваць, што і ў вершы "Кропля дажджу" Максіма Танка ў нейкай з першых публікацый адбылася замена слова *старонах* на *старонках*. І так пайшло ў іншыя выданні.

***Я не прасіў у яе [кроплі дажджу] расказаць***
***Аб перажытым у дальніх старонках, —***
***Гэткай яна, як расстання сляза,***
***Буйнай была, і цяжкой, і салёнай.***

Тут не толькі значнае разбурэнне рыфмы. І сэнсава назоўнік *старонка* апынуўся не зусім на сваім месцы: старонкаю звычайна завуць родны край, родны кут.

На момант перавядзём увагу з паэзіі на празаічную мову. Сёння зноў падымае галаву заняпалы ў апошнія дзесяцігоддзі стараславянізм *глава*. Калі кіраўнік якой-небудзь адміністрацыі называе сябе (ці яго называюць) гэтым словам, то яго можна зразумець: ён жа — "рускамоўны" дый напэўна лічыць, што назоў *глава* праз сваю "нешараговасць", "небасяжнасць" (не забылася ж: Вознёсся выше он **главою** непокорной Александрийского столпа") аддае яму ўлады ці яшчэ чаго... (Для беларускай мовы тут норма — *галава*).

Але чаму рэанімуюць слова *глава* лінгвісты? Яны ж павінны ведаць, што гэтае слова (з непаўнагалосным спалучэннем *ла*) — запазычанне з мовы стараславянскай. Ужываць слова *глава* замест *галава* ў беларускай мове нельга, як і хлад (замест холад), град (замест горад), враг (замест вораг). Напэўна, тут прычынай залішняя рахманасць навукоўцаў, іх заўсёдная гатоўнасць патрапіць густам і жаданням тых, хто вышэй на службовай лесвіцы.

Магло быць так. Нехта зверху спусціў інструкцыю (палажэнне) адносна падрыхтоўкі і абароны дысертацый. Хутчэй за ўсё дакумент ствараўся на рускай (рабочай) мове. Ну а потым перакладчык не наважыўся замяніць слова *глава* на *раздзел*, балазе Руска-беларускі слоўнік дазваляе ўжываць яго (побач з *раздзел*).

А ўжо чытаючы гэту "абавязаўчую" паперу, аспіранты і іх кіраўнікі сталі гаварыць і пісаць *глава* ў дакументах і навуковых працах на беларускай мове. Адсюль — у газеты і часопісы... І вось акадэмічны супрацоўнік, які шмат гадоў укладае слоўнікі, нібыта з выклікам "шчырым беларусам", некалькі разоў "прапісаў" слова *глава* (замест *раздзел*) на старонках часопіса "Роднае слова" (1998, N 3), пашыраючы сярод тысяч настаўнікаў "навіны" культуры мовы.

Як тут не ўспомніць з удзячнасцю нашых папярэднікаў — далёкіх продкаў. Прыціснутыя цяжарам кніжнай царкоўнаславяншчыны, яны прагна імкнуліся да жывых крыніц роднай мовы: у прыватнасці, побач з г*лава (кнігі)* ужывалі *галава (кнігі)*. А найвялікшы напісаны па-беларуску юрыдычны дакумент, сведчанне нашай дзяржаўнасці — Статут Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566, 1588) — складаўся не з **глаў**, а з **раздзелаў** ("роздел").

Трэба размяжоўваць звычайныя лексічныя і граматычныя памылкі і адхіленні ад літаратурнай нормы як вынік пошуку больш дакладнага ў структурных адносінах слова ці ягонай формы. Некалькі прыкладаў.

На занятках са студэнтамі-філолагамі даводзіцца часта мець справу з назоўнікам Супрасль і прыметнікам супрасльскі *(Супрасльскі летапіс)*. Апошні цяжка вымаўляецца і перадаецца на пісьме. А тут як Бог паслаў. У артыкуле гісторыка А. Трусава "Супрасль" ("Наша слова", 11.02.98) некалькі разоў ужыты прыметнік *супраслеўскі*, Супраслеўскі кляштар, Супраслеўскі храм, Супраслеўская царква. Варыянт *супраслеўскі* лягчэйшы на вымаўленне, адпавядае беларускаму словаўтварэнню. Ён мае перспектыву замацавацца ў беларускай літаратурнай мове.

Доўгі час не знаходзіўся натуральны адпаведнік запазычанаму прыметніку *ранімы* (дзеепрыметнікавы суфікс *-ім-* не характэрны для беларускай мовы). Але вось нядаўна "ЛіМ" (20.06.97) змясціў гутарку А. Разанава з славенскім пісьменнікам В. Таўферам. У адказах В. Таўфера, перакладзеных на беларускую мову, ужыты прыметнік *ранлівы*: "Гаворка ішла ўжо не пра адкрытую і *ранлівую* культуру, якую жывіць кантакт з іншай, дужэйшай культурай, хутчэй пра культуру смяротна параненую".

Укладзены ў вусны славенскага паэта і назоўнік *ранлівасць*: "З усведамлення свайго непадабенства, адметнасці, несамадастатковасці, **ранлівасці** мы якраз і чэрпаем сваю самасвядомасць, самастойнасць, ідэнтычнасць".

Усё часцей можна напаткаць у друку і пачуць у размове слова *маладзёвы (моладзевы)* як беларускі адпаведнік запазычання *маладзёжны*. Напрыклад: Два разы перадрукаваўшы твор на машынцы, я адправіў яго ў **маладзёвы** часопіс (У. Арлоў, "Наша Ніва", 9.02.98).

Так і жыве наша мова — у супрацьборстве дзвюх тэндэнцый. З аднаго боку, яна актывізуе свае патэнцыяльныя магчымасці, узбагачае сродкі выказвання, з другога — засмечваецца непатрэбнымі словамі, сінтаксічнымі канструкцыямі. І ўсё ж чыстая, імклівая бруя перамагае — разганяе смецце і шумавінне.

Узбагачаючы, дасканалячы родную мову, мы, яе носьбіты і шанавальнікі, самі ўдасканальваемся як асобы, як грамадзяне, кансалідуемся як годная нацыя. Гэта добра заўважыў і выказаў Рыгор Барадулін:

***Ствараем слова***
***Ці яно***
***Нас, недаствораных,***
***Стварае.***

*("ЛіМ", 2.01.98).*

Спецыфіка мовы ў значнай меры выяўляецца ў сінтаксісе. Адыход ад правілаў беларускай граматыкі пры ўжыванні словазлучэнняў і сказаў, стварэнні тэксту не толькі парушае літаратурныя нормы, але і падрывае асновы беларускай мовы. Ужо, мабыць, кожнаму, хто працуе з родным словам, даведзена граматыкамі, слоўнікамі, даведнікамі, што прыназоўнік *за* ў словазлучэннях з мэтавымі адносінамі ўжываць неправамерна. Але і сёння, нават у самых пісьменных выданнях, гэтая памылка пракідаецца: Пасля артыкулаў [пра Алеся Разанава і Віктара Карамазава] я **пайшла** ў бібліятэку **за кнігамі** гэтых аўтараў ("ЛіМ", 27.02.98).

Ёсць не так заўважныя, а таму больш падступныя парушэнні сінтаксісу, як, напрыклад, у сказе: Любая цывілізаваная дзяржава абавязкова захоча стварыць **па часе** сваю нацыянальную энцыклапедыю ("Маладосць", 1997. N 10).

Што абазначае тут *па часе*? Паводле акадэмічнага Тлумачальнага слоўніка, п*а часе* — фразеалагізм, яго значэнне "пасля таго, як ужо што-небудзь здарылася", ці карацей — "запозна". Але ж аўтар сказа хацеў перадаць сэнс: "з часам, у свой час, калісьці, некалі, калі-небудзь". То адпаведна трэба было і напісаць.

Яшчэ прыклад: Плануецца, што **па першым часе** эксперты... будуць ажыццяўляць сваю дзейнасць у гасцініцы ("Навіны", 6.02.98). Параўнаем: Здароўе Максіма **на першым часе** не выклікала трывогі (І. Навуменка). Традыцыйнае спалучэнне *на першым час*е мае перавагу: яно дакладнае, недвухсэнсавае.

Так, у нашай моўнай гаспадарцы далёка да жаданага ладу і дастатку. І ўсё ж трэба спадзявацца на лепшае. Але пры адной галоўнай умове: калі мы будзем не толькі "беларусамі па спецыяльнасці" (Юрка Віцьбіч), а і па душы.

---

Заканамерны, зразумелы гнеў паэта і яго іронія ў вершы "Што за тэмп!..", у якім аўтар выступае супраць таго, што на адказныя пасады лезуць выпадковыя людзі: "Па бязглуздых законах нейкіх Можа ў момант усё змяніцца: Яшчэ ўчора — штанкі на шлейках, А ўжо сёння — мундзір міністра". А калі можна ўсё, дык чаму б і не здарыцца такому:

***Ні ад якога induced ператрусу***

***Засцярогі прыдумаць нельга.***
***Сёння ляжаш спаць беларусам,***
***А прачнешся назаўтра — неграм.***

Само жыццё прысутнічае ў кнізе, — тое жыццё, якое можа быць розным, але чалавек на тое і чалавек, каб годна пачуваць сябе ў ім, каб не паддавацца тым "парадам", пасля якіх перастаеш быць самім сабой. Праўда, важная і ўласная пераацэнка: учынкаў, набыткаў, страт... Пераступаць парог асабістай віны, няхай ўсяго толькі маральнай, няпроста, але без гэтага нельга, калі хочаш па-сапраўднаму ачысціцца душой. Таму лірычны герой Н. Гілевіча і ступае на такі цяжкі і патрэбны шлях. Найлепшы ў гэтым шэрагу — верш "Як шмат я аддаў бы..." Згадкі аб самым дарагім чалавеку кранаюць даверам. Даверам паэта да чытача, які не можа не зразумець цябе:

***Як шмат я аддаў бы, каб мог***
***Ва ўбогай хаціне вясковай***
***Ізноўку ступіць на стаптаны парог***
***І ўбачыць матулю жывой і здаровай!***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Ах, боль незамольнай віны!***
***Нідзе ад яго мне не дзецца,***
***Нідзе не пазбыцца!***
***Ужо ён мяне не пакіне да самай труны...***
***А мама ўсё сніцца і сніцца.***

Вера ў Беларусь — па-сапраўднаму свабодную і незалежную, роўную сярод іншых дзяржаў, надае кнізе цэльнасць, робіць яе вельмі патрэбнай чытачу ў час, калі толькі ўпэўненасць можа ўратаваць грамадства ад поўнай яго дэградацыі. Грамадзянскі неспакой Н. Гілевіча як нельга да месца. Голас паэта — голас абуджанага сумлення:

***Браты! Ачніцеся! Няўжо вам***
***Не чутна, хоць бы і скрозь сон,***
***Як прамаўляе Божым словам***
***Да вашых сэрцаў вешчы звон?***
***Як кліча ён знайсці свой Кіцеж,***
***Паўстаць з прадоннай нематы...***
***Дык не праспіце ж, не ўпусціце ж***
***Час, Богам дадзены, браты!***

"Знайсці свой Кіцеж" — знайсці Беларусь. Тую Беларусь, якая ўжо некалі была. Прыгадайма Вялікае княства Літоўскае! Ды гэта, як кажуць, па-за кнігай. Але ж па-сапраўднаму мастацкія творы нясуць не толькі тое, што ў іх прамоўлена. Яны і абуджаюць грамадскую свядомасць, яны актывізуюць свядомасць нацыянальную. "Ёсць зямля..." Н. Гілевіча — з шэрагу такіх кніг.

**Ягор ЯНЧУК**

# З верай у лепшае

"У паэзіі Алеся Пісарыка ёсць шмат чаго ад самога характару беларуса-селяніна з ягонай непаспешлівасцю, разважлівасцю, любоўю да ўсяго крэўнага, з ягоным глыбінным адчуваннем спаконвечнай трываласці роднай зямлі, вартасці і значнасці мудрых народных традыцый. Паэт і плугар — ён добра ведае, што варта зберагчы і перадаць нашчадкам, бо заўсёды чалавеку патрэбен не толькі хлеб, а і паэзія. Яны праходзяць праз жыццё, як будзень і свята", — так піша Сяргей Законнікаў у прадмове "Душа прарастае радкамі" да новай кнігі Алеся Пісарыка "Журба вяргіні" (яе выдаў Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор").

З гэтымі словамі нельга не пагадзіцца. А. Пісарык умее заўважыць тое, што адчувае толькі душа паэтычная, а таму яго лірычны герой па-свойму здатны радавацца звычайнай чалавечай радасці, як, для прыкладу, у гэтым чатырохрадкоўі:

***Зноў выпаў снег на Беларусі,***
***Нябёсы цнотаю дрыжаць.***
***І забываецца, што ў скрусе***
***Перамалолася душа...***

Аднак паэт не абыходзіць суровых рэалій, калі піша і пра вайну мінулую, і пра тую, нядаўнюю, афганскую, у якую авантурысты ад палітыкі ўцягнулі і маладых беларускіх хлопцаў. І тут таксама прамаўляе па-свойму — без крыклівага патрыятызму, але і без "выкрыцця", калі вінаватымі становяцца тыя, чыёй віны няма і не было:

***Не ўсё спакойна ў нашых душах.***
***І ноч — дазорная сястра.***
***І на адгор'ях Гіндукуша —***
***Крывёй амытая зара...***

Паэзія А. Пісарыка блізкая да народных вытокаў. Яму ўдаюцца вершы, у якіх прысутнічае фальклорная падсветка. Аўтар і не хавае гэтага, аб чым сведчыць, у прыватнасці, падборка "З вянка бабуліных песень". Адсюль, з фальклору, бярэ пачатак і яго гумар, па-сапраўднаму здаровы, зноў жа — з самога жыцця.

"Журба вяргіні" — гэта і вершы пра каханне, якія ў А. Пісарыка вельмі сардэчныя, мілагучныя, хоць часам хочацца перасцерагчы яго ад традыцыйных сітуацый, гэта і прыродная лірыка, і зварот да даўніх падзей. Праўда, тут не абыходзіцца без звычайнай даніны літаратурнай модзе:

***З вачэй і сініцу прагоніць***
***Зажураны веяй мароз***
***За чыстае поле, за гоні,***
***Да ўмёрзлых у неба бяроз.***

***Успомніць сівыя быліны:***
***Тут князь праз сваю весялосць***
***Натрапіў на голас каліны***
***І выпіў яе маладосць.***

А ў цэлым кніга атрымалася. І надае аптымізму, бо тое, што А. Пісарык прамовіў у вершы, які вынесены ў яе назву, гучыць не дыдактычна (як можа падацца на першы погляд), бо нарадзілася паводле ўласнага пераасэнсавання таго, што было і што ёсць:

***І тое, што найперад бачым,***
***І тое, чым жыве душа.***
***Не амывай нявінным плачам,***
***Павер у лепшае спярша.***

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ПРОЗА

Леанід ЛЕВАНОВІЧ

# АНАНІМКА



***Закончыў новы раман "Сіняе лета". Падзеі ў ім адбываюцца ў 1961 годзе, калі ў космас паляцеў Юрый Гагарын, калі на ўвесь свет было аб'яўлена: сучаснае пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме... У творы дзейнічаюць тыя ж персанажы, што і ў раманах "Шчыглы", "Паводка сярод зімы", "Дзікая ружа". Вядома, паявіліся і новыя дзейныя асобы. Прапаную чытачам "ЛіМа" раздзел з новага твора. Цалкам (з невялікімі скарачэннямі) раман друкуе часопіс "Полымя".***

**АЎТАР**

ДАГАРАЛА ЛЕТА, калі Ніна Гаўрылюк вярнулася з Крыма. Яна адпачывала ў санаторыі разам з Аленкай. Надвор'е выдалася цудоўнае. Мора цёплае, ласкавае, садавіны ўсялякай поўна. Наплаваліся, нагрэліся, шчаслівая маці з дачкой вярнулася дамоў у Мінск. Часам Ніна шкадавала, што Яўген не паслухаўся яе і скарыстаў свой адпачынак на пачатку лета, змарнаваў час у Саковічах.

Да школы яшчэ заставалася пару тыдняў, вырашылі Аленку адвезці ў вёску да бабулі і дзядулі. Яўген быў дужа заняты — вёў адказны судовы працэс, таму давялося ехаць Ніне. Пару дзён пагасцявала ў маці ў Лабанаўцы, ад'елася сакаўной папяроўкі.

З хваляваннем ішла Ніна Пракопаўна на работу пасля адпачынку. Яна прапанавала мужу ісці разам.

— Дык яшчэ васьмі няма. У мяне працэс у дзесяць. А ты чаго так рана?

— Засумавала па рабоце. А палове дзевятай хачу быць на месцы... Абедаем у нашай сталоўцы ці як ты?

— У мяне працэс вельмі складаны. Людзей многа... Я магу запазніцца. Мо пазваню, калі будзе магчымасць.

— Зрэшты, і я не ведаю, як складзецца дзень... Ну, пайшла я. — Ніна, задаволеная сабою, у белым касцюме, прыгожых белых басаножках на высакаватых абцасіках, якія падвышалі яе, рабілі яшчэ больш зграбнай і прывабнай.

Яўген пацалаваў яе ў шчаку, але яна ўсмешліва выставіла вусны, складзеныя ў трубачку. Ён ахвотна цмокнуў у вусны.

— Спакушаеш... Каб не працэс, распрануў бы цябе зараз. Твая работа можа і пачакаць.

— Э не, мілы мой, без партыйнага кіраўніцтва жыццё можа спыніцца.

— Мо і сонца свяціць перастане без рашэння чарговага пленума?

— Няма калі спрачацца. Чакаю званка перад абедам...

І вось Ніна ў сваім кабінеце. Жанчыны і ў ЦК застаюцца жанчынамі: сабраліся з усяго аддзела ў прыёмнай загадчыка — сам ён быў у адпачынку. Шчабяталі сцішана, бы сарокі: як загарэла Ніна Пракопаўна, якая яна прыгожая, пагаварылі пра навіны — каго куды прызначылі, хто куды паехаў адпачываць. Дзверы кабінетаў парасчынялі, каб пачуць тэлефон: улетку і ў ЦК было заціпша, хоць і адчувалася набліжэнне вялікіх падзей, а найгалоўная сярод іх — чарговы XXII з'езд партыі.

Ніна разумела, што яе чакае вялікі абсяг работы: ідэалагічна забяспечыць працоўную вахту, рыхтаваць падарункі з'езду — мерапрыемствы распрацавалі, зацвердзілі яшчэ вясной. Ніна была гатова да актыўнай работы, адчувала ў сабе вялікую прагу да паездак — выступаць з дакладамі, гаварыць з людзьмі, пераконваць у правільнасці непераможных ідэй марксізму-ленінізму, славіць дасягненні. І ёсць козыры, самы галоўны — савецкі чалавек, камуніст першым у свеце ўзняўся ў космас.

Прынеслі пошту. Ніна распісалася, перакінула канверты. Адно пісьмо асабліва зацікавіла: зваротны адрас быў вельмі кароткі — г. Лабанаўка. Значыць, нехта — зямляк ці зямлячка — піша. Але чаму няма прозвішча і поўнага адраса? Яна дастала з шуфляды невялікія нажнічкі, акуратна адрэзала краёк канверта, выцягнула аркушык паперы ў клетачку, мабыць, з вучнёўскага сшытка. Няроўныя літары, нібы раскірэчаныя, кінуліся ў вочы і адразу абудзілі трывогу.

"Здрастай Нина Пракопавна! Пишыць табе незнакомая жэнщына. Я то тебя ведаю, как ты у нас в райкоме работала, а ты меня не знаеш... Ты, канешне, бальшая начальница, кируеш людями, вучыш их жыть. А муж судить людей, справедливость вяршыть. А ти знаеш ты, что ён табе змяняе на каждым шагу. Уся Лабанавка знаеть, што кабель твой скрутився з нашай суддзёй. Завуть ету сцерву Светлана Адамовна, мае сваю сям'ю, мужа, дзитя, и всё равно крутить... Дык вот кабелёк твой родненький начуеть з ёй у раённай гастиницы. А ета все знають и смяются... На етак званай камсамольскай свадьбе адкрыта цалаваўся з ёй, а тады запёрлися у гастиницы. Сама знаеш, чым яны там займалися... Во, якия вы праведники. А любитя плявузгать пра сваю чэснасть, вернасть идеям камунизму. Няма на вас батьки Сталина. Ён бы прытиснув хвост и яшчэ нешта твайму кабялю... Бывай здаровенькая! А кабяля свайго приструни. А то и тебя турнуть з высокага кресла. З приветом — Незнакомка".

Ніна адчула, што ёй зрабілася горача і млосна, кроў застукала ў скронях. Забрынькаў тэлефон, але рука не паднялася зняць трубку. Тэлефон не змаўкаў, яна зняла трубку і сярдзіта кінула яе зноў на чорны бліскучы апарат: была не гатова да тэлефонных размоў.

"Дык вось чаму ён не паехаў у санаторый са мной, — білася ў галаве думка. — Ах, кабялюга! Можа, яна і сюды прыязджала... У кватэры навёў парадак, як ніколі. Відаць, была... А можа, і не. Сям'я, муж, дзіця..."

Яркі летні дзень увачавідкі пацямнеў, узнёслага настрою, як і не было: аркуш паперы з крывымі літарамі вярнуў яе на зямлю, і яна зняможана застыла над сталом. Вочы зноў і зноў перачытвалі радок за радком. А ў галаве, быццам рыбіна ў нераце, білася думка: няўжо гэта праўда?

Паступова ўсё большая злосць накіпала не на кабяля-мужа, не на сцервусуддзю, а на подлую "Незнакомку". Хто яна такая і што прымусіла яе напісаць гэты ліст? Ніна нямала пражыла на свеце, самой даводзілася разбіраць розныя скаргі, сямейныя гісторыі, здаралася і правяраць ананімкі. Яна разумела, што так проста нічога не робіцца — любым чалавекам заўсёды кіруе інтарэс. Можа, "незнакомка" хоча ёй, Ніне, адпомсціць? Каму яна, калі працавала ў райкоме, моцна дапякла? Яўных ворагаў сярод жанчын не знаходзіла. Мужчыны, асабліва п'янтосы, маглі крыўдаваць на яе і да гэтага часу.

Згадала, як у кабінеце Даўгалёва, маладыя запрашалі яе на вяселле, як потым яна ўгаворвала мужа, каб схадзіў з дачкою — Алене захацелася паглядзець вяселле. Ніна не сумнявалася, што Яўген мог быць у гасцініцы з той суддзёй, але чаму і тая была адна на вяселлі? У яе ж сям'я, муж, дзеці. Трэба ж такое супадзенне: ён без жонкі, а яна без мужа... Аленку ён мог адвесці дамоў... А можа, усё гэта паклёп? Як хацелася ёй, каб усё ў гэтай ананімцы было няпраўдай!

Розум суцяшаў, супакойваў, а сэрца крычала: праўда, магло быць. Дыму без агню не бывае. І ты сама вінавата: у цябе на першым месцы — работа, на другім — дачка, на трэцім — маці. А муж? На якім ён месцы? А яму ж патрэбна і ласка, і ўвага, і павага, і абед смачны. А ці часта ты варыла абеды? І сёння ў сталоўку запрашала... Сама, галубка, вінаватая...

Але раіліся ў галаве і іншыя думкі: а можа, гэтая "незнакомка" помсціць Яўгену? Ён жа працаваў суддзёй, і даволі даўно выехаў з Лабанаўкі... Але крыўды помняцца доўга. Магчыма, нехта помсціць за асуджанага мужа, за сына-хулігана... А можа, гэта нехта помсціць суддзі Святлане? Мусіць, "незнакомка" накатала ліст і яе мужу... А раптам гэта сама Святлана даслала ліст, каб я тут згарача падала на развод і развязала рукі Яўгену? Можа, у іх гарачае, палкае каханне? Не, уявіць свайго мужа ў ролі палюбоўніка ніяк не магла... Пра скасаванне шлюбу пакуль што гаворкі быць не можа. Ці сказаць Жэню? Мо зрабіць выгляд, што не было ніякага ліста, яна нічога не ведае, але памалу распытаць, як ён жыў тут без яе, паназіраць за ягонымі паводзінамі...

І раптам яе аж скаланула: яна агледзела канверт і прыкмеціла, што левы верхні ражок адтапыраны, канверт заклеены знадта моцна, значыць, яго маглі ўскрыць, а потым моцна заклеіць. Падазрэнне захіснула яе: пісьмо ўскрывалі ў канцылярыі, знялі копію, і, можа, гэтая копія ўжо ляжыць на стале ў Машэрава — вось вам інфармацыя для роздуму, каб ведалі, як жывуць і як сябе паводзяць адказныя супрацоўнікі. Копія ўжо ляжыць і ў дасье на Жэню — член Вярхоўнага суда павінен быць аўтарытэтным і высокамаральным...

"Вот, кабялюга, даскакаўся! Скажу абавязкова... Не, скандалу не будзе. І сцэны рэўнасці... Але скажу і пагляджу ў твае бессаромныя вочы... А можа, усёткі паклёп?", — як тапелец за саломінку, хапалася яна за гэтую думку.

Зноў азваўся тэлефон. На гэты раз узяла трубку. Званіла начальніца аднаго з упраўленняў Міністэрства культуры, пацікавілася, як прайшоў адпачынак, якое было надвор'е, ці цёплая ў моры вада. Адчувалася, што ёй хочацца патачыць лясы.

— У мяне зараз людзі, — зманіла Ніна. — Калі не гарыць пытанне... Ды і ў чым сутнасць?

Начальніца адразу асеклася, потым сказала, што ёсць пытанне наконт забеспячэння бібліятэк масава-палітычнай літаратурай.

— Пазваніце праз паўгадзіны і мы пагаворым, — адказала Ніна.

Яна паднялася, наліла вады з графіна — непрыемна ўразіла, што рука дрыжыць, загарэлая скура пакрылася гусінымі пупышкамі. Выпіла вады, адчыніла дзверцы шафы, зірнула ў люстэрка, прымацаванае на дзверцы і жахнулася: на яе пазіралі сумныя вочы незнаёмай чырвона-смуглявай кабеты. А сёння ўранні яна глядзелася ў люстэрка ў ваннай і міжволі падумала: "Якая я яшчэ прыгожая, вабная.. І грудзі поўныя, высокія. Так прагна Жэня цалаваў іх..."

Мінулую ноч ім было хораша. Ніна радавалася гармоніі іхніх адносін, лашчыла з асалодаю мужа. А ў першыя гады сумеснага жыцця ён быў такі няўмелы, баязлівы. Ды і яна была вельмі сарамлівая, сексуальна неадукаваная.

Расла дачка, цешыла бацькоў. Маці неяк вычытала ў слоўніку замежных слоў пра аргазм, а што гэта за пачуццё, не ведала. І толькі на вучобе ў Маскве яна зведала, што гэта такое. Адна новая сяброўка дала пачытаць колькі машынапісных старонак пра навуку любові, розныя спосабы. А потым закахаўся ў яе высокі прыгожы мужчына — работнік абкома вялікага прыволжскага горада. Ніна доўга не здавалася, і ўсё ж ён свайго дамогся. І тады яна зразумела, якая можа быць радасць блізкасці, у яе нібы раскрыліся вочы. Яна зразумела, што ейны муж не толькі няўмелы, але і мае слабаватую патэнцыю. І таму не магла ўявіць яго ў ролі ролі палюбоўніка, і сумнявалася ў ягоных шашнях з суддзёй Святланай.

Праўда, апошнім часам Жэня і фізічна змяніўся, падужэў, штодня робіць зарадку, цягае гантэлі. Ягонае цела налілося здароўем і мужчынскаю сілаю. Здаецца, ён і ў плячах пашырэў, адно скура белая, не тое, што ў яе — шакаладная ад паўднёвага загару і чарнаморскай салёнай вады.

Пасля вяртання з Крыма ёй было вельмі добра з Жэнем, як ніколі раней. Яна запісала гэта ў свой актыў: адпачыла, загарэла, папрыгажэла, таму і муж, згаладалы за час яе адпачынку, гэткі прагны на любоў. Але тое, што радавала раніцаю, зараз выклікала падазрэнне: муж неяк іначай паводзіць сябе ў ложку, у яго паявіліся нейкія новыя рухі... І рэўнасць зноў сціснула, нібы кляшчамі, Німіна сэрца.

Настойліа забрынькаў тэлефон, Ніна страсянула галавой, кінулася да стала.

Потым яна чытала іншыя пісьмы, адказвала на званкі, сама званіла ў розныя ўстановы. Чакала, калі пазвоніць Яўген, але ён не абазваўся. Яна таксама не пазваніла яму.

У часе абеду адна з сяброўак заўважыла:

— Ніна Пракопаўна, вы гэтак улеглі ў справу, што адразу вочы стомленыя зрабіліся. Хіба ж можна гэтак рэзка пачынаць?

— Ой, поўны стос скаргаў прынеслі. Тэлефон не сціхае...

— Давайце па абедзе выйдзем хоць на паўгадзінкі ў скверык.

— У мяне ў дзве гадзіны сустрэча. З Міністэрства культуры папрасіўся на прыём чалавек... — адбілася ад прапановы Ніна.

Увесь дзень, што б яна ні рабіла, не забывалася пра ананімны ліст, думка пра яго, нібы ржавы цвік, засела ў галаве. І гэты дзень падаўся Ніне з год.

Яўген яшчэ з паўгадзіны пабыў дома пасля таго, як пайшла Ніна. Настрой меў выдатны. Жонка парадавала яго гэтай ноччу, здзівіла пацалункам на развітанне ля парога. Ён помніў, як мала яны цалаваліся ў першыя гады сумеснага жыцця. Абодва перажылі вайну, пасляваенную нішчымніцу. У абодвух было нялёгкае дзяцінства і юнацтва. Колькі дзён сядзеў Яўген на хлебе і лівернай каўбасе, на чаі без цукру, калі вучыўся на юрыдычным факультэце.

На работу вырашыў ісці пехатою. Ранак быў свежы, неба высокае зацягнутае лёгкімі, бязважкімі, быццам ватнымі, трубачкамі аблокаў. Думаючы пра мінулую ноч Яўген успомніў і нядаўнюю, вельмі прыемную сустрэчу.

А было так. Неўзабаве пасля ад'езду Ніны ў Крым пазваніў у Лабанаўку Святлане. Адчуў па голасе, як тая ўзрадавалася, яму падалося, яшчэ болей павесялела, калі даведалася, што ён застаўся адзін.

— Зрабіце мне камандзіроўку ў Мінск. Абмен вопытам ці яшчэ што. Прыдумайце, Яўген Іванавіч!

— Наўрад, каб удалося прыдумаць камандзіроўку. Можа, вы да бацькоў будзеце ехаць?

— Мы ж ездзім разам. Сын у маіх бацькоў. Хіба што майму благавернаму выпадзе якая паездка.

Пагаварылі, з сумам развіталіся. Але закаханым часам шанцуе. Праз пару дзён звоніць Святлане:

— Выклікаюць на семінар у Магілёў. Будуць вучыць, як прымяніць новыя ўказы... Можа, прыехаць да вас? — гулліва сказала яна.

— Канечне. Абавязкова. Буду чакаць...

Запісала адрас, паабяцала пазваніць.

І сустрэча адбылася. Тую ноч Яўген не забудзе ніколі. Ён добра падрыхтаваўся: было і пітва, і закусі. Але яны п'янелі без віна... Раніцай Святлана паехала да сваіх бацькоў. Праз колькі дзён пазваніла, сказала, што даехала нармальна, але спазнілася, дома вельмі чакалі, бо пазваніў туды муж, бацькі ўсю ноч не спалі. Гаварыла яна коратка, афіцыйна, наконт новай сустрэчы і не заікнулася. Яўген зразумеў, што муж узяў яе "пад каўпак".

Яўген у тыя дні вёў вельмі складаны, заблытаны судовы працэс. Кіраўнік гандлю абласнога горада разгарнуў надзвычай бурную дзейнасць, хадзіў у перадавіках, задобрыў сваіх начальнікаў, махінацыі рабіў усё больш нахабна. Накраў вялізную суму грошай. За ім доўга сачылі. Узялі, калі выходзіў з рэстарана на добрым падпітку ў кампаніі хаўруснікаў. Да гандляра падышлі чацвёра дужых хлопцаў, узялі пад белы рукі і пасадзілі ў машыну. Абласныя кіраўнікі мелі, як гаворыцца, рыльца ў пушку, і справу перадалі ў Мінск. Былі спісаны дзесяткі тамоў, па справе праходзіла каля сотні людзей. І амаль усё абласное кіраўніцтва. Калі некаторыя рашуча адмаўляліся ад сувязі з гандляром, той даставаў запісную кніжачку і дакладваў: "Яму падарыў мэблевы гарнітур. На задняй сценцы шуфляды пісьмовага стала ёсць лічба шэсць і мае ініцыялы". Асабліва адбіваўся сакратар абкома па ідэалогіі. "Хай ён прыйдзе на допыт у светлым касцюме". Той прыйшоў. Гандляр заявіў: "На левай кішэні знутры — дата і мае ініцыялы". Партыйнаму ідэолагу давялося прызнацца, што атрымаў прэзент.

Працэс працягваўся доўга. І ў той дзень перапынак на абед Яўгену ўдалося аб'явіць пасля чатырнаццаці гадзін.

*(Працяг на стар. 12)*

## Прэм'ера "Кацігарошка" ў Віцебску



Прэм'еру беларускай народнай казкі "Кацігарошак" ажыццявіў Беларускі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску. Паставіў яе на віцебскай сцэне вядомы ў Рэспубліцы Беларусь рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерый Маслюк.

*На здымку: сцэна са спектакля "Кацігарошак".*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## "А гармонік грае, грае..."



Даўно знаюся з "Менскім гармонікам". Люблю слухаць яго выступленні. Падчас аднаго з іх узнікла чатырохрадкоўе:

*Каб быў прыемны гоман,*
*Спяваць павінны Гоман.*
*Але ж патрэбна і рука*
*Няўтомнага Раманчука.*

Скажам — не толькі Ала Гоман такая гаманкая. Усе тут галасістыя — і пявунні, і певуны. Інструменталісты — няўломкі таксама. "Менскі гармонік" трывала пачынае займаць "свой пачэсны пасад" між ансамблямі. Выканаўцы бываюць у розных кутках Беларусі і за яе межамі.

Мне, музейцу-коласаўцу, хочацца выказаць удзячнасць мастацкаму кіраўніку калектыву Івану Раманчуку за пачцівае стаўленне да памяці песняра. Без ніякіх адгаворак, ахвотна адгукаецца ён на просьбы ўзяць удзел у нашых святах і вечарынах. І ўсё — за так.

Рэпертуар ансамбля народнай музыкі і песні "Менскі гармонік" наскрозь беларускі. Музыка ў асноўным самога кіраўніка. Іван Раманчук апрацоўвае народныя мелодыі, "агучвае" вершы беларускіх паэтаў і свае ўласныя.

Гэтым разам аўтарскі канцэрт Івана Раманчука, што прайшоў у Цэнтральным Доме афіцэраў, таксама вызначаўся навізной нумароў. Апроч ужо вядомых музычных твораў на словы Петруся Броўкі, Ларысы Геніюш, Антона Бялевіча, Паўлюка Пранузы, Пятра Прыходзькі, Васіля Зуёнка, Уладзіміра Паўлава, Міхася Пазнякова, Ніны Гарагляд, прагучалі і песні прэм'ерныя. І нязменная візітная картка — "Менскі гармонік", чым звычайна заканчваецца выступленне артыстаў.

Пахвальна выказаўся ў адрас выканаўцаў аўтар слоў песні "На радзіме" Міхась Пазнякоў і прачытаў вершаванае прысвячэнне любімаму ансамблю. Яно пачынаецца радкамі:

*Як жа на сэрцы світае! —*
*Час, супыніся, прашу! —*
*"Менскі гармонік" грае,*
*Гоіць і жывіць душу.*

Хораша вяла канцэрт дыктар Беларускага тэлебачання Арына Ястраб.

**Іван КУРБЕКА**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Спяваем па-беларуску

Зрабіцца крытыкам у наш час — няма праблемы! Ці не кожная нагода правакуе развважаць уедліва (амаль з'едліва), іранічна (амаль цынічна). І пісаць адпаведна... Вось і фестывальны канцэрт яшчэ не пачынаўся, а мне ўжо карцела (і ў каторы раз!) пацешыць чытачоў фельетонам пра вельмі паважанага філарманічнага работніка, які, відаць, пераблытаў канцэртную залу з гасцёўняй уласнай кватэры і сваім пытаннем ледзь не ўсчаў канфлікт з прэсай, уладкаванай, дзякуючы іншаму адміністратару, на галёрцы партэра: "А што калі я да вас дадому прыйду і сяду?!"

І ўсё ж фельетона, як вы здагадваецеся, гэтым разам не будзе. Далейшыя падзеі ў зале (дакладней — на сцэне) настроілі па-святочнаму: на ўсмешку, на добры гумар, на зычлівыя словы, на спагаду і паблажлівасць. Такое ладзілася ўпершыню — упершыню беларускія дзеці спявалі "ўжывую" з "жывым" вялікім аркестрам, пад кіраўніцтвам яго шаноўнага маэстра Міхала Фінберга. Таму і назва ў новага фестывалю "Спяваем з аркестрам..."



Нечаканая для знанага музычнага калектыву форма працы — творчыя стасункі з таленавітымі дзецьмі — нарадзілася воляю выпадку. Падчас падрыхтоўкі праграмы да летняшняга "Славянскага базара" ўзнікла праблема: знайсці гожы дзіцячы голас для выканання аднаой з песень. На кліч Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі адгукнуліся аж 117 маленькіх спевакоў! Убачыўшы іх разам у гасцёўні свайго офіса, маэстра "прыдумаў" новы фестываль... І ўзначаліў яго як мастацкі кіраўнік.

Чытачы нашы ўжо ведаюць, што дзеці з усіх абласцей і сталіцы краіны выходзілі на вялікую філарманічную сцэну два вечары запар: спачатку як спаборнікі, чые выступленні ацэньваліся равеснікамі, а назаўтра як чыннікі гала-канцэрта. Праграма паўтаралася (кожны ўдзельнік падрыхтаваў па адной песні). Адрозненні былі, бадай, толькі ў афіцыйных цырымоніях, у змене строяў вядучых (Ларыса Грыбалёва ды Міхась Сінкевіч), адзення музыкантаў і харыстаў ("Фэст" мінскай СШ N 201 пад кіраўніцтвам Элеаноры Старажук). І ў тым, што другі фестывальны вечар дапоўнілі спевы салістаў аркестра Ларысы Грыбалёвай, Тарыэла Майсурадзе, Наталлі Тамелы, Якава Навуменкі.

Убачыўшы прозвішчы вядомых эстрадных артыстаў у праграме, сёй-той чакаў сюрпрызаў: маўляў, юныя ўдзельнікі фэсту будуць спяваць разам з дарослымі салістамі! Так, у пэўным сэнсе яны працавалі поруч. Але кожны спяваў сваё. Магчыма, "змешаны ансамбль" складзецца ў часе падрыхтоўкі ўжо другога такога фестывалю? Творчасць жа — справа загадкавая, тонкая, непрадказальная...

Што да рэпертуару, з якім выступалі дзеці, — паказаць сябе тут займелі нагоду не толькі дыпламаваныя чальцы Саюза кампазітараў, а і таленавітыя пачаткоўцы, саматужныя песеннікі, якія пісалі музыку і нават тэксты адмыслова для сваіх выхаванцаў. А ўсіх аўтараў падтрымала-паяднала спрактыкаваная і трывушчая прафесійная рука знанага аранжыроўшчыка Уладзіміра Ткачэнкі.

Тэксты ўсіх песень — і гэта маэстра М. Фінберг падкрэслівае як прынцыповую ўмову і адметнасць фестывалю — гучалі па-беларуску. Нават калі арыгінал быў на іншай мове, рабілі пераклад.

Шкада, вядома, што з-за недасканалага канферансу маладых вядучых і пры адсутнасці падрабязных праграмак публіка не атрымала дакладную інфармацыю пра аўтарства кожнай канкрэтнай песні.

Да гэтага шкадавання заўзятыя крытыкі маглі б далучыць яшчэ некалькі заўваг ці проста рытарычных пытанняў, кшталту: з якой доляй сур'ёзнасці трэба ўспрымаць у асяроддзі мышак, верабейкаў, бабуль, матуль ды рамонкаў вобраз "пакутлівага кахання"?

Як можна стымуляваць прафесійных песеннікаў, каб яны больш актыўна і вынаходліва працавалі для тых, каму — ад шасці да адзінаццаці, каб не даводзілася выпрабоўваць дзіцячыя галаскі на тэсітурных складанасцях вядомага "дарослага" рэпертуару?

Які рэдактар заняўся б роднай музычнай спадчынай — беларускія кампазітары калісьці багата пісалі для дзятвы, а састарэлыя песенныя тэксты мадэрнізаваць дзеля гожых мелодый маглі б спрактыкаваныя ў гэтым сучасныя прафесійныя літаратары?

Як унікнуць спакусы славалюбівым дарослым, гатовых штурхаць у промні пражэктараў сваё роднае дзіця ці любімага выхаванца, не падрыхтаванага да выступлення на вялікай сцэне?..

Яны былі такія розныя ў сваіх амаль аднолькавых "канцэртных уборах", такія артыстычныя і абаяльныя! Павел Крэнь з гарадскога пасёлка Фарынава, што на Віцебшчыне; мінчанка Валерыя Валадзько; Алеся Харэвіч з вёскі Палішча Камянецкага раёна; Сяргей Якуш з Рэчыцы; Андрэй Мажароўскі з Пінска; баранавіцкая "зорка" Арсень Чарнамашанцаў; Рома Івашчанка са Смаргоні; Каця Сушко з Вілейкі; Крысціна Жукоўская з Бабруйска; дзяўчаткі з магілёўскага гурта "Вясёл-

АРХІВАРЫУС

# "З мастацкім і матэрыяльным поспехам"

***Цяперашняя купалаўская прэм'ера — нагода для архіўнага росшуку? Відавочна. "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча", вадэвілі легендарнага заснавальніка нацыянальнага тэатра, 21 сакавіка былі прадстаўлены першай драматычнай сцэнай Беларусі. П'есы — пачатку стагоддзя, дзесятых гадоў; знойдзены ў архівах рэжысёрамі Дзмітрыем Марыніным і Дзмітрыем Саладухам. Між тым знаны беларускі архівіст, гісторык Віталь СКАЛАБАН вёў свой пошук, — магчыма, не маючы на ўвазе перадусім купалаўскай прэм'еры, — яна прымеркаваная да вераснёўскага 120-годдзя Еўсцігнея Афінагенавіча. Але пошук нечакана даў... падшыўку нумароў газеты "Минский курьер" за 1919 год! З рэкламнымі апавесткамі, рэцэнзіямі, аналітычнымі артыкуламі, весткамі з "Совдепии", з тэатральнымі фельетонамі і нават з апраўданнем знанага мінскага літаратара Дарафея Бохана, маўляў, некаторыя чытачы "Минского курьера" прыпісваюць яму псеўданім "Вова, сын Міровіча", дык на старонках газеты ён просіць засведчыць, што ніколі не пісаў пад гэтым псеўданімам!***

***..Спадар Бохан пісаў чыстую праўду. Пад гэтым псеўданімам у газеце "Минский курьер" выступаў сам Міровіч.***

— Выдатны рэжысёр супрацоўнічаў з газетай, — настойвае Віталь Скалабан. — Псеўданімы "Вова", "Вова Круцікаў", "Вова, сын Міровіча", маркую, належаць яму і нікому іншаму. Давесці гэта будзе не так складана, як марудна. Бо цэлая праблема ў тым, што мы зусім не ведаем нашай уласнай гісторыі. Ёсць цэлыя перыяды, якія нібыта зусім з яе выпалі. Як прыклад — польская акупацыя Беларусі 1919 года. Што было ў Мінску? Што папярэднічала прыходу палякаў? "Чрэзвычайка сваю працу павялічыла. Праца гэтая мінчанам добра вядома. Імёны расстраляных аб гэтым і цяпер сведчаць. Над Менскам лавіс крывавы кашмар. Людзі на вуліцах баяліся голасна гаварыць. Кожную ноч — павальныя вобыскі. Але вось пачуліся першыя гарматныя, хоць яшчэ і далёкія, стрэлы..." І Купала, так, сам Янка Купала (яму належаць цытаваныя радкі) сведчыць, што ў Мінску чакалі палякаў. Шмат у каго былі спадзяванні на тое, што з іхнім з'яўленнем Беларуская рэспубліка асталюецца... Ды не. Купала ў артыкуле "Справа незалежнасці Беларусі" піша, што марнасць спадзеву на каго б там ні было атручвала жыццё, азначала безнадзейнасць, безвыходнасць... Але ж людзі неяк жылі! Газеты чыталі. А газеты сведчаць, што і ў тэатр хадзілі! Газеты, дарэчы, розныя, на розных мовах. Жарсці вакол іх так і віхурылі: спрэчкі нязгода, плёткі. Кожны палітычны дзеяч перацягваў сродкі масавай інфармацыі на свой бок. Але, мяркуючы па тым, колькі і якое месца займалі на палосах пытанні культуры, можам высноваць: яна, культура, усё адно выжывае. У



самых скрутных умовах. Бо на старонках "русской беспартийной газеты" пад рэдакцыяй Аляксандра Гзоўскага (ён самы — выдавец Ольгін) суседзяцца справаздачы пра спектаклі Галубка і Аляхновіча, фельетоны Еўсцігнея Міровіча, п'есы ўрыўкі з раманаў самога Гзоўскага, рэцэнзіі на прэм'еры рус-

ка"... Больш як два дзесяткі юных выканаўцаў, змяняючы адно аднаго, прайшлі перад зацікаўленай публікай, перад "вачамі" тэлеаб'ектываў (за фестывалем сачыла нават усюдыісная камера на рухомым кране, прывезеным з тэлестудыі). На працягу дзвюх з лішкам гадзін не пакідалі сцэну самааддадныя рупліўцы фестывалю — Міхал Фінберг са сваімі музыкантамі ды хор "Фэст", які артыстычна падпяваў і падтанцоўваў салістам — разам са сваёй энергічнай кіраўніцай.

Урэшце, можна сказаць, што на свята "Спяваем з аркестрам..." кожны прыйшоў са сваімі фарбамі, каб дадаць да агульнага малюнка сваю каляровую рысачку. У фае перад канцэртамі спявала "Госціца". Над сцэнай ззяла сонейка і красавала вясёлка (мастак-пастаноўшчык В. Маршак, асвятленне — С. Барталевіч). Непаўторная Зінаіда Бандарэнка, першая вядучая тэлеконкурсу "Чырвоныя гваздзікі", перадавала сімвалічную эстафету дзіцячага песеннага фестывальнага руху, які нараджаўся 20 гадоў таму, калі юныя выканаўцы выступалі ў студыі пад фанаграму радыйнага аркестра з дырыжорам Барысам Райскім. Да фестывалю далучыліся выхаванцы студыі спартыўнага танца культурнага цэнтра Дома друку (кіраўнікі Алена ды Аляксандр Казыры). І, вядома, дапамаглі спонсары: "Славнефть", "Optitec" і персанальна — спадар Карнілаў, дзякуючы якому было забяспечана годнае харчаванне дзяцей.

Праграма "Тэле-бом" з рэдактарам Таццянай Сінкевіч парупілася аператыўна адлюстраваць новую музычную падзею ў эфіры. З дапамогаю мантажу гледачу былі прадстаўлены лепшыя дублі выкананых песень; удалося згладзіць сякія-такія хібы канферансу.

Ды галоўная праблема, да якой неабыякавы "ЛіМ", выявілася, на жаль, менавіта праз тэлеэкран.

Спяваем па-беларуску, і гэта цудоўна! А вось гаворым... На трасянцы. У інтэрв'ю дзяцей, паказаных на экране, беларуская ідэя фестывалю, можна лічыць, звялася на нішто. Праўда, новая песенька, якую ўсім сваім дружным гуртом пачалі складаць удзельнікі фэсту і прыпеў якой "агучылі" перад камерай, — з беларускімі словамі. Можа, яна з часам заменіць сённяшнюю музычную застаўку "Тэле-бома"? І наогул: можа, ідэя новага свята — спяваць па-беларуску — адпавядае неакрэсленай для многіх ідэі глыбокага і праўдзівага патрыятычнага выхавання? Казаў жа Леанід Дранько-Майсюк, вітаючы фестываль, што эстрада — гэта не толькі шоу, не толькі від сцэнічнага мастацтва, гэта — і выхаванне; што самая высокая ступень педагогікі — гэта выхаванне музыкай...

Але ж як гэта цяжка — цягнуцца да высокага!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**
*Фота А. ПРУПАСА*

---

кага, беларускага, яўрэйскага тэатра! Газета "Минский курьер" давала спрэс беларускія матэрыялы: ад допісаў Карскага да ліста "былога настаўніка Сымона Міхайлоўскага", — вядома, Рак-Міхайлоўскага. Падыходы да друкаванага — культурніцкія. "Минский курьер" — неацэнная крыніца жыцця Мінска 1919—20 гадоў. А тэксты водгукаў — вось яны: "Спектаклі... "Інтымнага тэатра" праходзяць з мастацкім і матэрыяльным поспехам. Праграмы апошніх спектакляў былі вельмі разнастайныя і ўдалыя. Упершыню мінчукі ўбачылі аўтара (Міровіча. — **Ж. Л.**) у ягонай вядомай п'есе "Вова прыстасаваўся", якая прайшла з вялікім поспехам і пад няўмоўчны рогат публікі". Або: "У хуткім часе будзе пастаўлена апошняя навінка Е. Міровіча "Вова-рэвалюцыянер". "Ці вядомая гэтая п'еса гісторыкам тэатра? Тым часам "ролю Вовы выконвае сам Міровіч". Або "Трупа... запрошана на некалькі гастроляў у тэатр "Гігант", у сувязі з гэтым дырэкцыяй тэатра тэрмінова ладзяцца работы па абсталяванні сцэны". "Пасля гастроляў трупа пакідае Менск і, як мы чулі, кіруецца ў Варшаву..." А чаго варты подпіс пад адным з фельетонаў: "вакальна-музычны, драматычна-балетны крытык Вова, сын Міровіча"?.. Праўда, па ўсім відаць, што да Варшавы трупа не даехала. Як перажываў гэта сам Міровіч? Што рухала ім, што ім кіравала і тады, калі ўлады памяняліся? Перадусім, напэўна, любоў да тэатра. Праца ў ім. Але як ставіўся ён да звання народнага артыста і неўзабаве — да ссылкі ў Гомель? Што меркаваў ён пра трыццатыя, пра саракавыя гады, пра тое, як яму ўдалося выжыць?.. І якім коштам? Не буду хаваць: прэм'ера Купалаўскага тэатра па-свойму вярнула даследчыкаў да гэтых пытанняў...

**З Віталем СКАЛАБАНАМ**
**сустракалася Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: Віктар Манаеў і Аляксандр Лабуш у "Інтымным тэатры Еўсцігнея Міровіча".*

*Фота Артура ПРУПАСА*

---

ТЭАТР

# Крык чалавечы

## ГІСТОРЫЯ СПЕКТАКЛЯ, ЯКІ ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў ДЫЛОГІЮ

***Аднаго разу я спытаў у Барыса Луцэнкі, мастацкага кіраўніка Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі, — як ён выбірае п'есу для пастаноўкі. І пачуў: "Рэжысёр у п'есу мусіць закахацца!"***

***Якраз ішла работа над спектаклем з рабочай назвай "Крык чалавечы" — падставай мусіла зрабіцца Купалава "Раскіданае гняздо" і яшчэ ненапісаная п'еса Аляксея Дударава. Тое, што Луцэнка ўлюбёны ў Купалу, даводзілі дзве ягоныя пастаноўкі "Раскіданага гнязда" — у купалаўскім тэатры і ў кіно. А што ж Дудараў?..***

Перамовы вяліся ў самым лепшым для гэтага месцы: у маленькай "хатняй" лазні Рускага тэатра. Два майстры, захутаныя ў прасціны — тогі, нібыта патрыцыі, "разміналі" свае целы і ідэю будучай пастаноўкі. "Ты павінен стаць сучасным Купалам, — пераконваў драматурга рэжысёр, — усё паўтараецца. Той самы сутык стагоддзяў, ідэалогій, ломка свядомасці, раскідаецца "наседжанае гняздо" светаразумення. Чалавек голы і шэры, ён безабаронны, і ён крычыць, толькі яго зноў, як і тады, ніхто не чуе. Мы зробім спектакль, дзе першая частка твая, а другая — Купалы".

Так з'явіўся другі закаханы — ў ідэю "Раскіданага гнязда" — чалавек. Аляксей Дудараў напісаў п'есу хутка. Зноў былі гутаркі, удакладненні, пераробкі, спрэчкі, узаемнае неразуменне, падобныя да вайны кампрамісы: ішоў нармальны творчы працэс. Але... драматург ёсць драматург!

Ну не ўмясціліся ў адзін акт ягоныя думкі і пачуцці. Нарадзіўся сур'ёзны, поўнамаштабны драматургічны твор, які нельга было ўрэзаць, сціснуць, скараціць без рызыкі разам з вадой выплюхнуць і дзіця. Так з'явіліся п'еса і аднайменны спектакль "У прыцемках".



*"Раскіданае гняздо"*

Ці стаў Дудараў сучасным Купалам? Думаецца, ён застаўся сабой, але боль мастака за свой беспрытульны народ, за "раскіданае гняздо" беларуса ў п'есе нагадвае боль купалаўскі. Спектакль шчыльна ўвайшоў у рэпертуар тэатра. І вось ужо другі сезон "пустых" залаў не бывае ні па колькасці гледачоў, ні па якасці эмацыйнага напружання, якое стварае гэтая пастаноўка.

Гісторыя, расказаная са сцэны, на першы погляд простая, банальная і пазнавальная. Герой вайны, генерал, перакананы камуніст і змагар за светлую будучыню ўсяго чалавецтва, не здолеў захаваць нават уласную сям'ю. Выгнаў дачку, якая асмелілася закахацца ў замежнага дыпламата. Ён не зразумеў, што выпала першая цаглінка са, здавалася б, манументальнага "дома агульнага шчасця", што родны яму чалавек пасмеў усумніцца ў яго ідэалах, выправіўшыся на пошукі свайго маленькага асабістага шчасця. Але генерал, герой і камуніст, не можа быць сентыментальным і стварае наўзамен "малой" вялікую сям'ю, — дом герояў. Там ён разам з іншымі "героямі" жыве на поўным дзяржаўным забеспячэнні, здаўшы дзяржаве бясплатна вялікую гарадскую кватэру. Гэта запаведнік савецкай дзяржавы з яго этыкай, мараллю, духоўнасцю. Толькі надышла іншая часіна. І ветры пераменаў разбураюць новае гняздо, якое здавалася такім трывалым. Вяртаецца дачка нашага героя — багатая "іншаземка", якая дамагаецца вялікіх поспехаў, і... купляе "Дом герояў" пад будучы "Дом шчасця" з басейнам і ружовым раялем. А сказаць больш груба — стварае нейкую шлюбную фірму. Толькі сын яе ідзе ў сваіх развагах далей. Выхаваны на іншай філасофіі, ён бачыць сваё "гняздо" як грамадства абраных, дзе няма месца слабым і бедным. І ў гэтым падтрымлівае свайго героя-дзеда, які з горыччу прамаўляе... "Мы ўсё жыццё будавалі дом і пабудавалі. А ён раптам аказаўся нават не з пяску, а так — здань, міраж... Дык няхай ён будзе пракляты, гэты час! Прыцемкі".

Толькі гледачу спектакль дае права вырашаць: прыцемкі гэта пасля заходу, перад доўгай ноччу альбо хутка настане світанак? Дзе ён захоча жыць — у "Доме герояў", "Доме шчасця", "Доме абраных" ці, азірнуўшыся назад, на свае вытокі, убачыць наперадзе "родную хату", такую простую і такую мілую сэрцу?



*"У прыцемках"*

Я толькі пункцірна абазначыў сюжэтную канву спектакля. У ім на самай справе сканцэнтраваны пазнавальныя сітуацыі, калізіі, характары герояў. Пастаноўка стварае атмасферу даверу да таго, што адбываецца, уцягвае ў дзеянне і змушае ў думках разумецца або спрачацца з персанажамі, робячыся на нейкі час не гледачом у зале, а саўдзельнікам таго, што адбываецца на сцэне. Героі Расціслава Янкоўскага, Алега Корчыкава, Зоі Асмалоўскай, Ганны Маланкінай, Валянціна Серады ажыўлены майстэрствам акцёраў. Акцёры, на мой погляд, не схлусілі і не схалтурылі...

Закахаўшыся ў п'есу Дударава, рэжысёр не здрадзіў Купалу. І нарадзіўся яшчэ адзін спектакль — "Раскіданае гняздо". Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што хоць і ўдалася пастаноўка "У прыцемках", але рэжысёрская задумка не была цалкам рэалізавана. Луцэнка мысліў вывесці на сцэну з купалаўскага "раскіданага гнязда" двух Лявонаў — Лявонавых, можа, нават братоў, але аднаго з бел-чырвона-белым сцягам, а другога — з чырвоным. На сутыкненні палярных ідэалогій мыслілася паказаць у мастацкай форме рэаліі сучаснага жыцця, злучыўшы іх у адным спектаклі. Выйшла іначай, але ў "Раскіданым гняздзе", у свеце купалаўскіх вобразаў яўна адчуваецца пульсацыя нашага цяперашняга быцця і першапачатковай Луцэнкавай задумкі.

Кожны з герояў пастаноўкі нясе ў сабе думкі і пачуцці, настолькі блізкія нам, людзям канца XX стагоддзя: ці трэба злом адказваць на зло — пайсці з жыцця, бачачы крах усіх сваіх спадзяванняў, любіць, нягледзячы ні на што, замкнуцца ў сваім свеце і нічога не заўважаць, знайсці гармонію ў хаосе і радавацца простаму быццю, яднаючыся душой з усім светам...

Мастак, калі ён сапраўдны мастак, у момант тварэння набывае іпастась боскую і стварае свой свет, як новую рэальнасць. Можна назіраць гэты свет здалёку, холадна сузіраючы яго рэаліі, але бывае, што ён захопіць цябе і ты ўжо жывеш ў ім, сумуеш і радуешся, любіш і абураешся. У гэты момант глядач робіцца дзейнай асобай і не адлучае сябе ад падзей на сцэне. Ствараецца тая нябачная сувязь, тая аўра адзінага поля, якая адрознівае відовішча ад Тэатра ў яго вышэйшым разуменні. Спектакль "Раскіданае гняздо" — узор такога Тэатра. Можна знайсці ў ім недасканаласці, можна паіншаму вырашыць нейкія сцэны, напісаць іншую музыку, зрабіць больш выразным афармленне, але разбурыць гэты свет?! Не, няможна. Не варта.

Два спектаклі, два светы, здавалася, раздзеленыя часам, злучыліся ў душах людзей, нараджаючы кволае ўсведамленне асабістай далучанасці да Вялікай гісторыі Чалавека. Крык чалавечы мацней за гукі званоў і гучней за стрэлы гармат, бо ён абвяшчае нараджэнне Дзіцяці і нараджэнне новага Свету.

**Яўген АГУРЦОЎ**
*Фота Канстанціна ДРОБАВА і Генадзя ЖЫНКОВА ("Культура").*

---

УГОДКІ

# Нарадзілі дваццатыя...

Хоць зямны шлях Васіля Гарбацэвіча пачаўся 19 красавіка 1893 года ў вёсцы Дукорка (цяпер увайшла ў склад вёскі Дукора Пухавіцкага раёна), як пісьменнік Васіль Савіч ярка сцвердзіў сябе менавіта ў дваццатыя гады. А перад гэтым скончыў (у 1913 годзе) Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў у Лютаўскай земскай школе пад Сянном, вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, пасля заканчэння якога працаваў настаўнікам у Дукорскай сярэдняй школе, потым выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме (1924—1929). Першая п'еса В. Гарбацэвіча "Вяселле" была пастаўлена ў 1921 годзе. Але асаблівую вядомасць яму прынесла п'еса "Чырвоныя кветкі Беларусі" (была апублікавана і пастаўлена ў 1923 годзе). Напісаў Васіль Савіч і іншыя драматургічныя творы — "Пад вішнёвымі садамі", "Песні нашых дзён". Лепшыя яго п'есы былі прадстаўлены ў зборніку "Чырвоныя кветкі Беларусі", выдадзеным у 1983 годзе. У сталым узросце напісаў ён успаміны пра сустрэчы з М. Багдановічам у Яраслаўлі, якія ўвайшлі ў кнігу пра М. Багдановіча "Шлях паэта" (1975). Наканавана ж В. Гарбацэвічу было доўгае жыццё. Стаў арганізатарам і кіраўніком Магілёўскай філіі "Маладняка", прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне. Пад Каневам у 1943 годзе быў цяжка паранены. Настаўнічаў у вёсцы Дукора да 1957 года. Памёр 19 мая 1985-га...

## Першая кніжка “БГС”

**У бібліятэцы Віленскага універсітэта захоўваецца тэкст ананімнага беларускага шляхціца, які ў 1797 годзе выехаў з Мінска ў Пецярбург. І хоць гэты рукапіс моцна сапсаваны часам і цалкам не дайшоў да нас, тым не менш ён уяўляе цікавасць. Маючы гэта на ўвазе, рэдакцыя “Беларускага гістарычнага часопіса” і прапанавала згаданы матэрыял у сваім першым нумары за сёлетні год пад назвай “Апісанне падарожжа з Мінска ў Пецярбург ананімнага беларускага шляхціца” (падрыхтаваў да друку Б. Рок, пераклад з польскай мовы Ю. Казакова).**

**А адкрываецца нумар артыкулам галоўнага рэдактара “БГС” В. Кушнера “Вывучаць і асэнсоўваць гісторыю, каб выхоўваць патрыётаў”, у якім у пэўнай ступені падагульняюцца першыя пяць гадоў жыцця гэтага выдання, гаворыцца пра планы на будучае.**

**Як і раней, у часопісе шмат публікацый, якія дазваляюць лепш зразумець і ацаніць некаторыя падзеі нацыянальнай даўніны, паставіўшыся да іх аб'ектыўна, улічваючы сучасныя рэаліі — “Падаткі: генезіс і гістарычная пераемнасць відаў абкладання” І. Святліцкага, “Палітычныя партыі і арганізацыі на Беларусі ў першай палове XX ст.” А. Барыса, “Старадубская вайна” (вайна Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—1537 гг.) Б. Сідарэнкі, “Фарміраванне канцэпцыі генезісу Вялікага княства Літоўскага ў польскай гістарыяграфіі” А. Краўцэвіча, “Дзейнасць М. К. Радзівіла Сіроткі ў Мірскім графстве” М. Гурына. У нашай краіне пачынае ажыццяўляцца ідэя першага ў рэспубліцы праекта “Вяртанне імёнаў: навуковыя біяграмы беларускіх дзеячаў культуры, навукі, палітыкі IX—XX стст.” У сувязі з гэтым рэдакцыя “БГЧ” пачынае рубрыку “Вяртанне імёнаў”. Адкрывае яе артыкулам “Якуб Наркевіч-Ёдка” У. Кісялёў.**

## “Музей старажытнабеларускай культуры”

**Музей старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, як вядома, з'яўляецца сховішчам, у якім зберагаюцца многія унікальныя экспанаты, што тычацца іканапісу, народнага мастацтва, скульптуры, археалогіі, кніжнай графікі... Сярод іх — нямала надзвычай рэдкіх. Гэта найперш творы X—XIII стагоддзяў. Дапаможнікам для тых, хто пажадае не толькі пазнаёміцца з экспазіцыяй, а і больш даведацца пра гэты музей, стане даведнік, выпушчаны выдавецтвам “Беларуская навука”. Даведнік так і называецца “Музей старажытнабеларускай культуры”. У ім змешчаны і багаты ілюстрацыйны матэрыял.**

## Юны скрыпач

**Ён, вядома ж, не Сымон-музыка з аднайменнай паэмы Якуба Коласа, але ў другакласніка крычаўскай сярэдняй школы N 5 Руслана Клімянкова ўсё ж шмат агульнага з гэтым літаратурным героем. Руслан таксама іграе на скрыпцы. І няблага. Іначай не ўзялі б яго ў фальклорны ансамбль раённага Дома дзіцячай творчасці.**

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

ЗГАДКІ

# Дзень з Валерыем Мараковым

Мы сядзелі з Валерыем Мараковым у Доме пісьменнікаў на Савецкай вуліцы задоўга да таго часу, калі яна стала праспектам Скарыны. Што рабілі? А з Валерыем можна было рабіць адно: слухаць вершы ці чытаць вершы, свае, калі нядаўна напісаныя, ці чужыя. Пры сустрэчы ў яго з вуснаў зрывалася не абвыклае “Здароў” ці “Дабрыдзень”, а які-небудзь вершаваны радок. Часцей гэта было пушкінскае “Мою любовь широкую, как море” ці Багдановічава “Ёсць на свеце такія бадзягі”. Здаралася ўчуць і зусім незнаёмае. Гэта азначала, што ён мае напашэве толькі-толькі выспеваны ўласны верш, і, на ягоную думку, удалы. З гэтага чырванашчокага юнака, здавалася, так і тачылася паэзія: з светлага позірку, размашыстых рухаў, з красамоўнага маўчання.

І на гэты раз сустрэча пачалася з верша на вуліцы і перайшла ў прыёмную Дома пісьменніка. Зазваніў тэлефон. Маракоў падняў трубку, сказаў: “Я” і даволі доўга слухаў. Потым прамовіў: “Лячу!” і падышоў да мяне.

— Рэдактар кліча, не магу адкруціцца.

Рэдактар — Міхась Чарот, Маракоў — ягоны сакратар у часопісе “Чырвоная Беларусь”, а, сказаць дакладней, адзіная штатная адзінка ў рэдакцыі. Ён падшукваў і заказваў нарысы і артыкулы, падбіраў фота, дамаўляўся з мастакамі. Не было цесна ў часопісе і паэзіі.

Чарот заходзіў у рэдакцыю не кожны дзень. Ён вызначаў накіраванасць матэрыялаў у наступны нумар, праглядаў і падпісваў гранкі ў друк. Ён быў задаволены сваім памочнікам, а Валеры нават крыху задаваўся гэтакім даверам і самастойнасцю.

Тэлефонны выклік Маракова тлумачыўся даволі проста. У красавіку 1931 года Свіслач надумалася паказаць сваю былую моц і выйшла з берагоў, заліла татарскія агароды і блізкія вуліцы. Па рацэ плылі змытыя з падмуркаў катушкі разам з іхнім насельніцтвам — козамі і пеўнямі. Козы панура маўчалі, а певуны гарлалі, гучней як на сваіх сядзібах, быццам нічога не здарылася і яны зусім не турбуюцца пра свой лёс. Свіслач тым часам не драмала, а мінуўшы Траецкую гару, рынула па сумежных вуліцах далей. Перарэзала тагачасную Савецкую, затапіла электрастанцыю (Эльвод) і ўсю ніжнюю частку гарадскога парку.

Купалаў дом, а стаяў ён прыкладна на месцы цяперашняга музея, апынуўся сярод нечаканага мора. Вада стаяла па саменькія вокны, і гаспадару з усімі сямейнікамі заставалася ратавацца на гарышчы.

Верны Купалаў збраяносец празаік Сымон Баранавых арганізаваў уратоўчую экспедыцыю. Разам з загадчыкам Дома пісьменніка Васілём Залуцкім дасталі вялікую лодку і рушылі да пацярпелых. Іван Дамінікавіч з жонкаю перабраліся да Чарота. Вось чаму Маракову было дадзена заданне: “прыхапі адну”.

Пераказаўшы ўсё гэта мне, Валеры на хвілінку задумаўся:

— Не хочацца з табой разлучацца, не ва ўсім выспавядаліся, — ён разрагатаўся: — Ведаеш што, мы прыхопім не адну, а дзве бутэлькі прыйдзем удвух. Павіншуем Купалу з перамогаю над стыхіяй.

На гэтым і пагадзіліся. Наскрэблі патрэбную суму і рушылі на Ленінскую. У глыбіні двара, супраць бальніцы і аптэкі, Чарот наймаў даволі цесную палавіну драўлянага дома.

Да нашага прыходу “віншавальнікаў з ратаваннем” сабралася даволі шмат, як на невялікую Чаротаву сталовую. Уладзіслава Францаўна сядзела ў канцы стала, спінаю да акна. Поруч збоку на канапцы — Купала, Міхась Зарэцкі, Баранавых і яшчэ нехта. Мы з Валерам умасціліся на адным венскім крэсле ўдвух.

Купала спытаў у Маракова, ці не спяклося ў яго чаго новенькага. Той не прымусіў сябе прасіць, а прачытаў некалькі вершаў засаб. Ніхто не абзываўся, чакаючы Купалавага погляду. А ён маўчаў, размінаў пальцамі папяросу. Потым падняўся, наліў Валерыю чарку, капнуў і сабе ў недапітую,

— Чокнемся! Не суцішай кроку.

Валеры пачырванеў, але не збянтэжыўся і пераадрасаваў тост на Купалу:

— Дай Бог вам здароўя, дзядзька Янка!

Неўзабаве ў пакоі стала душна і тлумна — прыбывала людзей. Купала з Чаротам горача гаварылі пра польскую паэзію, Зарэцкі і Баранавых у сваю чаргу ўзяліся меркаваць пра задумку нейкага гістарычнага рамана. Мы з Валерыем ніяк не здолелі далучыцца да размовы і выскачылі на ганак, на свежае паветра.

У альтанцы за домам цьмеў агеньчык папяросы. Курыла жонка Чарота Аня, красуня, нядаўняя кінаактрыса. Яна пажалілася на змору: і разу не прысела, а людзей перавярнулася за дзень — не злічыш. У кампанію мы не вярнуліся, Аня адчыніла Чаротаў кабінет, і мы пачалі гартаць кнігі. Гарталі, чыталі ўголас упадабаныя мясціны і непрыкметна паснулі на мулкай канапцы.

Абудзіў мяне штуршок. Чарот незадаволена ўтлумачваў: спаць трэба ісці дамоў, тут цесна ды яшчэ давядзецца паслаць пасцелю для Купалы.

У пакойчыку, які я наймаў на другім баку горада, было ціха, утульна. Гаспадыня сабрала нам цёплую вячэру. І тут высветлілася, што Маракоў ведае на памяць усю кніжку “Безназоўнае”. І дасюль, праз невымерную далеч гадоў, чуецца яго прачулы і ўзрушаны голас:

***Зерне кінулі шчасліва,***
***Чыстае, як вока.***

**Максім ЛУЖАНІН**

# АНАНІМКА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Пазваніў Ніне—тэлефон быў заняты. Пабедаў з калегамі ў сваёй сталоўцы. Увечары ішоў дамоў страшэнна стомлены. І падумаць не мог, што чакае яго дома.

Ён пазваніў у дзверы, хацелася, каб адчыніла Ніна, абняла яго, стомленага, пацалавала, пачаставала моцнай кавай з каньяком, і каб паўтарылася ўчарашняя ноч. Ён забыўся б у ейных абдымках пра гэты знясільваючы судовы працэс. Але яму ніхто не адчыніў.

“Няўжо яна з першага дня так улегла ў работу?” — падумаў Яўген, дастаў свае ключы. А яшчэ болей здзівіўся, калі ўбачыў, што жонка дома, чытае газеты, працуе тэлевізар. Гэта адразу насцярожыла, няўжо знайшла нейкую ўліку?

— Ты дома? Званка не пачула ці што? — Ніна маўчала. — А мне так хацелася, каб ты адчыніла дзверы. Я так стаміўся. Працэс дурацкі выматвае... Усё лета адзін нібы крот...

— Невядома, ці адзін ты быў...

“Так і ёсць. Нешта знайшла. Ці нехта сказаў, — яшчэ болей насцярожыўся Яўген. — Але спакойна. Вытрымка і спакой — гэта галоўнае”.

— Вячэраць будзеш?

— Буду, калі дасі. Я табе званіў пасля двух... Працэс зацягнуўся. У нашай сталоўцы перакусіў... Ну, як твой першы дзень?

— Нічога добрага. Потым... На кухні знойдзеш паесці...

Яўген зразумеў, што пасля вячэры яго чакае допыт, але ўпэўненасць не пакідала: нічога сур'ёзнага не можа быць. Яго ўпэўненасць памацнела, калі ўбачыў на кухонным стале пад бялюткай сурвэткай вячэру: яечню з двух яек, салату з памідораў, скрылікі каўбасы, пару маласольных гурочкаў.

“Суду ўсё ясна. Клопат пра мужа мае месца. Значыць, развод адкладваецца. Істэрыкі не будзе. Проста гутарка пра жыццёбыццё. Галоўным чынам, пра тое, як жыў тут адзін”, — усміхнуўся сам сабе Яўген.

Вячэраў доўга, нетаропка. Заварыў свежы чай, чакаў, што жонка прыйдзе на кухню, ён прапануе выпіць чаю, і тут яны пагавораць. Але яна не прыходзіла.

Яўген зірнуў на гадзіннік — быў час інфармацыйнай праграмы, уключыў рэпрадуктар, наліў сабе яшчэ чаю. Вырашыў дачакацца жонкі, паказаць, што яму няма чаго нервавацца, што ён чысты і нявінны ні сном, ні духам, ягоныя думкі і памкненні чыстыя, як галубіныя сны.

І жонка не вытрывала, прыйшла, моўчкі ўзялася мыць талеркі.

— Чай свежы заварыў. Будзеш піць?

— Ну, налі.

“Першы ход мой. Я іграю белымі. А белыя пачынаюць і выйграюць”, — самаўпэўнена падумаў Яўген.

Краем вока зірнуў на жонку і жахнуўся: у яе быў вельмі стомлены, пастарэлы твар і сумныя вочы. Гэта была зусім не тая ўсмешлівая, задаволеная жыццём і сваім лёсам, шчаслівая жанчына, якая ўранку выходзіла з дому. Нават падалося, што за адзін дзень пабляднеў шакаладны, паўднёвы загар. Ён зразумеў, што нешта выбіла жонку з раўнавагі, нешта здарылася, яна моцна перажывае.

— Дык што здарылася? — спакойна спытаў ён.

Ніна рэзка павярнулася, імкліва выйшла з кухні. Неўзабаве вярнулася, падала аркуш паперы.

— Чытай. Гэта пра твае выбрыкі...

Вочы схапілі першыя радкі няроўных літар, і адразу ў скронях запульсавала кроў, ён тут жа перавярнуў аркуш: хто піша? Убачыў подпіс “Незнакомка” і з палёгкаю ўздыхнуў: ананімка. Што б тут ні было накрэмзана — ананімка застаецца заўсёды ананімкай, кляўзай, якой сур'ёзныя людзі не даюць веры. Чым далей чытаў, тым большая злосць апаноўвала яго: хто гэтая поскудзь “Незнакомка” і чаго яна хоча? Як юрыст, ён лепей за іншых ведаў, што людскімі ўчынкамі заўсёды кіруюць або выгада, або пачуццё, або жаданне.

Чаго хоча гэтая кляўзніца? І адкуль яна дазналася пра ўсё? Дзяжурная ў гасцініцы? А мо і не сама яна. А калі яна, што кіравала ёй? Зайздрасць? Ці, можа, Святлана, мала ёй дала? Калі нешта ведаюць дзве жанчыны, гэта ўжо не таямніца. Ён дачытаў да канца, яшчэ раз прагледзеў, прымусіў сябе ўсміхнуцца:

— Суду ўсё ясна. Кляўза. Помста. Але каму? Мне? Здаецца, даўно адтуль. Табе? Таксама даўно... Зрэшты, крыўды не забываюцца... Мае крыўды судовыя — яны больш моцныя. Значыць, помста не табе...

— А можа, твая каляжанка накатала? Каб мы тут перагрызліся, развяліся... — Ніна падняла на яго вочы, і яму падалося, што ейны твар пасвятлеў — мужаў спакой падзейнічаў і на яе.

“Так трымаць, стары. Спакойна абдумвай чарговы ход”, — пахваліў сябе Яўген.

— Наўрад... У яе свая сям'я. Здаецца, сын ці дачка. Муж, здаецца, следчы пракуратуры.

— Здаецца, здаецца... Ты што не ведаеш дакладна? — раптам рэзка сказала Ніна. — Кабель, няшчасны! Усё тут праўда! Ніякая не кляўза. Што я не бачу па табе?.. Чаму яна была на вяселлі без мужа?

Яўген не спяшаўся адказваць, думаў: даваць адпор у адказ на рэзкі выпад жонкі, ці прапусціць міма вушэй? Вырашыў не задзірацца.

— А хто яе ведае? Вяселле камсамольскае. Яе сяброўка, загадчыца райфа, таксама была адна... Я, можа, пару разоў станцаваў з ёй. Потым увесь час з Даўгалёвым гаварылі. Ты ж можаш у яго запытацца, — Яўген быў упэўнены, што Ніна ніколі не будзе пытацца ў Даўгалёва, як паводзіў сябе на вяселлі ейны муж.

— Што мне рабіць няма чаго? Буду я некага распытваць... Каб дзе і падгуляў, бог з табой... Але рабі так, каб ніякіх кляўз не было, — праз слёзы сказала Ніна. — Мне падалося, што канверт ускрывалі... Магчыма, знялі копіі... Можа, гэтая копія ўжо ляжыць у некага на стале. І ў тваім дасье ў пэўных органах...

Гэтым яна насцярожыла, і яшчэ болей расчуліла мужа.

“Мудрая ў мяне жоначка. Святлане да яе далёка. Той абы крутануць налева”, — падумаў Яўген.

Ён разумеў, што навальніца заціхае, што цяпер галоўнае — не сказаць нічога лішняга, лепей за ўсё — абняць і пацалаваць жонку.

— Мілая мая, парві гэтую кляўзу і выкінь... Ніхто мне непатрэбны, апроч цябе. Ніна, мілая, вер мне. Я люблю цябе цяпер мацней, чам у маладосці. Гэта праўда...

Яна зірнула на яго праз слёзы, апусціла галаву на рукі і бязгучна заплакала. Яўген пяшчотна абняў яе за плечы, пачаў гладзіць яе кароткія густыя валасы, ужо з ніткамі сівізны. Асцярожна падняў жончыну галаву, пацалаваў заплаканыя вочы, потым шчокі, шыю. Ніна, абвялая, разамлелая, не пярэчыла. Яўген узяў яе на рукі і панёс у спальню...

А ў далёкім райцэнтры рыхтавалася да сну Святлана Адамаўна. У лёгкім халаціку яна стаяла перад трумо, вялікім пластмасавым чырвоным грэбнем расчэсвала доўгія залаціста-белыя валасы. Яна падабалася сама сабе, любавалася сабой, і вочы яе, быццам дзве валошкі, свяціліся сінім бляскам. “І ўсё-ткі я прыгожая. Муж пашумеў, пакрычаў... Дый супакоіўся. Здаецца, яшчэ мацней любіць цяпер”, — яна з прыемнасцю ўспомніла гарачую ноч у Мінску, соладка пацягнулася, бессаромна расхінула халацік, агледзела крытычным паглядам высокія, поўныя, не абвіслыя грудзі, тугі, падцягнуты жывот, цёмны трохкутнік ніжэй...

Муж выйшаў на ганак пакурыць. Тыдзень назад ён прызнаўся, што яму пазваніла невядомая жанчына і сказала, што ягоная жоначка гуляе з мінскім начальнікам, нейкім важным членам, начавала з ім у гасцініцы... Калі б не спазненне пасля семінара, муж не паверыў бы гэтаму, а так прыняў усё за чыстую манету. Наладзіў скандал, ухапіў за валасы: “Прызнавайся, сцерва, з кім гуляла!” Святлана верашчала, пусціла ў ход вострыя кіпцюры. Муж адштурхнуў яе. Дні тры не размаўлялі...

Вось тады следчы пракуратуры правёў расследаванне, дазнаўся хто ёсць хто і накатаў ліст у ЦК — жонцы свайго саперніка. Пісаў левай, падрапанай рукой, каб не пазналі па почырку, свядома рабіў памылкі, каб не падумалі, што пісаў чалавек з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй.

Потым яны памірыліся. Муж зрабіўся клапатлівым і пяшчотным, Святлана абдымала мужа мацней і гарачэй, хоць і думала падчас абдымкаў пра іншага, у душы шкадавала, што не скора ўдасца пабачыцца з ім.

ПОСТАЦІ

# Алесь Адамовіч, імгненні

Аляксандар СТАНЮТА

## КРОЧЫЦЬ І ДУМАЦЬ

Галава ў яго была буйная — мне гэта асабліва кідалася ў вочы, калі я бачыў Алеся Адамовіча здалёк, з процілеглага боку вуліцы, ці зверху, з вокнаў акадэмічнай бібліятэкі.

Нейкі час ён насіў зімой рудую футравую шапку і калі ішоў сваімі кароткімі частымі крокамі, злёгку касалапячы, то ледзь прыкметна як бы ківаў галавой у такт, схіліўшы яе набок, і тады вялікая, глыбока насунутая шапка, якая здавалася трохі цяжкаватай, толькі падкрэслівала той яго звыклы, заўсёдны і натуральны занятак і стан, у які ён цалкам паглыбляўся, застаючыся хоць на хвіліну адзін, — думанне. У гэтым выпадку — думанне на хаду.

Ён мог вось так прайсці праз увесь горад — напрыклад, ад галоўнага ўваходу ў Батанічны сад на праспекце Скарыны, недалёка ад якога жыў, ці Акадэміі навук, дзе працаваў, да універсітэта, дзе чытаў лекцыі, або гатэля "Мінск", куды прыязджалі яго знаёмыя з літаратурнай Масквы, — а то і да вакзала.

Аднак ён мог і любіў праходзіць па гэтым маршруце і ў гутарках з кім-небудзь: у гутарках ён таксама думаў, слухаў не толькі іншага, мне здаецца, але і сябе, і штосьці нібы правяраў на слых, а, можа, і накідваў ужо да будучага тэксту.

Так, цяпер я разумею, што ён, адмерваючы кіламетры ў горадзе, адзін ці са спадарожнікам, не проста думаў — ён ужо пісаў.

Аднойчы я быў непасрэдным сведкам гэтага на тым жа, тады яшчэ Ленінскім, праспекце — ішоў разам з ім ад Дома друку, будучы імгненна ўцягнуты ў класічны марш-кідок Адамовіча на кіламетраў сем ягонай гарачай, азартнай і патрабавальнай прагаю размовы, абмену думкамі — словам, пісання ўслых.

Гэтая прага дыялогу, заўсёдная гатоўнасць да яго проста абрыньвалася на вас і ўмомант літаральна пераносіла ў сферу таго, што цікавіла Адамовіча. Гэтаму амаль немагчыма было процістаяць, тым больш, што ён амаль заўсёды так ці інакш вёў да таго, што было цікава і табе самому. І калі ён пачынаў гаварыць, ідучы побач, схіліўшы набок і ледзь апусціўшы галаву, ні на каго не гледзячы і адначасова як бы гледзячы на ўсіх і ўсё на свеце, вяртаючыся ў сваіх разважаннях далёка назад праз таўшчыню гістарычнага часу ці імгненна пералятаючы ў будучыню, быццам прабіваючы яе наскрозь у сваіх мроях, — калі ён так гаварыў, то вырастала адчуванне нейкай нават фізічнай магутнасці гэтага надзвычай цэльнага і мэтанакіраванага чалавека. І тады мне міжволі хацелася з добрай усмешкай назваць яго ў думках гэткім міжкантынентальным балістычным снарадам — інтэлектуальным, вядома ж.

Гэты "снарад" лётаў то ў Амерыку, то ў Індыю, у Скандынавію, у краіны Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропы. Яго бачылі і слухалі, чыталі на велізарных абсягах былога Саюза — усюды выбухоўвала і зноўку назапашвалася энергія яго галоўнай страсці, ягонай апантанасці ідэяй абароны жыцця.

А што датычыць цэльнасці яго натуры, дык яна адчувалася і ў знешнім вобліку: твар быў без складак і маршчынаў, ружовыя шчокі — як у людзей з добрым здароўем, што вядуць і здаровае жыццё, сочаць за гэтым. Пры першым жа позірку на яго не толькі абсалютна зразумелым, але і ўвачавідкі адчувальным рабіўся сэнс выразаў: адкрыты твар, адкрыты погляд. Вочы глядзелі праз акуляры і ўважліва, і зацікаўлена, дапытліва. Але перш-наперш у іх чыталася тая магнетычнасць штохвіліннага і заўсёднага, імпульснага і ўстойлівага, трывалага поля духоўнасці, у якім ён існаваў і да якога яго адразу прыцягвала, як толькі яно ўзнікала побач у тым ці іншым выглядзе.

І тут ужо вы самі здагадаліся, куды я ўсё гэта вяду: так, ён быў неймаверна прагны на жывое жыццё. А самым прываблівым у ім было для Алеся Адамовіча жыццё думкі.

## ПРА ЖОРСТКАСЦЬ АБСТРАКЦЫЙ

Цяпер я ізноў вяртаюся ў той далёкі дзень 80-га года, калі мы ішлі з ім па галоўным праспекце горада, і я праводзіў яго ад Дома друку да гасцініцы "Мінск".

Апублікаваны яго "Карнікі". Ён кажа:

— Яны не прымуць гэтага.

— Хто?

— Як — хто? Тыя, што сёння вызначаюць патрэбнасць ці важкасць любой новай рэчы ў літаратуры. Або прэтэндуюць на гэта... Неаславянафілы гэтыя. Дзяржаўнікі... Патрыёты... Такімі яны сябе лічаць. Для іх перамога і маршал Жукаў — усё! А калі іх ідэю, лінію падоўжыць — дык сталіністы. З кімсьці з іх у адным вагоне не так даўно ехаў чалавек, такі сувязны паміж імі і астатнімі — ну, вось такімі, як я, каб карацей. Дык яму гэта далі зразумець у дарожнай гутарцы. Ён так і перадаў мне: яны, бачыце, не прымуць гэтага...

Я спытаў у Адамовіча, наколькі ўвогуле гэтая партыя ў літаратуры, у афіцыйнай ідэалогіі моцная.

— А ты калі ў Маскве быў апошнім часам? Ну, тады не ўяўляеш гэтай атмасферы. Там ужо ўсё ідзе само па сабе, нічому і нікому не падпарадкоўваючыся. Сотні неафіцыйных, у кватэрах, выстаў, усялякія салоны, клубы і гурткі. Што толькі ні гаворыцца, куды толькі ні цягнуць! Тэорыі, рэлігіі, аракулы, пракокі... Так, пачалося — не спыніць... Бачаць: струхлела ўсё, хістаецца, хутка абваліцца. Ну, дык яны, вось гэтыя патрыёты, ужо падстаўляюць свой кошык. Стаяць з ім унізе — і чакаюць: пачне падаць — хай ляціць да іх у рукі...

Загаварылі пра імёны.

— Ды той жа самы Палііеўскі, шэры кардынал. І Кожынаў...

Я сказаў, што слухаў іх, калі яны некалі прыязджалі ў Інстытут літаратуры Беларускай акадэміі. Ён усміхнуўся:

— А, бачыў іх?! Тады табе ўсё зразумела.

Мне сапраўды было ўсё зразумела. Я добра памятаў тыя два дні сядзення-гаварэння: госці Пётр Палііеўскі, Вадзім Кожынаў, найбольш уплывовыя тады ў Савецкім Саюзе крытыкі, літаратуразнаўцы і культуролагі, — і супрацоўнікі акадэмічнага Інстытута імя Янкі Купалы, што прымалі іх. Госці, апроч іншага, выпрабоўвалі ў сваіх выступленнях гэткую мадэль выратавальна-жорсткай дзяржаўнасці, афарбаванай у нацыянальныя колеры рускай гісторыі (і імперыі, хочацца дадаць сёння). Падняўся Адамовіч і сказаў:

— Гэта нагадвае мне словы Дастаеўскага пра Раскольнікава, пра тое, што быў ён малады, абстрактны і таму — жорсткі. Вось менавіта жорсткасць абстракцыі...

## ВЕЧАР У ІМПЕРЫІ

У той дзень, калі мы ішлі з ім па праспекце (праз некалькі гадоў пасля тых спрэчак у іх інстытуце). Адамовіч зноў гаварыў прыблізна пра тое ж. І я нават памятаю, дзе мы ў той момант праходзілі — ужо засталася ззаду Цэнтральная плошча, мы набліжаліся да скрыжавання, дзе тады яшчэ немагчыма было ўявіць ні "Макдональдса", ні "Іспанскага кутка", ні падземнага пераходу да ГУМа з жабракамі і калекамі ля прыступак...

Быў шэры дзень, калі не надвячорак, ранняя восень. У руцэ ў яго быў партфель, а на галаве — сіняя берэтка. Божа мой, што можа памяць, калі табе з ёй пашанцавала, і яна без аніякага намагання, лёгка, адным уздыхам выхапіць раптам з цьмянай глыбіні зніклага часу хоць бы некалькі жывых імгненняў! Хоць бы дзве-тры хвіліны з тым жа самым вулічным святлом і гулам, з тымі ж самымі пахамі і гукамі, шэрханнем падэшваў па асфальце і галасамі. Бо ў гэтыя хвіліны я ізноў чую голас Алеся Адамовіча, і мы ізноў крочым разам з ім пад слабым ветрыкам уздоўж высачэзных арак кінатэатра "Цэнтральны", — і ён, як заўсёды, з напорам, не спыняючыся, спрачаецца са сваімі адвечнымі праціўнікамі, то саркастычна пасміхаючыся, а то і трапна пераймаючы іхнія інтанацыі ці выразы твараў.

— Заўсёды адно, толькі ў розных выглядах: вось вырашай, ты, чалавек, — ад цябе, маўляў, залежыць: або смерць гэтага аднаго, двух — і тады выратаваны тысячы, або наадварот. Чалавеку, табе, мне кажуць: ты што, хочаш, каб палягла тысяча? І ніколі не спытаюць: а, дык для цябе, выходзіць, жыццё тых двух — нішто? Нас проста распінаюць на крыжы такога выбару, адказу... А трэба знішчыць саму магчымасць такіх пытанняў — тое, адкуль вырастае гэтае або-або. Каб ніхто не мог крыкнуць: вырашай, ад цябе залежыць! Не гэта ад нас залежыць. А тое, ці будуць нас ставіць перад такім выбарам, як перад выкапанай намі ж ямаю.

Мы развітваемся. Ён пытаецца пра тое, што я пішу, і дадае:

— Я твой стыль ведаю.

І я іду далей у прыўзнятым настроі: незразумела нават, што больш прыемна — тое, што мой стыль ведае сам Адамовіч, ці тое, што ў мяне ёсць свой стыль.

## КРУГЛАЯ ПЛОШЧА І ДЖОЙС

Што мяне ўражвала ў ім, дык гэта амаль неверагоднае, на мой погляд, спалучэнне, з аднаго боку, мужнасці, энергічнасці, дынамізму, таго, што завецца прабіўною здольнасцю — а з другога боку, незвычайнай псіхалагічнай і мастацкай чуйнасці, тонкасці, успрымальнасці, хуткасці і вастрыні рэакцыі, эмацыянальнай і разумовай.

У яго быў крэпкі, прыкметна, хаця і не рэзка выступаючы падбародак, прамы, злёгку ўзняты на канцы нос, часцей за ўсё добры, але не дабрадушны ці ласкавенькі позірк спакойных вачэй праз вялікія акуляры — і галоўнае: вельмі высокі і шырокі лоб, які на некаторых фотаздымках займае амаль палову твара, — і я думаю, што менавіта гэтыя здымкі і перадаюць ягоны знешні воблік найбольш праўдзіва. Бо на іх засталося тое, што захоўвае наша памяць і дзякуючы чаму мы здольныя мець неспасціжнае імгненне ісціны, разумнейшае за думку — вобраз. Вобраз чалавека.

...Неяк я бачыў Алеся Адамовіча, калі ён спяшаўся спыніць які-небудзь легкавік каля Круглай плошчы (так некаторыя з нас завуць плошчу Перамогі з тае дзіцячай пары, калі там яшчэ не ўзняўся манумент з гэтым ордэнам генералісімуса, а не вышэйшай салдацкай узнагародай, якая ўсё ж болей адпавядала б подзвігу народа, пра які сказана ў вялікім надпісе над плошчай).

Адамовіч, у кароткай дублёнцы, з пачырванелым ад узбуджэння тварам, выцягваў руку, махаў, ад нецярплівасці ўсё далей выходзячы да сярэдзіны вуліцы. Здавалася, яшчэ хвіліна — і ён наогул перакрые ўвесь праспект, калі якая-небудзь машына не затармозіць, — і тут нехта з віскам затармазіў. Адамовіч літаральна скочыў у машыну, і яна, нібы паддаўшыся спеху і няўрымслівасці пасажыра, ірванула так, што Адамовіч ляснуў дзверцамі ўжо на павароце...

І гэта ён жа, той жа самы чалавек, які вось так імкліва нясецца некуды па віражы на Круглай плошчы ў чужым легкавіку, быццам удзельнік аўтаралі, — ён жа па тэлефоне кажа мне, нягучна, крыху задуменна:

— А ты чытаў "Дублінцаў" Джойса? Звярнуў увагу, як ён канчае свае апавяданні? Быццам і няма канца... Расчынена ўсё. Пакінута як ёсць. Можа працягвацца, як само жыццё. З якой хочаш кропкі...

У гэтых імгненнях я бачу цяпер Алеся Адамовіча ў розныя гады — і ў розныя часы, што не адно і тое — і нават не спрабую пабудаваць убачанае ў нейкай храналагічнай паслядоўнасці. Можа, ёсць сэнс у тым парадку, што выбірае сама памяць? Ну, што ж, паглядзім.

І я зноў углядаюся ў крохкія, размытыя ўжо і зыбкія абрысы тых момантаў мінулага, дзе па-ранейшаму мігціць далёкае, але знаёмае святло, дзе рухаюцца постаці і твары па-ранейшаму жывых для мяне людзей — і чую іхнія галасы, пазнаю інтанацыі — якая розніца, пра што яны гавораць, пра нешта сур'ёзнае ці нязначнае, — гэта ж людзі, а ім патрэбна і тое, і іншае.

І сонечным майскім днём, у перапынку пісьменніцкага з'езда, паміж таўшчэзных калон на фасаднай пляцоўцы Палаца прафсаюзаў, дзе мы стаім, Міхась Стральцоў кажа Алесю Адамовічу:

— Ну што, Саша, адкуль ты цяпер? З Масквы ці з-за мяжы?

І Адамовіч, неяк па-асабліваму ясна і добра, спакойна ўсміхнуўшыся і ўздыхнуўшы, злёгку махнуў далонню, амаль не ўздымаючы рукі,

— А, адусюль...

Маўляў, усё роўна, ездзіш — не ездзіш, а нешта заўсёды ёсць такое, чаго не зробіш і не вырашыш, не зразумееш недзе звонку, ва ўсялякіх там абставінах месца і часу, — і гэта застаецца ўнутры цябе.

## ШЧАСЛІВЫ КАНЕЦ

А іншы раз ён мог здавацца бесклапотным, нават крыху легкадумным, задаволеным жыццём. І, можа, сапраўды бываў такім?

У Доме кіно, сярод заўсёднага ў тых сценах мінскага, як бы мястэчковага бамонду, прагледзеўшы адну замежную стужку, ён бяжыць з накінутым на плечы пінжаком да буфета. І на пытанне пра ўражанне ад фільма кажа:

— Ну, гэта тое, што ў кіношнікаў завецца лажай. Але гэта тая самая лажа, якой іншым разам хочацца.

І выразам твару паказвае: што зробіш, такія ўжо мы ўсе, людзі!..

Зноў патухае святло ў зале — у апошні момант Адамовіч улятае з фае і з разбегу бухаецца ў мяккае крэсла, здымае з плеч пінжак, з задавальненнем уладкоўваецца як мага зручней і запытальна глядзіць на экран: а што ў вас цяпер?

Так можа выглядаць чалавек, якому хоць бы на нейкі час жыццё прыемнае само па сабе, а ўжо з якой-небудзь пацехаю, нават пустою — і тым больш. І гэта самаадчуванне чалавека, які сёння шмат папрацаваў, або дачакаўся добрага выніку сваіх намаганняў.

Ён быў здольны і ўмеў менавіта любіць жыццё, як казаў любімы ім Талстой. Які кантраст у гэтым сэнсе ён уяўляе сабой у параўнанні з тымі заўсёды нахмуранымі і панурымі максімалістамі, што, як, напрыклад, Валянцін Распуцін у Расіі, абараняючы сваім мастацтвам жыццё, так і не змаглі гэтае жыццё палюбіць і хоць чаму-небудзь парадавацца ў ім!..

Тое, пра што думалася, ён бачыў выразна, рэльефна і метафарычна. Аднойчы кажа:

— Вось адгадай — што гэта? Чалавек пажылы, твар змучаны, худы і цёмны, сам высахлы ўвесь, счарнелы, але вымыты, у свежай бялізне, чыстая пасцель... У пакоі таксама чыста, прыбрана і цёпла. За сцяною — галасы блізкіх. Ён памірае. Усе ведаюць. І за паўгадзіны да смерці ён пачынае з асалодай пацягвацца ўсім целам, крэкча, глыбока ўздыхае, стогнучы ад задавальнення. "О-ох!" — і ўсміхаецца пакутліва і ў той жа час шчасліва. "Госпадзі, як добра!.." — і зноў цягнецца, варушыць нагамі... Ну вось скажы — што тут такое? Чаму ён рады? Адкажаш, значыць, малайчына.

Я спрабаваў. Але Адамовіч перабіў:

— А гэта проста — шчаслівы, нават фізічна, што памірае ў чыстым, у сваёй хаце, у сваёй пасцелі — пасля нашых лагераў. Як чалавек. Не мог нават і марыць пра такую смерць.

## ЛЕАПАРДЫ І ЛЮДЗІ

Рабіў такое: выступіць яскрава, з арыгінальным параўнаннем, вобразам — і пад апладысменты не вяртаецца на месца, а пакідае залу. Ці то спазняўся некуды, ці то проста не хацеў больш заставацца, губляў цікавасць да прадмета гаворкі. Так ці інакш, эфект выступлення рабіўся яшчэ большым дзякуючы такім яго нечаканым знікненням.

Аднойчы на юбілейных Коласавых чытаннях у Акадэміі навук пераказаў тыя абзацы з "Казакаў" Талстога, дзе Аленін пачынае бачыць усё наўкола інакш, калі яму адкрыліся горы; погляд раз-пораз да іх звяртаецца, улічвае іх вышыню: а горы... а горы...

— Вось так і з Коласам. Літаратура наша адчувае яго маштаб, і што б мы ні пісалі — а Колас... а Колас...

Горача, згодна апладзіруюць, а Адамовіч хутка ідзе да выхаду, знікае за дзвярыма.

І таксама нечакана, ва ўсякім разе для мяне, ён і ўзнікаў, бывала... На пачатку дня бяжыць ля Дома друку:

— Пайшлі ў кіно! Тут, побач — у "Кастрычнік". Мне казалі пра гэты фільм, хачу пабачыць сам. Пайшлі!

Карціна называлася "Леапард": з жыцця нейкага лацінаамерыканскага спецназа, які разганяе дэманстрантаў. У атрадзе кіруе ўсімі хлопец, злосць і сіла якога ніяк не можа знайсці выйсця. Яго баяцца нават сяржанты, афіцэры і завуць "леапардам"... І Адамовіч кажа:

— Бачыш, гэта ж сама прырода бясконцай, нарастаючай жорсткасці... Яму гэтага хочацца. І яму дрэнна, калі няма падстаў накінуцца — усё роўна на каго... Не, леапардам да яго далёка — ім патрэбна толькі ежа.

Загадка прыроды зла не адпускала думку Адамовіча. Яму здавалася, яшчэ крыху — і ён тут штосьці разгадае канчаткова. Ён заходзіў, як партызан, з розных бакоў, каб наблізіцца шчыльней да таямніцы зла: з боку мастацкай прозы, з боку кіно, газетнай і часопіснай публіцыстыкі — і, здаецца, была спроба зайсці і з боку тэатра, пры інсцэніроўцы "Хатынскай аповесці".

Мяне здзіўлялі хуткасць і колькасць напісанага ім і надрукаванага. Аднойчы я сказаў яму пра гэта. Ён адказаў, заняты ў думках нечым іншым:

— А гэта ўжо ідзе само...

(Працяг на стар. 14—15)

## Улюбёны ў сваю працу



Пра такіх, як Аляксандр Красоўскі, гавораць — майстар ад Бога. І праўда, са школьных гадоў заняўшыся разьбой па дрэве, ён цалкам аддаўся гэтай справе. З цеплынёй успамінае Аляксандр школьнага настаўніка працы Георгія Канстанцінавіча Рэмеза і выкладчыкаў Аршанскага індустрыяльна-педагагічнага вучылішча, якія памаглі ў развіцці яго прыроднага таленту. Сёння Аляксандр Красоўскі сам навучае дзяцей, у школе N 1 у Старых Дарогах, і вядзе гурток разьбы ў вёсцы Прусы, дзе жыве. І яшчэ знаходзіць час, каб папрацаваць з разцом, зрабіць прыгожую інкруставаную мэблю.

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## Бясконцае чаканне цуду

У Баранавічах, у Доме мастацтваў адбыўся аўтарскі вечар кампазітара, загадчыка кафедры інструментоўкі Беларускай акадэміі музыкі, дацэнта Вячаслава Кузняцова. Уваход на імпрэзу абвясцілі свабодны, зала была перапоўнена людзьмі. Вядомы творца і педагог, сакратар праўлення Саюза кампазітараў, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі сучаснай музыкі завітаў у горад чыгуначнікаў невыпадкова: тут жывуць ягоныя бацькі, тут ён у свой час скончыў музычнае вучылішча.

У аўтарскай вечарыне, эпіграфам да якой былі словы самога Вячаслава Кузняцова: "Музыка — гэта бясконцае чаканне цуду" — удзельнічалі лаўрэат V Рэспубліканскага конкурсу харавых і аркестравых калектываў народны аркестр беларускіх народных інструментаў Баранавіцкага музычнага вучылішча на чале з Уладзімірам Кляшчовым і салісты А. Панькова, Э. Сілецкі, Л. Брушкова, А. Брушкова, А. Кляшчоў ды інш. Вяла аўтарскі вечар Н. Кляшчова.

Музычны цуд сталічнага госця Вячаслава Кузняцова ў Баранавічах спраўдзіўся.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

## А цяпер — лепшы майстар...



У вёсцы Яловая Ганцавіцкага раёна па бандарную прадукцыю далёка ездзіць не трэба. Бочкі, дзежкі, кубельцы, кадушкі для аднавяскоўцаў робіць 85-гадовы Кандрат Якаўлевіч Жалезны. У шэсцьдзесят гадоў, калі выйшаў на пенсію, пачаў займацца гэтым рамяством. Ваяваў у Вялікую Айчынную вайну, доўгія гады працаваў у леспрамгасе, пра бандарства меў прыблізнае паняцце. А цяпер лепшы майстар у акрузе.

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

# Алесь Адамовіч, імгненні

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Я раптам міжволі ўявіў на нейкае імгненне ўсё зробленае ім і тое, што яшчэ робіцца, як нешта, поўнае энергіі самастойнага існавання — у нейкай меры ўжо і незалежнага ад яго, Алеся Адамовіча.

Яго слова на паперы, з экрана, у эфіры, у залах і аўдыторыях, што гучала ўжо столькі гадоў, — усё гэта ўявілася вялікім сілавым, магнітным полем, што нябачна пашыраецца недзе ўверсе, над намі, нібы жывая сфера з імпульсаў і токаў ягонай апантанасці, шчырасці і дабра, адважнасці і трывогі, безгляднасці і любові, прыхаванай цнатлівасці і высокага донкіхоцтва.

І я зразумеў, што ўсё гэта ў пэўным сэнсе сапраўды ўжо "ідзе само". А значыцца, у нечым і вядзе за сабой свайго стваральніка.

### СКВЕР ДЛЯ АБРАНЫХ

Ён з першага погляду бачыў сутнасць чалавека, адчуваў яе, здавалася, і на адлегласці. Думаецца, больш за ўсё ён не любіў людзей злосных, закамплексаваных, для якіх натуральнай атмасфераю існавання з'яўляецца злапамяцтва і помслівасць. Ён выдатна разумеў, што гэта не толькі іхняя зброя, але адзіны сродак адчуць уласную значнасць, неяк здзейсніць, зрэалізаваць сябе — і мэтай іхняга жыцця робіцца помста, а праватою і апраўданнем — наяўнасць ворагаў і вінаватых.

Ён не любіў і гультаёў, асабліва наменклатурных, гэтых пустых людзей-кабінетаў, што пальцам не варушаць, дзе б іх ні пасадзілі. Неяк мы ішлі з ім у скверы, ад тэатра Янкі Купалы да Дома афіцэраў. Ішлі — сказана занадта, можна было толькі асцярожна соўгацца па тонкім сняжку — такія слізкія пад ім ляжалі пліты. І ён сказаў, ківаючы ў бок будыніны тагачаснага ЦК:

— А гэта спецыяльна тут так зроблена — для Марцалева і іншых адтуль. Каб нават ножкі не трэба было перастаўляць — толькі слізгай — як на каньках, пасля абеду на прагулцы...

Але наменклатурная лянота, ведаў Адамовіч, і вельмі агрэсіўная, калі ёй нешта пагражае і трэба абараняць сябе. Яна ідзе тады на любы падман і любое злачынства.

Смяротны круг

Летам, калі ўсё навокал зеляне і цвіце, поўніцца сонцам і цяплом, мы стаім з ім ля таго ж самага сквера, праз год пасля Чарнобыля, і ён, з тугою гледзячы кудысьці перад сабою, раптам кажа:

— Час ідзе, а халадзільнікі набітыя забруджаным мясам. Яго там горы. Дык што, не пусціць яго на прылаўкі, прызнаюць праўду і знішчаць, каб не губіць людзей, дзяцей? Ды нізашто! Хутчэй зямля перавернецца. Хаця яна ўжо і так...

І ён махнуў рукою ў паветры. Мне падалося, каб адчуць: ну, а паветра, хай атручанае, — яшчэ ёсць пакуль?

Катастрафічнасць чалавечага існавання ён бачыў як ніхто, з уражваючай канкрэтнасцю. Вярнуўшыся з Амерыкі, расказваў:

— Таксама не рай. У Нью-Йорку забег у адно месца з'есці чаго-небудзь. І тут жа, белым днём, побач са мною забілі чалавека. Амаль што на маіх вачах. Ні стрэла не было чуваць, ні крыку. Хто, як, чаму? Людзі елі, гаманілі... Блізкі гул вуліцы, ляцяць машыны... А нехта ўжо ляжыць. І кроў...

Аднойчы паказаў мне свой малюнак-формулу бязглуздзіцы вайны. Спярша намаляваў у сярэдзіне паперовага аркуша няроўны круг:

— Такі быў невялікі лес, калі глядзець зверху. Вакол яго — стужка дарогі. Сонца, спякота, пыл. Во тут — змучаны, пабіты атрад партызанаў: драбіны, параненыя. А тут, на процілеглым баку — таксама пабіты, знямоглы атрад немцаў. І кожны хоча толькі адарвацца, збегчы, каб выратавацца. А атрымліваецца, што гоняцца адзін за адным па крузе. І чым хутчэй уцякаюць адны — тым жудасней другім...

Ён беспамылкова распазнаваў фальш у літаратуры пра вайну. Дый наогул у літаратуры. Пытаўся:

— Чытаў апошні раман Бондарава? Што скажаш?

Я прыгадваў: стары кінарэжысёр, з тых, што любяць, як кажуць, пажыць, яго ваенныя ўспаміны, ягоная маладзенькая прыгажуня-актрыса, а ён, больш чым яе, любіць сябе. Кажу:

— Страхоцце саладжавенькае.

— Так, страхоцце!.. А быў жа і Канстанцін Вараб'ёў. і яго "Крык", асабліва тое яго заканчэнне, што доўга забаранялі: як на марозе ўвесь той хлеў, набіты нашымі ваеннапалоннымі, што паміраюць у тыфе, варушыцца і стогне ў непрытомнасці... Адзін Вараб'ёў мог бы іншы раз замяняць усю ваенную прозу...

### ШАМПАНСКАЕ

Колькі ён змяшчаў у сабе жыццёвай моцы, цікаўнасці да людзей! Быў шчодры, любіў застолллі, хоць сам не піў ні кроплі і амаль не дакранаўся да закусак. Зімою 88-га года ўжо жывучы ў Маскве, бегма ўбег вечарам у залу Саюза пісьменнікаў, дзе канчалася сустрэча беларускай дэлегацыі з масквічамі, схапіў нас з Ігарам Дзядковым і пацягнуў уніз, у рэстаран, і адразу заказаў шампанскае, потым яшчэ... Слухаў і гаварыў, як заўсёды, прагна, тэмпераментна...

# Наступленне асоту...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

свой маральны доўг перад людзьмі. Яны тым самым пакаяліся за тых сваіх папярэднікаў, кім верхаводзіў крамлёўскі Мефістофель.

Мусіць каб мець аўтарытэт, любая ўлада павінна ачысціцца ад грахоў тых дзяржаўных лоцманаў, якія кіравалі раней і, мякка кажучы, страшна пакрыўдзілі простых людзей. Існуе бясспрэчны прынцып дзяржаўнай эстафеты, паводле якога ўвесь папярэдні груз нявырашаных праблем кладзецца на плечы новых прэтэндэнтаў на ўладу, якія павінны загадзя ўзважваць гэты груз, і калі ён ім не па сіле — адыходзіць убок, саступіўшы дарогу тым, хто ўсур'ёз заклапочаны нялёгкай спадчынай, у каго ёсць жаданне расстаўляць усе кропкі над і. Калі хтосьці спасылаецца на развал былога Саюза і ў гэтай сувязі не абяцае развязваць вузлы, што запляліся пры іншых уладах, — гэта несур'ёзна, а з палітычнага пункту гледжання — не прагматычна. Такіх дзяржаўных мужоў і іх наменклатурнае акружэнне любіць не будуць.

Ладна, зямля, іншая маёмасць, адабраная ў заходнебеларускіх сялян у 39, у 49—50-ых гадах. Гэта, скажам так, даўгі, але прысыпаныя ўжо пылам гісторыі. Але як жа баляць людзям іхнія грашовыя ўклады, што згінулі зусім нядаўна! Душэўныя траўмы ад страты сабраных з пчалінай стараннасцю грошай у людзей надта свежыя, гэта нават не траўмы, а раны, якія і не думаюць зарубцоўвацца. Але над праблемай вяртання людзям страчаных укладаў таксама павіс суцэльны туман. Добра, што ёсць пэўныя захады, але яны пакуль мала што значаць для ўсёй масы ўкладчыкаў.

Рэабілітацыя аўтарытэту дзяржаўнай улады вельмі актуальная, іначай мы не зрушымся з месца. Парадаксальна, але мне здаецца, што ўсе 73 гады партыйнага кіравання пайшлі выключна на тое, каб дарэшты скампраметаваць савецкую ўладу, якая ў прынцыпе верай і праўдай магла б служыць людзям, калі б не атэізм, не мілітарызм, не лжывасць, не жорсткасць, не самаўпэўненасць партыйнай эліты. Былое кіраўніцтва Саюза не вельмі ўжо каялася за сваіх крамольных папярэднікаў, хоць і прызнавала факт іх генацыду ў дачыненні да свайго народа. Нам, у цяперашніх асобных рэспубліках, браць прыклад няма з каго. І тым не менш нашай уладзе, безумоўна, трэба падумаць пра свой маральны воблік, шчыра і рашуча разбіраючы завалы мінулага. Павінны ж з'явіцца дзяржаўныя энтузіясты-рамантыкі, якія катэгарычна дакажуць, што палітыка — гэта не "брудная справа", а чыстае, святое служэнне суайчыннікам.

Калі я гляджу зараз з-пад сасны ў далячынь і выразна бачу, як на ўзгорыстай частцы бацькавага пляца пачынае жаўцець калгаснае жыта, то зусім не млею ад пяшчотнай заміляванасці, што такая ж сакавітая збажына можа быць маёй уласнасцю. Душа спакойная і надзіва схаладзелая. Я ўжо вопытны рэаліст і адчуваю, што такі паварот падзей у бліжэйшым будучым малаверагодны. Але разам з тым мушу сцвердзіць сваю перакананасць, што калектыўная форма ўласнасці на зямлю ўстарэла, безнадзейна хворая, яе лятальны зыход непазбежны, бо яна з самага пачатку была гвалтоўна навязана людзям, ім яна біялагічна супрацьпаказана.

І сапраўды, фундамент калгасна-саўгаснай сістэмы ўзведзены на крыві і слязах соцень тысяч людзей. Што б мы на ім ні будавалі, які гмах ні ўзводзілі б — у гэтым будынку абавязкова будуць блукаць прывіды знясілаўленых, прыніжаных, загубленых людзей. Нельга жыць у такім будынку. Савецкі Саюз, як і іншыя імперыі, рухнуў па той жа прычыне. Лёс калгасна-саўгаснай сістэмы такі ж самы, ён прадвызначаны. Не знаю, тут дзейнічае гістарычны фаталізм ці, хутчэй, назіраецца нябеснае ўмяшанне. Нябесныя сілы ў рэшце рэшт караюць зло.

Вы скажаце, што не так даўно сельская гаспадарка Беларусі працавала амаль бездакорна, былі высокія ўраджаі, на гэтым грунце плённа развівалася жывёлагадоўля, мы кармілі мясам і малочнымі прадуктамі многія рэгіёны Савецкага Саюза, былую армію і флот. Усё так, але ж вы не забывайце, што тады наша сельская гаспадарка, як і ўся прамысловасць Беларусі, была падключана, нібы да штучнага дыхання, да вялікага эканамічнага патэнцыялу былой імперыі. Ніякай "падпіткі" звонку зараз няма.

Была і застаецца вельмі важная прычына незфектыўнасці сённяшняй сістэмы землярробства. Яна агульнавядомая. Яна — у калектыўнай форме ўласнасці. Форма гэта штучная, даўно сябе не апраўдала. Суб'ектам уласнасці не можа быць цэлы калектыў. Суб'ектам уласнасці павінен стаць канкрэтны чалавек. З ідэалагічнымі фантазіямі пара канчаць. Хіба можна так доўга бянтэжыць і смяшыць увесь цывілізаваны свет?

Мы ўпарцімся, гаспадарым па-старому, а дабро наша, "створанае калектыўна", раскрадаецца днём і ноччу, выносіцца і вывозіцца ў кашах, мяшках, посцілках, брызентах — веласіпедамі, трактарамі, машынамі. Цяжка падлічыць, хто і колькі бярэ, але гэта стала нормай, калі хочаце, законам. Я вось думаю, ці можна дастасаваць да гэтага татальнага крадзяжу вядомае сацыялістычнае правіла размеркавання: "Ад кожнага — па магчымасці, кожнаму — па працы". Памойму, можна. Магчымасці, асабліва ў некаторых сельскіх людзей, значныя, і яны даволі плённа рэалізуюцца як днём, так і ноччу. Крадуць не таму, што ў іх зусім заганная мараль. Кожны хлебароб у прынцыпе ўсведамляе, што браць чужое нельга. То ж чужое! А тут — калектыўнае... Баруць яшчэ і таму, што ў падсвядомасці кожнага несуна тлее суцяшальнае апраўданне: "Сваё бяру". "Сваё" нават не з пункту гледжання "калектыўнага", а "сваё" — гэта тое, што некалі адабралі ўлады ў 49—50-ых гадах падчас калектывізацыі ў Заходняй Беларусі. Тады былі забраны ў людзей без іх згоды не толькі зямля, коні, калёсы, сельгасінвентар, вупраж, пэўная колькасць збожжа і бульбы, але і гумны, адрыны, нават жыўцом былі аддзёрты ад хатніх пабудоў клеці... Ніхто ж ім не сплаціў за адабранае. Бо за працадні налічвалі капейкі і грамы.

Незагойная крыўда па сёння жыве ў сэрцах абрабаваных сярод белага дня, гэта крыўда перадалася і іх маладзейшым нашчадкам і таксама прысутнічае ў цёмным куточку іх душы. Людзі ў такой сітуацыі не адчуваюць сябе злодзеямі. Яны вяртаюць сабе сваё. Дарэчы, на вёсцы рэдка ўжываюць слова "ўкраў", кажуць "узяў". Гэты нюанс таксама нешта значыць. Па аналогіі — пайшоў у сваю варыўню і ўзяў кавалак вяндліны... А за гэта ж нельга судзіць. Калгаснікі-несуны свядома пераступаюць цераз закон, бо адчуваюць, што ў дачыненні да іх ён паврахоўны, няправедны.

У сувязі з гэтым я задаю, здаецца, рытарычнае пытанне: "Ці могуць існаваць і квітнець калгасы пры такіх адносінах людзей да калектыўнай формы ўласнасці?"

У цяперашніх умовах зямля прыходзіць у поўны занепад. Торф на палі зімой не вывозіцца — няма тэхнікі. Мінеральныя ўгнаенні ў глебу трапляюць рэдка — дарагія. Асартымент экалагічна шкодных гербіцыдаў і пестыцыдаў зараз абмежаваны, ды і ён не па кішэні калгасам. Севазвароты, якія раней рашалі пэўныя агратэхнічныя задачы, — выпадковыя, ды і трымацца іх цяжка, многія сельгаскультуры апошнім часам выпалі з ужытку.

Летась, недзе ў сярэдзіне лета, на адным з палеткаў, дзе даспяваў ячмень, я назіраў

Пырскі шампанскага — і Адамовіч — дзве рэчы несумяшчальныя? Але чаму? Навізна кожнага імгнення сярод людзей, абмен думкамі — усё гэта былі імгненні і бакалы яго жыцця, ён ясна, цвяроза і разумна п'яніўся гэтым, як шампанскім.

Любіў назіраць і разбіраць псіхалагічныя парадоксы:

— Раённая гасцініца. Улятаю ў пакой — адзін жылец ляжыць з газетаю. Павесіў пінжак на крэсла, паклаў там "дыпламат", выйшаў у калідор, але вяртаюся: у пінжаку дакументы і грошы. А мой сусед стаіць на каленях ля крэсла, торгае замкі "дыпламата" і пытаецца: "Як жа ён адчыняецца, у рэшце рэшт?" — І я — гэта трэба ўявіць — нахіляюся і пачынаю яму паказваць. Мільганула: што адбываецца? Што я раблю? Але тлумачыў і даводзіў да канца... І на самай справе — што гэта такое?

## ДАСТАЕЎСКІ І ІНШЫЯ

Мы пазнаёміліся ў 71-ым годзе. Ён стаў маім навуковым кіраўніком у аспірантуры Беларускага універсітэта, на кафедры рускай класічнай літаратуры. У асобе Алеся Адамовіча, тады ўжо вядомага пісьменніка, доктара філалогіі з нашай Акадэміі навук, я атрымаў максімум таго, пра што мог марыць чалавек, які, пакінуўшы журналістыку, надумаўся пісаць пра Дастаеўскага.

Ён цалкам пагадзіўся з маім намерам рабіць дысертацыю адразу як кнігу і ўсяляк падтрымліваў мяне ў гэтай задуме, нават і падштурхоўваў, не даваў збочыць.

Сам ён тады быў захоплены Дастаеўскім вельмі моцна. Можа, таму, перш за ўсё, і падахвоціўся кіраваць гэтай працай? Пачаліся мае хаджэнні да яго ў дом. Нават цяпер усё быццам перад вачыма: кухоннае вакно яго кватэры на першым паверсе з заўсёднай батарэяй пустых кефірных бутэлек: сам гаспадар, які шырока, размашыста адчыняе дзверы, ягоная цёплая далонь, поціск рукі, усмешка і ўважлівы позірк праз акуляры; яго пакой з шафамі-"сценкамі", біткам набітымі кнігамі, пухлымі папкамі з чужымі рукапісамі (на адной і надпіс памятаю: "Мыслівец") — і веласіпед пад акном...

Гэта было самае лепшае навуковае кіраванне, якое толькі можа быць у свеце! Ён садзіўся насупраць і пачынаў свае маналогі аб Дастаеўскім, аб літаратуры, наогул, аб усім, што яму было важна і цікава, — імправізаваў і захапляўся. Але рабіў і паўзу, уключаў у гутарку і мяне кароткімі пытаннямі. Слухаў — і кідаўся ўжо ў новую тэму, яшчэ з большым запалам. Пэўна, былі хвіліны, калі мы ўжо амаль крычалі крыкам... Званіў тэлефон у пярэднім пакоі, найчасцей — міжгародні. Ён выбягаў, казаў некаму: "Ну, не хочуць і не трэба. Хай не друкуюць". Адчувалася, што ён, як аўтар, ужо не толькі не палохаецца адмовы ў Маскве, але і ведае, што там першымі і пашкадуюць аб гэтым.

Ён вяртаўся ў пакой, вымаў з-за шкла кніжнай шафы фотаздымак:

— Мне павялічылі рэпрадукцыю... Ведаеш гэты партрэт Дастаеўскага? Мастачка Корсакава. Во якая выразнасць — і трагедыйнага, і геніяльнага. Што, хваравіты? Ну, а яны, нашы, канешне, усе здаровыя. Завельмі... Як токам б'е. Такім яго сёння і трэба бачыць, каб ачомацца. А то паснулі — і не чухаюцца. Не, ён яшчэ дасца ў знакі... А Пушкіна вось гэтага пазнаеш? Маршчыны, плешына — ён сам сябе такім намаляваў. Можа, і ведаў, што не дажыве...

Прыгадваў і сваё.

— Некалі я, нікому не кажучы, сядзеў і ціха пісаў сваю "Партызанаў". Прыйдуць Навум Кіслік ці Валянцін Тарас, я выйду да тэлефона, а рукапіс — на стале, адкрыты. Аднаго разу ўваходжу, і хтосьці з іх: "А ведаеш, тут у цябе — нішто сабе..." Так я тады рабіў праверку.

## НЕАБХОДНАЯ ПРЫСУТНАСЦЬ

...Потым я абараняў сваю пісаніну пра Дастаеўскага, а Адамовіч бараніў мяне. Яшчэ раней ён дапамог надрукаваць адзін артыкул пра гэтага пісьменніка, пісаў водгук на мой рукапіс у выдавецтва. Ён выступаў на кафедравым абмеркаванні дысертацыі — і заступаўся за яе, не хаваючы сваёй адказнасці не толькі як кіраўнік, але і як пісьменнік, чалавек. А пасля паклікаў у калідор:

— Ты прывыкай, што будуць абавязкова драпаць. І чым лепей, па-свойму, што-небудзь зробіш — тым больш будуць старацца. Гэта ўжо закон такі — і асабліва тут у нас, у балоце. Ці ж ты не бачыш, што вакол? Пакуль ты як усе — ты ўсім даспадобы. А вытыркнешся — раздражненне, недаўменне: навошта табе гэтыя сусветы, кругасветы? Утульна так сядзім усе разам у самабыце нашым — і абы ціха.

...Першую сваю лекцыю — на беларускім аддзяленні універсітэцкага філфака — я прачытаў замест яго яшчэ аспірантам.

— Ну, выручай, — сказаў ён па тэлефоне. — Я не змагу заўтра. Трэба пра Талстога. Спыніўся на "Казаках". Памятаеш — хто шчаслівы, той і правы — так думае малады Аленін...

У аўдыторыі, куды мяне "запусцілі" замест Адамовіча, не было ніводнага свабоднага месца. Гудам гудзела галава, сушыла ў горле. Пасля званка не вытрымаў, спытаўся: "Зразумела было ўсё?" — "Усё. Нам Адамовіч так і чытае". Пачуў гэта як пахвалу ад Адамовіча.

Потым мне перадалі пэўны спецкурс — чытаю яго і дагэтуль, з той самай назваю, якую паставіў Адамовіч, і ніколі яе не зміню: "Дастаеўскі і яго раманы". Менавіта так: спачатку — імя, чалавек, з'ява, фенамен; характар, воблік, вера і жыццё. Адсюль — усё яго пісьменніцтва, раманы, героі і ідэі, філасофія, стыль, мова...

Так Адамовіч разумеў асобу і творчасць, на маю думку.

Калі-нікалі гартаю свае старыя старонкі, углядаюся ў алоўкавыя Адамовічавы радкі на палях — заўвагі, прапановы, а дзе — і клічнікі. Дзіўнае пачуццё агортвае мяне ў гэтыя імгненні.

Ягоныя словы і почырк з нахілам — імклівы, лёгкім лётам — і перакананая, захопленая інтанацыя, — усё гэта настолькі жывое, поўнае яго думак, настолькі цяперашняе для мяне, што трызніцца: калі б набраў нумар, дык, можа, яго і паклікалі б да тэлефона, як і раней... Пра нешта б мы пагутарылі зноў...

Аднаго разу чуў, а мо чытаў, як ён аб'явіў нават такое:

— Калі б я даведаўся, што Гогаль быў дрэнным чалавекам, ён больш не існаваў бы для мяне як вялікі пісьменнік.

Сцвярджалі, што тут нішто іншае, як тыповая для Адамовіча запальчывасць.

Не, не ўпэўнены.

## ВОСТРАЎ

Архіпелаг Беларусь — усё не ідзе з галавы гэта выдатная метафара Валянціна Акудовіча, якая так трапна і шматзначна гаворыць пра сучасны стан нашай нацыянальнай духоўнасці і культуры.

А ці ўсе мы дастаткова выразна ўяўляем сабе — і менавіта сёння — якім вялікім, прынцыпова важкім і нарэшце стратэгічна важным — на расійскай тэрыторыі — востравам быў апошні час у гэтым беларускім архіпелагу Алесь Адамовіч?

Ці часта мы думаем пра тое, якім было б цяпер яго слова адтуль? І шмат для каго ў самой Расіі?

Гэты востраў пайшоў там пад ваду.

Ён усплыве ў нас.

Вось ён глядзіць нам у вочы, Алесь Адамовіч, з апошняга стоп-кадра ў фільме па Маскоўскай тэлевізійнай праграме — ужо без усмешкі, не з Масквы — з вечнасці. І адтуль пытаецца:

— Ну, што вы там без мяне робіце?..

І, далібог, што б тут ні здарылася з намі, усё роўна давядзецца адказваць.

А перш за ўсё — самім сабе.

---

даволі сумнае відовішча, якое непрыемна ўразіла мяне. Цяжка было назваць гэты палетак ячменевым. Тут пышна буяў, засланяючы кволыя каласкі, густы, лапушысты асот. Ён пераможна ўзвышаўся над ярыной і таксама даспяваў... Не проста даспяваў, а нібы думаў пра сваю будучыню, пра сваю заўтрашнюю "экспансію" на "калектыўных" палях. Тысячы пуховых самалёцікаў, падхопленыя ветрам, узнімаліся ў неба і неслі ўсё далей і далей семя гэтага пачварнага пустазелля. Няўжо калючыя джунглі скрозь запануюць на нашых палях?..

Зямлю трэба аддаваць тым, хто на ёй жыве, працуе ці хоча працаваць. Сёння жадаючых заняцца земляробствам многа. Гэта няпраўда, што мала хто хоча звязаць свой лёс з сельскай гаспадаркай. Акрамя тых, хто жыве на вёсцы, ёсць мноства людзей, якія гатовы кінуць "ляжачыя" заводы і вярнуцца на радзіму сваіх продкаў. Беспрацоўе мяняе сітуацыю. Не будзем забывацца і пра выпускнікоў сельскіх школ. У лепшым выпадку з іх палавіна размяркоўваецца па ВНУ, тэхнікумах, вучылішчах. А што рабіць астатнім? Камерсантаў хапае і без іх. Ім што — выходзіць цёмнай ноччу з дубінай на дарогу ці рабаваць крамы? Заняцца ж нечым трэба. Уласная зямля і была б для іх выратавальным кругам.

Цяперашняе эксперыментальнае фермерства існуе толькі для паказухі. Маштабы яго свядома абмяжоўваюцца, падтрымкі з боку дзяржавы фактычна ніякай. Выплывае хто як умее. Але варта адзначыць, што насельніцтва адносіцца да фермераў нармальна, без зайздрасці і варожасці, наадварот, цэніць іх за тое, што працай у іх дастаць і камбікармоў, і саломы, і пакарыстацца камбайнам. А што тычыцца звычайнай сялянскай гаспадркі, якая па законе мае права мець да 1 гектара зямлі, — не ўсё тут гладка, як хацелася б, бо зямля гэта набываецца шляхам ганебнага выпрошвання, участкі яе часта мяняюцца, няма ніякай магчымасці давесці яе да ладу.

Зямля павінна быць замацавана на пастаяннай аснове і прызнана прыватнай уласнасцю. Баяцца таго, што яна будзе выкарыстоўвацца нерацыянальна, — такія трывогі беспадстаўныя. Працэс землевыкарыстання можна паставіць пад пільны кантроль, гэты кантроль здольна ажыццяўляць пэўная камісія пры райвыканкаме, якая будзе надзелена правам прад'яўляць санкцыі да тых, хто не ўмее ці не хоча працаваць на зямлі па-гаспадарску. Чаго-чаго, а вопыту кантролю ў нас хапае!

Што тычыцца куплі-продажу зямлі, то такое права трэба замацаваць за ўласнікам, як гэта пачынае распаўсюджвацца ў некаторых губернях Расіі, але з практычнай рэалізацыяй гэтага права, відаць, трэба пачакаць колькі гадоў, пакуль больш-менш не стабілізуецца становішча ў аграрным сектары.

Вы скажаце: а як быць з тымі, хто па нейкіх прычынах выпадзе з сістэмы землеўладання? Ім што — ісці ў батракі? Ах, якім пудзілам стала ў нас слова "батракі"! Шаноўныя, слова гэта даўно ўстарэла, яно ж усяго толькі бальшавіцкі жаргон. Дарэчы, што толку ад "ганаровага" слова "калгаснік", калі гэты апошні па паўгода не атрымлівае заробку?.. Тэрмін "наёмныя рабочыя" больш людскі і сучасны. Дык вось за гэтымі наёмнымі рабочымі законам павінны замацавацца пэўныя правы, што тычыцца і мінімальнага заробку, і налічвання працоўнага стажу, і гарантый пенсійнага забеспячэння. Пры жаданні ўсё можна прадугледзець, і ніякай "эксплуатацыі чалавека чалавекам" не будзе.

Мне здаецца, што вельмі многія сёння адчуваюць: мяняць становішча на вёсцы можна і трэба. Уся праблема — у тэхніцы! Без яе працаваць на зямлі нельга, а яе няма.

Што тычыцца калгасных трактароў, камбайнаў, бульбакапалак, яны праз два-тры гады ператворацца ў іржавы друз. Новая тэхніка не па кішэні нават калгасам, а што ўжо гаварыць пра звычайных людзей! І разам з тым яе набываць трэба. Без яе займацца земляробствам немагчыма. Пры дапамозе коней у гэтай справе надта не разгонішся, хоць, праўда, зараз колькасць буланых і гнядых на вёсцы рэзка ўзрасла. Але гэта не выхад са становішча. Што рабіць?

Людзі самі спрабуюць нешта прыдумаць. Сёння на палях можна ўбачыць сотні саматробных трактароў. Народныя майстры са старой спісанай тэхнікі выштукоўваюць вельмі прыстойныя машыны, па сваёй сціпласці не прэтэндуючы ні на якія патэнты. Хвала ім і слава, але гэта могуць зрабіць далёка не ўсе.

Дзяржава павінна вырабляць і прадаваць людзям па невысокай цане сельгастэхніку. Габарыты такой тэхнікі невялікія, металу на яе ідзе няшмат — вунь колькі можна зрабіць мікратрактароў замест аднаго МАЗа, які не заўсёды можна збыць у Расіі! Такую тэхніку для сялянскіх гаспадарак зараз спрабуе выпускаць Смаргонскі філіял Мінскага трактарнага завода. Але міні-трактароў тут робіцца пакуль мала, не заўсёды пры іх ёсць увесь набор сельгасprылад. І цана! Дзе можа селянін узяць тыя вялікія мільёны?

Калі дзяржава зацікаўлена ў эфектыўнай працы фермерскіх і сялянскіх гаспадарак, трэба на выпуск так званай малой тэхнікі ахвяраваць крэдыты альбо шукаць замежных інвестараў. Задача адна — рэзка павялічыць яе колькасць і зрабіць даступнымі цэны. Іншая справа, што нехта, відаць, свядома не зацікаўлены ў вырашэнні гэтай праблемы. "Нехта" — гэта тыя, хто любой цаной хоча захаваць калгасна-саўгасную сістэму. А яе трэба рэфармаваць.

Вядома, радыкалізм любых змен у нас сёння выклікае зразумелую насцярожанасць, нават алергію... Мы сытыя ўжо рэвалюцыйнымі ломкамі і тым вэрхалам, які наступае ўслед за імі. Але ёсць радыкалізм мэты і радыкалізм метадаў. Бальшавіцкі радыкалізм быў хутчэй радыкалізмам мэты, бо хоць і абвяшчаў сваёй мэтай шчасце людзей, на самай справе меў на ўвазе пераўтварэнне вольных грамадзян у паслухмянае быдла. Пры такіх стасунках і мэта, і метады нялюдскія, антыгуманныя. У нас жа мэта — шчасце і радасць людзей — не падлягае гвалтоўнай дэфармацыі, для нас яна чыстая і праведная. А метады, якія б ні былі сур'ёзныя і нестандартныя, калі яны ад самага пачатку нязменна служаць высакароднай мэце, — такія метады ўспрымаюцца насельніцтвам прыхільна.

На сёння існуе ідэя, якую падтрымліваюць многія, у тым ліку некаторыя ўладныя структуры, — аддаць у прыватную ўласнасць палавіну ўсёй зямлі. Хай гэта будзе эксперымент ці першая ступень зямельнага рэфармавання, сутнасць не ў назве, але на гэта трэба ісці. Такі варыянт сацыяльна кампрамісны. І даючы зямлю людзям, трэба верыць у стваральны патэнцыял хлебароба, які будзе самастойна гаспадарыць на зямлі, значна ажывіць рынак і з дапамогай дзяржавы стане плённа вырашаць праблему харчавання.

Могуць знайсціся крытыкі такіх разважанняў, якія нагадаюць аб маёй некампетэнтнасці і аб тым, што я лезу не ў свае справы, замест таго каб пісаць вершы... Па-першае, справа гэта для мяне не чужая. Па-другое, я не збіраюся даваць нейкіх рэцэптаў і рэкамендацый. Гэта зробяць іншыя. Я хачу проста сказаць, што сітуацыя ў сельскай гаспадарцы склалася ненармальная і негуманная. Можа, я і прафан, што тычыцца разумення ўсіх шматлікіх пытанняў аграпрамысловага комплексу. Але я павінен быць кампетэнтным у сферы маралі. А маральны аспект і ў палітыцы, і ў прамысловасці, і ў сельскагаспадарчай вытворчасці павінен быць галоўным. Я абсалютна ў гэтым пераканаы. Няўжо знойдзецца той, хто мне запярэчыць?

Кожны мае права жыць так, як хоча. Свабода асобы — гэта не нейкая абстрактная рэальнасць, яна — галоўная форма жыцця, яна — ад Бога. Гэтай свабоды беларускія сяляне не маюць. А яны хочуць яе мець.

Геніяльнасць рускага Дастаеўскага грунтуецца на двух неймаверна маштабных вызначэннях: "Калі Бога няма, то ўсё дазволена" і "Калі зямны рай куплены нават адной слязінкай дзіцяці — я не хачу такога раю!". Геніяльнасць нашага класіка Якуба Коласа выяўляецца ў тым, што ён з незвычайнай мастацкай сілай сцвердзіў вобразам Міхала з "Новай зямлі" неўміручую цягу беларускага сялянства да волі, якая бачылася яму ў набыцці ўласнай зямлі: "Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут". Цяперашняе беларускае сялянства хоча выблытацца з ліпкага, спляснеелага павуціння, якім аблытала яго дзяржава. Трэба ісці насустрач гэтаму запаветнаму жаданню хлебароба.

...Ах, як зацягнуў мяне вір раптоўных успамінаў, няпростых думак і перажыванняў. Ужо пачынае прыграваць сонца — пара варочацца да возера. Бывай, сасна — нязменная сведка хуткацечнага часу, яго завіхрэнняў і чалавечых праяў. Хочацца верыць, што я прыйду яшчэ пад тваё шаты — ці ў якасці гаспадара бацькавай зямлі, ці ў якасці залётнага паэта-вандроўніка — калі не спілуюць цябе на людскую патрэбу, як некалі спілавалі наш бярэзнік і са свістам везлі яго наўзбоч нашай хаты. Няма ўжо тых, хто такім чынам нарыхтоўваў сабе дровы. Вечны спакой ім! Да спаткання, роднае дрэва!

---

**Супрацоўнікі часопіса "Беларусь" выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару ШАБАЛІНУ Аляксандру Андрэевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса "Беларусь" Аляксандру Андрэевічу ШАБАЛІНУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Нёман" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі ЯГОЎДЗІК М. Р. у сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю бацькі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Генадзю ДЗМІТРЫЕВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**




# Калі дрэвы паміраюць не стоячы...

НЕЯК, ІДУЧЫ на працу праз двор суседняга дома, стала сведкай злоснай, нават зацятай спрэчкі. Узнікла яна з-за так званых зялёных насаджэнняў. Жыхары дома баранілі ад людзей у яркіх аранжавых камізэльках... дрэвы. Што вы робіце, крычалі адны, мы ж іх саджалі трыццаць гадоў назад, адусюль прывозілі і прыносілі, куплялі нават і саджалі, каб нам самім і нашым дзецям было тут зацішна, утульна, ціха, каб нам тут лепш дыхалася, а вы іх бязбожна пляжыце! Навошта, дзеля чаго, з чыйго распараджэння? Людзі добрыя, адказвалі другія, мы іх зусім не пляжым, мы выразаем толькі хворыя дрэвы, крывыя, празмерна нахіленыя, якія могуць упасці і натварыць бяды...

Я міжволі прыпынілася, учуўшы гэтую перапалку. Сімпатыі мае былі на баку абураных жыхароў, бо й я таксама — гэткая ж жыхарка і, памятаю, таксама разам са сваімі новымі суседзямі па новым доме неаднойчы вясною і восенню ўдзельнічала ў своеасаблівых дваровых суботніках і нядзельніках па азеляненні. Але ж была і пэўная слушнасць у довадах людзей, узброеных бензапіламі, сякерамі і сякатарамі-разакамі: трэба выпраўляць хібы прыроды, прыбіраць хворыя, празмерна нахіленыя, крывыя дрэвы, бо й сапраўды ў часе моцнага ветру яны могуць прынесці бяду, а то й трагедыю. І ўсё ж эмоцыі адольвалі логіку, і сімпатыі мае былі на баку жыхароў: яны ж не проста аздаблялі, упрыгожвалі гэты куточак горада. Тым самым яны думалі й пра нас, спрыялі таму, каб і ўсім нам было лепей, каб жылося нам між гарадскіх сцен здаравей, дыхалася лягчэй...

Сімпатыі гэтыя, да таго ж, яшчэ больш павялічвала нейкая празмерная жорсткасць, бязлітаснасць людзей у камізэльках колеру небяспекі (аранжавы колер — колер пажару?). Неяк надта ж лёгка, без асаблівага одуму падступаліся яны да асуджанага на смерць дрэва, і праз хвіліну ахвяра ўжо ляжала на зямлі, парэзаная на кароткія пацурбалкі, і ўжо ніхто, нават з самай багатай фантазіяй, не мог бы ўявіць, што хвіліну назад яны былі высокім дрэвам, у зялёнай чупрыне якога шумеў вецер, на галінах якога гушкаліся пад сінім небам птушкі.

А памяць падказвала і іншыя карціны гэтай жорсткасці, нават акурат гэтай самай празмернай бязлітаснасці: тысячы абкарнаных, абрубленых да страшных прывідаў дрэў на праспектах і вуліцах нашага любага Мінска. Можа, я й памыляюся, мо я й сапраўды не надта дасведчаная ў гэтай справе, але чамусьці заўсёды баліць душа, калі бачыш скалечаныя дрэвы — ужо нават, па сутнасці, і не дрэвы, а нейкія чорныя абрубкі; не дрэвы, а нешта накшталт надмагільных помнікаў над апошнім прытулкам дачасна адышоўшых людзей: маўляў, не ўзраслі, не адцвілі, не адкрасавалі...

А памяць падказвала-прыгадвала свежыя, жаўтлява-белыя пні на месцы ўжо не трыццацігадовых тонкіх і гонкіх, па сутнасці яшчэ зусім маладых дрэўцаў у дварах новых ці адносна новых мінскіх дамоў, а на месцы старых, яшчэ даваенных ліп, ясеняў, тапаляў на старых вуліцах і скверах сталіцы. Дасюль уваччу такія пні (іх днямі шчапалі-выразалі, зроўнівалі з зямлёю надарваныя, знясіленыя дачасна працай, а мо і гарэлкай дробныя, нейкія ўсохлыя мужчынкі-падлеткі) на рагу вуліцы і завулка імя Якуба Коласа...

Пэўна, з гэтае прычыны з асаблівым сумным, журботным настроем і чытаўся мною адкрыты ліст, адрасаваны ў Рэспубліканскую экалагічную камісію пры Прэзідыуме Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, асабіста акадэміку І. Ліштвану. Вось ён, гэты ліст:

*"Паважаны Іван Іванавіч!*

*Паважаныя члены экалагічнай камісіі!*

*Дазвольце звярнуць Вашу ўвагу на тое, што, пачынаючы з 1998 года, Станцыя абароны раслін праводзіць у Мінску масавае знішчэнне ліп і тапаляў, якія ўяўляюць сабой важнейшы натуральны фактар аздараўлення экалагічнай абстаноўкі і ачысткі паветранага асяроддзя пакутуючага ад тэхнагеннага прыгнёту горада.*

*Гэтыя дзеянні праводзяцца ў межах так званай праграмы "Таполя", разлічанай на 5 гадоў (1998—2003 гг.), падпісанай генеральным дырэктарам САП "Мінскзеленбуд" В. І. Кастусёвым і зацверджанай нам. стар. выканкама П. М. Сямашкам.*

*Вялікую трывогу жыхароў горада, прадстаўнікоў грамадскасці і друку выклікае* ***масавасць*** *праводзімай акцыі. Па звестках, якія ў нас ёсць, колькасць дрэў, асуджаных на знішчэнне ў васьмі раёнах горада, не лічачы Першамайскага, складае 11 764 (адзінаццаць тысяч семсот шэсцьдзесят чатыры).*

*У пераважнай большасці, выключэнні складаюць адзінкавыя выпадкі, дрэвы, якія вынішчаюцца, маюць здаровую драўніну без відочных адзнак пашкоджанняў ці якіх-небудзь захворванняў. У гэтым лёгка пераканацца, калі правесці агляд рэшткаў спілаваных ствалоў, напрыклад, на праспекце Скарыны (ля плошчы Калініна) і інш.*

*Чаму ж знішчаюцца здаровыя дрэвы, якія могуць прастаяць яшчэ дзесяткі гадоў? Тут дакладна прагледжваецца матэрыяльная зацікаўленасць "азеляняльнікаў" у згаданай акцыі. Так, кошт зносу аднаго дрэва, з улікам карчоўкі пня, па дадзеных на 1. 11. 97 года, складае 6,4 млн. рублёў. За карчоўку аднаго кубаметра пня налічваецца досыць прыстойны заробак (каля 500 тыс. рублёў) і прэмія. Такім чынам, з'яўляючыся, як гэта відаць з назвы, акцыянерным прадпрыемствам, САП "Мінскзеленбуд" з дапамогай шматгадовай праграмы "Таполя" забяспечвае сабе такое ж шматгадовае пасляховае існаванне* ***за кошт нанясення непапраўнай шкоды экалогіі горада і здароўю падаткаплацельшчыкаў*** *(выдаткоўваючы на гэтыя мэты сродкі саміх падаткаплацельшчыкаў).*

*Хутчэй за ўсё, на месца знішчаных экземпляраў будуць высаджаны іншыя дрэвы, аднак варта прыняць да ўвагі, што такая замена будзе далёка неэквівалентнай з прычыны каласальнасці зялёнай масы, якую ўтрымлівае ў цёплую пару года кожнае шматгадовае дрэва. З гэтага пункту погляду кожнае знішчанае дрэва можна разглядаць як зялёны аазіс у гарадскіх межах. У Мінску, дзе выкіды ў атмасферу складаюць сотні тысяч тон шкодных рэчываў у год, ліпы і таполі заўсёды служылі не толькі аздабленнем, але і каштоўным фактарам аздараўлення экалагічнай сітуацыі сталіцы.*

*Шматгадовыя дрэвы, з'яўляючыся нашым нацыянальным здабыткам, вымагаюць* ***беражлівых адносін і аховы.*** *Выпадкі ліквідацыі такіх дрэў павінны быць адзінкавымі і праводзіцца пасля стараннага абследавання і вынясення адпаведнага заключэння спецыялістамі.*

*Пераканаўча просім Вас спыніць масавае знішчэнне зялёнага фонду горада!*

*Просім не пакінуць без увагі наша хадайніцтва і прыняць па ім самыя тэрміновыя і неадкладныя меры.*

*З павагай*

***Алесь Разанаў,*** *паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі;* ***Аляксандр Яромін,*** *доктар хімічных навук;* ***Елізавета Сяльскова*** *кандыдат біялагічных навук;* ***Міхаіл Савіцкі,*** *народны мастак Беларусі;* ***Міхаіл Фінберг,*** *народны артыст Беларусі;* ***Уладзімір Правалінскі*** *заслужаны артыст Беларусі".*

Я сустрэлася з акадэмікам І. Ліштванам. Іван Іванавіч паспеў ужо азнаёміцца са зместам ліста і таксама быў засмучаны. Знішчаючы дрэвы ў горадзе, адзначыў акадэмік, мы тым самым наносім насельніцтву вялікую шкоду, пагаршаем і без таго не лепшую экалагічную сітуацыю ў нашай сталіцы. Невыпадкова ж экалагічная сітуацыя гарадоў ацэньваецца па колькасці дрэў, увогуле па плошчы паркаў, сквераў, зялёных зон у разліку на кожнага жыхара. Мінск здаецца горадам зялёным, аднак жа гэта падманлівае ўражанне. Па колькасці зялёных насаджэнняў мы адстаём ад такіх гарадоў, як Вільня, Кіеў. Таму ліст групы творцаў і навукоўцаў цалкам слушны. Праблемы зялёнага будаўніцтва павінны вырашацца на самых высокіх узроўнях.

Іван Іванавіч лічыць, што павінен быць праведзены дасканалы аналіз кожнага дрэва, якое падлягае знішчэнню. Трэба добра вывучыць сітуацыю, трэба, каб гэтыя пытанні шырока абмяркоўваліся, а не былі аддадзены на водкуп нейкай адной арганізацыі. У нас ёсць грамадскія, дзяржаўныя, навуковыя экалагічныя структуры, без удзелу якіх не павінны праводзіцца падобныя масавыя вынішчальныя акцыі. Так, у нас у Акадэміі навук ёсць добрыя спецыялісты па лесе, у тым ліку па розных пародах дрэў — гэта спецыялісты з Інстытута эксперыментальнай батанікі, Батанічнага саду, Інстытута лесу, якія беспамылкова могуць вызначыць, ці варта знішчаць тое ці іншае дрэва. Таму Экалагічная камісія і Навуковы савет па праблемах біясферы НАН пасля азнаямлення з лістом чытачоў "ЛіМа" і "Вечерняго Мінска" накіравалі старшыні Мінгарвыканкама У. Ярмошыну ліст наступнага зместу: *"Экалагічная камісія і Навуковы савет па праблемах біясферы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі лічаць неабходным прыпыніць выкананне праграмы "Таполя" па высечцы дрэў у г. Мінску, якое праводзіцца САП "Мінскзеленбуд". Неабходна стварыць са спецыялістаў і вядучых вучоных навукова-даследчых устаноў і ВНУ горада незалежную экспертную камісію з эколагаў, фітапатолагаў і дэндролагаў для кваліфікаванага вызначэння стану зялёных насаджэнняў горада і выбарачнага знішчэння хворых дрэў".*

Наша гаворка з акадэмікам не абмежавалася гэтым. Іван Іванавіч з заклапочанасцю і хваляваннем гаварыў увогуле аб экалагічнай сітуацыі, якая склалася ў нашай сталіцы і вакол яе. Ён згадаў леташнюю міжнародную канферэнцыю, прысвечаную праблемам вялікіх мегаполісаў, у тым ліку Мінска. На ёй былі акрэслены шматлікія аспекты гэтых праблем. Аднак ад тэорыі да практыкі ў нас па-ранейшаму застаюцца вялікія дыстанцыі. Зрэшты, і ў тэорыі не ўсё ясна. Мы, напрыклад, дагэтуль не вызначылі, якія ўзаемаадносіны павінны быць на розных вектарах паміж горадам і прыгарадам. А гэта вельмі важнае пытанне. Мы павінны стварыць у прыгарадах такую інфраструктуру, якая б працавала на аздараўленне экалагічнай сітуацыі ў горадзе. Горад — надзвычай складаны арганізм, усё ў ім узаемазвязана, узаемаспалучана, і ўсё ўплывае на экалогію. Не здзіўляйцеся, уплывае нават тое, наколькі разумна, граматна размешчаны... святлафоры. Я, скажам, нідзе ў іншых гарадах свету не бачыў столькі сфятлафораў, колькі ў Мінску. А прыпыненне перад імі і крананне з месца патокаў аўтатранспарту надзвычай моцна ўплывае на стан атмасферы горада. Не будзем забываць, што ўвогуле 70—80 працэнтаў шкодных выкідаў у атмасферу прыпадае на гарадскі, найперш аўтамабільны транспарт. Транспартныя камунікацыі горада павінны быць дакладна разлічаны, транспартныя патокі — развязаны, каб звесці да мінімуму шматлікія перакрыжаванні з гэтымі самымі святлафорамі. А хіба тое, што Мінск мае ўсяго адзін чыгуначны вакзал, не абвастрае экалагічную сітуацыю? Вядома ж, абвастрае, бо тым самым усе транспартныя патокі сцякаюцца, збягаюцца ў адно месца. Так, ёсць план рэканструкцыі і план развіцця Мінска на перспектыву, аднак нам здаецца, што не ўсё ў іх увязана з праблемамі аховы навакольнага асяроддзя. Горад павінен быць абаронены ад шкоднага ўплыву сваіх шматлікіх заводаў і прадпрыемстваў, у тым ліку і найперш — са шкоднай вытворчасцю. А хто яго можа і павінен абараніць? Зялёныя зоны паблізу і не паблізу Мінска, у тым ліку так званыя нацыянальныя паркі. Згадаем, напрыклад, Налібоцкую пушчу. Гэта натуральны, прыродны ачышчальнік паветра. Пушча выконвае сваю дабратворную ролю і ў дачыненні да Мінска, прымаючы пад увагу нашу звычную ружу вятроў. А што робіцца ў Налібоках? Там працуюць леспрамгасы, якія бязлітасна вынішчаюць гэты унікальны і, што вельмі важна, векавы лес.

Налібоцкая пушча — гэта дальні ахоўны пояс сталіцы, працягвае акадэмік. А бліжні — гэта прыгарадная зона, якая таксама павінна быць пабудавана разумным чынам. Абарончы зялёна-водны пояс вакол Мінска быццам ёсць, але зірніце, што робіцца сёння з ім. Там ідзе велізарнае дачнае, катэджнае будаўніцтва. Да гэтых дачных і катэджных пасёлкаў пракладваюцца самыя розныя камунікацыі, у выніку перакопваюцца, перамяшчаюцца, нішчацца вельмі многія прыродныя кампаненты адзінага біялагічнага комплексу. Для Мінска, як і для іншых буйных гарадоў, павінен быць генеральны план вядзення гаспадаркі ў прыгараднай зоне, уключаючы і сельгасвытворчасць.

У свой час мы прапанавалі стварыць нацыянальны парк "Белая Русь" на Лагойшчыне, распрацавалі некалькі варыянтаў захавання унікальных ландшафтаў гэтага куточка ў цэнтры Беларусі, але планы так і засталіся планамі, а тым часам там здабываюць пясчана-гравійныя сумесі, капаюць кар'еры, будуюць асфальтавыя заводы і г.д.

Калі мы прымалі стратэгію ўстойлівага развіцця Беларусі на канец гэтага тысячагоддзя і на пачатак будучага, працягваў Іван Іванавіч, мы гаварылі пра тое, што над эканамічнымі прынцыпамі гаспадарання павінны стаяць экалагічныя, — гэта значыць, мы павінны рабіць усё гэтак, каб выкарыстанне прыродных рэсурсаў было не толькі рацыянальным, але і біясферна сумяшчальным, каб, здабываючы адно, мы не шкодзілі другому. На жаль, гэтак атрымліваецца не заўсёды. Прыкладаў — хоць адбаўляй. Скажам, у свой час была пабудавана Вілейска-Мінская водная сістэма — каб падмацаваць магчымасці нашых артэзіянскіх свідравін. Аднак і тут не заўсёды разумныя падыходы: бывае, што чыстая артэзіянская вада ідзе на тэхнічныя патрэбы, а рачная накіроўваецца на бытавыя. Праблема вады, у тым ліку яе ачысткі ад розных кампанентаў — таксічных, цяжкіх металаў, ад ядахімікатаў, вельмі важная. Гэта праблема, бадай, нумар адзін не толькі для Мінска, але і для ўсіх іншых гарадоў нашай краіны. Не менш важная праблема — забруджванне глебы. А праблема звалак, гарадскіх сметнікаў? Аграмадны горад дае велізарную колькасць адыходаў — бытавых і прамысловых, а ў нас практычна няма смеццеперапрацоўчых прадпрыемстваў. Іх у нас толькі два — у Мінску і Магілёве, прытым зусім маласільныя. А як двойчы два — чатыры відавочна, што тое, што можна перапрацоўваць як другасную сыравіну, трэба перапрацоўваць, а што не паддаецца перапрацоўцы, трэба нармальна, разумна утылізаваць. Успомню тут гальванічную вытворчасць на сталічных машынабудаўнічых прадпрыемствах. Гэтая вытворчасць спажывае вельмі шмат вады, тэхналагічны працэс пабудаваны так, што ў гэтую ваду трапляе вялікая колькасць цяжкіх металаў. А ці ўсё робіцца, каб іх улоўліваць, каб яны не траплялі ў сцёкавыя воды?

А ўсё ж гэта, заключыў акадэмік, зводзіцца да аднаго — здароўя нашых людзей. Усё, што мы робім і павінны рабіць у галіне аховы навакольнага асяроддзя, служыць здароўю чалавека. І таму ў гэтых пытаннях не павінна быць дробязяў. Вось таму й нельга было не адгукнуцца на ліст групы паважаных мінчукоў у абарону дрэў — зялёных сяброў чалавека...

Так гаворка наша з акадэмікам вярнулася да таго, з чаго пачалася. І акурат на завяршэнне гаворкі мне згадалася нечаканая выслоўе пра тое, што дрэвы паміраюць стоячы. Гэта іх натуральная, так бы мовіць, смерць: засохнуць на корані. А ў выпадках, якія выклікалі абурэнне нашых чытачоў, іх валілі долу гвалтам. Жывымі, часам — зусім здаровымі. Гэтак быць не павінна. Чалавек павінен найперш выратоўваць дрэва, а не знішчаць яго...

**Марыя МІХАЙЛАВА**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2332-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2332-525, 2331-985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 2332-525 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2331-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2332-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2331-985 |
| паэзіі і прозы — | 2332-204 |
| музыкі — | 2332-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2332-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2332-462 |
| навін — | 2332-462 |
| мастацкага афармлення — | 2332-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2332-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4275
Нумар падпісаны ў друк 16.4.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 2097/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12